KRYVIČIUS mėnesinis literatūros, kultūros ir visuomeninio gyvenimo laikraštis.

# КРЫВІЧ

## МЕСЯЧНІК ЛІТЭРАТУРЫ КУЛЬТУРЫ І ГРАМАДЗКАГА ЖЫЦЬЦЯ

Год

№ 2.

Ліпень.

1923

# Зьмест № 2.



Redaktorius-leidejas K. DUŽ-DUŠAUSKAS.

Рэдактар-выдавец К. ДУЖ-ДУШЭЎС[illegible]

„KRYVIČ"

# КРЫВІЧ

МЕСЯЧНІК ЛІТЭРАТУРЫ, КУЛЬТУРЫ І ГРАМАДЗКАГА ЖЫЦЬЦЯ.

Пад рэдакцыяй В. ЛАСТОЎСКАГА і К. ДУЖ-ДУШЭЎСКАГА.

Адрэс рэдакцыі: Kaunas, Vitauto prosp. Nr. 30. (Lietuva).

Падпіска на поўгада з перасылкай . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . Lit. 15 — (1:50 доляра)

Цана нумару паасобна . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . Lit. 3 — (0:30 „ )

Рукапісы рэдакцыя ня вертае і пакідае за сабой права пераробак і скарочаньняў.

| 1923 г. | Л І П Е Н Ь | № 2. |
|---|---|---|

В. ЛАСТОЎСКІ.

## Рэйнскі вадапад.

Як вар,
укруг скалы
што высіцца сярод ракі,
кіпіць,—рычыць, валва
і пеніцца, як вепр дзікі
калі яго ў княі аступіць смыч.
Пс... во, ў голкаце, чыйсь кліч,
чыйсь плак цяжкі чуваць!
То зборанай валвы апошні рык
распачны!
Ня ўздымецца яна ўжо зноў
ў напружаньні змагарным:
ў ручве ціхім і марным,
у забудзі ей суджана сплываць.
Змаганьне, гон, сталока...
Ціж толькі для таго ўся гэта склока
каб грываю трахнуць
адзіны міг?!

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

У гроце камяннай,
панад шалёнаю кіпежай,

стаялі мы, з табой, Іване,
ўслухаючысь ў змагарны гуд;
і ты сказаў з задумаю ў вачах:
„Во так шуміць нязмоўчна бор
у нас і дождж аб дах
ў бязсонлівыхъ начах“...
І ты хацеў каб бор гудзеў
табе пад вечны сон...
Адзін стаю я зноў
над сьпенянай валвой;
спаміны ціснуцца навалай...
Тутніць у жылах кроў...
І я дрыжачаю рукой,
з сьвятарнаю пашанай,
пасьцерты ўжо дождждом
твой надпіс паднавіў.
І мне здалось,
што быў ты, зноў, са мной...
І быў ткі, мусі,
як дух змаганьня
Беларусі.

---

## Кельнскі Сабор.

Пачвар брыдкіх збароўшы роты,
наўзвыш рвануў пабедны дух!
Такі уздойм, пачулі Готы
ў сваей душы, скрышыўшы Рым.
Пазбыт ланцуг!!!
І Богу ў чэсьць, кудзьбіт старэтны,
зьмяняў скалу у хвальны сьпеў,
шыбаў да зор; хоць апраметну
глыбежу знаў, ды шчасьця міг
Багоміць ўмеў...
Кудзебных кроз, хацьбы магутнай,
агідных мар—у гэты мур—
ўклято бязмер! З пад сьнедзі бруднай,
яшчэ цяпер, лучаць гудзьбы
змагарных бур!

---

## У Альпах.

Кругом
правечна бель сьнягоў
ня топтаных людзкой ступой...
Ў вышы сінеюць льды
дамаскай стальлю,
і небазвод ўражае дальлю
панадлівых нябёс паўдзённых.
Як надзен іх блакіт чароўны
з краіны вечных сьцюж!
А глянеш ўніз, з гары,—
пабачыш там муры
дамоў, сьвятынь,
малых ў нізіннай далі.
І горнага арла
на скале,
што з годнасьцю спакойнай,
паміж забаў ў стыхіі вольнай,
аднехаця, цікуе зайчы троп.
За намі шэры строп
нябёс паўночных,
абшар, дзе лютуе зіма,
дзе белым саянам сьнягоў
засьцелена зямля.
Тут, на рубяжы двох сьветаў,
двох культур,
дзесь з вяршадзі высокай,
глядзя на рымскіх замкаў звалы,
тваей мінуўшай славы,
што ўжо ня дасьць натхненьня,
я не завідую табе.
Італьская зямля!
Лепш наша бедная калыска
жыцьцём напоўнена у шчэрць,
як ваш трупехлы гроб,
з якога зеціць сьмерць.

---

## Сабор Св. Марка у Вэнэцыі.

Візантыі таўпежнай,—
бліскучай, чваннай і многагрэшнай,—
сівы мармур старэтных сьцен
замацаваў пакайны гімн!

Масыў яго к зямлі прырос,
як собіна сьвятая;
і толькі Апаллонаў воз
імкнецца да нябёс.
Ўнутры, вачамі грозных ўладароў
з залочанага стропу, на шэры дол,
сьвятыя посьнікі, халодным зрокам,
з суровасьцю нямой глядзяць!
Яны—імпэрыі нябеснае княжаты,—
багомасьцю багаты,—
нясьлі ў жыцьці крыжы,
дык, ты... цяпер,
дрыжы!
Ці будзь раўнёю ім:
або чарнец, або ўладар...
Спагаду, літасьці табе
ня суліць іхні зрок,
калі зьняважыў, неўнарок,
зямны, ці то—нябесны цэзарызм.
Ўвесь гэты холад, пыху і суровасьць
адно мякчыць: залочана асноведзь.

---

## Генуэскі рынак.

Купцам рады палацаў пышных
бязродны раб тут настаўляў,
і маўрытанскі лук выгібны
вычурнай вязьзю аздабляў.
Зусюль
сюды палон звазіўся;
з далёкай нат Русі,
які штогоду набіралі
у нас сьвятыя, добрыя князі.

. . . . . . . . . . . . . . . . . .

Алег сталіцу Крывічоў,
град людны і вялік, паланіў:
ён першы шлях ў Геную,
цераз таўрыдзкія факторы,
з людзкім таварам торыў...
Рагнеду Ладзімір перад баярамі
растліў,
а гордых полацкіх мяшчан
куды-ж?—Ў Генўю збыў...

Пазьней ён тураўцаў да Бога навярнуў,
у веры прасьвяціў:
„со кліром і епіскопы“ у Прыпяці хрысьціў.
Хіба сваіх! Бо бунтароў, а гэта ўсіх,
пляніў;
і цераз корсунскіх купцоў,
на віны кіпрскія зьмяніў.
І, ось, пашлі у Кіеве піры;
князь-сонейка на покуце,
пры ім багатыры:
Дюковічы, Плянковічы
дапушчан смэрд той Селянінавіч
да княжага стала,
скранулі Мурамскога з пушчаў сядуна
к вялікай справе.
Па пьянаму ідзе застольная лахва
з разбойніцкіх учынкаў...
Наслухаўшысь якой, да гэтае пары—
кудзебнікі, гудзьбіты, скамары—
дурылі й дураць сьвет
былінамі!
Прост, радасна было дружыне ваякоў,
паверыўшым насьвежа у Хрыста,
што ім ад кождага храста, пяцёх паган,
прыходзіцца па душ пяцьсот
славянскай нехрысьці...
Якіх аднак,
—хай новы Gott gross прыйме dank—
Карсунь за золата купляе;
пазьней, штолепшых дзевак спаміж іх,
—ну, ведама, паганак,—
ў Генуюю высылае.
Ладзімір Манамах, спаліўшы Менск,
замежны свой папоўніў крам:
ні чэлядзі ані жывіны
ня кінуў там;
усё і ўсіх забраў,
і, дзедаўскай сьцягой,
у Генуюю пагнаў!
І дзьвесьце з лішнім лет трывала оргія хрышчэньня;
гуляла Русь без ўсякае аглядкі:
палілі гарады, з зямлёй раўнялі весі,
дасьцейны Рурыка нашчадкі...
То іх,—мясцовыя мужы,

што з даняю прышлі
і з горкім словам,—
да воўкаў роўнілі ў аўчарні:
яны—бо люд не распасьлі.
як некалі свае,
мясцовыя князі.
Затое поўныя галеры,
набітыя ўпавал людзьмі,
плылі ад Крымскіх берагоў
па ўсіх партовых гарадах
паміжзямельных.
І тут,
на гэтым рынку,
княжыя мужы „таварам“ таргавалі:
рабоў, рабынь—палоненых ў вайне,—
на продаж выстаўлялі.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Мінула тысяча, ўладаньня русаў, лет;
і воляю канoднай,
на гэтых самых камянёх,
ідзе зноў торг нягодны.
А толькі, ў нашы дні, ідзе ўжо ладам новым:
з раздробнага, малога,
ён стаўся, бач, гуртовым!
Ізноў, патомкаў Крывічоў,
паставіў камунізм
на торжашчным кружале:
ня тых, партыйных, а такіх,
якіх й Варагі прадавалі.

---

**Рабіндранат Тагорэ.**

# Нарысы.

## I.

Я прахапілася раным раненька і знайшла ліст ад яго.

Я ня ведаю што ён піша, бо ня ўмею чытаці.

Я не стурбую мудрага чалавека і не адарву ад кніг яго. Бо хто ведае, ці трапіць ён вычытаць тое, што ў лісьце пераказана.

Не, лепш прытулю ліст да майго сэрца ды патрымаю каля чала.

А калі ноч прыдзе і зоркі, адна за другой, замігцяць на небе, я разгарну яго на маіх грудзёх і моўчкі буду ўслухацца.

Лісьцё дрэваў, што шумяць пад тхненьнем, ветру, будзе чытаць яго; а сем мудрых зорак势 стануць апаведаць мне аб ім з неба.

Я не магу знайсьці таго, што шукаю: я не магу зразумець таго, чаго хацела-бы навучыціся; але гэты нячытаны ліст спатоліў душу маю і ў песьні ператварыў сумныя думы мае.

II.

Судас—агроднік сарваў ў сваім ставе апошню кветку лотаці, якая ухавалася ад страшэннага спуставаньня зімы, і нёс, каб прадаць яе каралю, каля брамы палацу.

Але тут сустрэў яго падарожны, які мовіў яму:

— Вазьмі сколькі жадаеш за опошню лотаць! Я хачу яе ахвяраваць Буддзе!

Судас сказаў:

— Калі ты заплаціш мне адзін чырванец, то гэта кветка стане тваею!...

Падарожны ужо плаціў.

Якраз пад той момант вышаў кароль купіць кветку, бо ён кіраваўся з дому, ў сьвятыню Будды і думаў:

— Добра было-бы ахвараваць тую апошню лотаць, што красуе зімой!..

Калі агроднік сказаў, што яму давалі за кветку чырванец, то кароль выняў дзесяць. Але падарожны падвоіў цану.

Тады агроднік, будучы дужа скупым і хочучы вялікшага зыску з тэй кветкі, за якую так таргаваліся падарожны і кароль, пахіліў галаву і сказаў:

— Я не магу прадаць гэтае лотаці

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Ў глухой цішыне паўднёвага гаю, за гарадзкімі мурамі стаяў Судас—агроднік—перад Буддай, на вуснах якога спачывала маўчаньне любові і з вачэй якога ясьнеў спакой ранічнае зоркі ў часе чыстай, як раса, восені.

Судас узіраўся ў яго аблічча, палажыў лотаць каля ног яго, а галаву сваю скланіў аж да запарушанай зямлі.

Будда пасьміхнуўся і спытаў:

— Чаго жадаеш мой сыну?...

І Судас адказаў:

— Каб ты дакрануўся да мяне тваімі нагамі!

III.

Красу і супакойнасьць ўнясі ў маё безладнае жыцьцё, як калісь ты, жана, ўнасіла іх ў мой дом, калі жыва была.

Чыста зьмяці пылам запарушаныя астаткі дзён маіх. Напоўні ўшчэрць парожнія жбаны мае. І папраў тое, што было занедбанае.

Тады адчыні апошнія дзьверы Сьвятыні маей, засьвятлі сьвечкі, і мы, змучаныя, станемо разам перад нашым Богам.

IV.

Сонца хавалася за заходны бераг ракі; і апошнія яго праменьні падалі, прабіваючыся праз лесавую гушчу.

Пастухі з недалёкага манастыра, пазаганяўшы статак, сядзелі каля агня і ўважна слухалі вялікага Вучыцеля Готамо, не прапускаючы ніводнага згуку яго слоў; ажно прышоў чужы хлапец. Ен павітаў Вучыцеля і, даючы ў дар яму кветкі і фрукты, прыпаў да ног яго і сказаў пявучым галаском:

— Вучыцелю, я прышоў да цябе, каб ты ўзяў мяне з сабою, калі пойдзеш ў дарогу да найвышэйшай праўды!... Саціякама—імя маё!...

Ласкавасьць няхай апачывае над табою!—сказаў Вучыцель. З якога ты роду, маё дзіцятка? Бо толькі браманы лічаць сябе годнымі найвышэйшай праўды!...

— Вучыцелю! Ня ведаю, з якога я роду. Пайду і спытаю маці сваю.

Сказаўшы гэта, разьвітаўся Саціякама і ў брод перайшоўшы рэчку, пабег да сваей маткі ў хатку, якая стаяла ў канцы беднай вёскі.

Сьвечка кідала сваё мутнае сьвятло ў хатцы; а маці стаяла ў дзьверах, чакаючы звароту свайго сына. Яна ўзяла яго ў свае абоймы; цалавала залатыя яго валасы і пытала, як прыняў яго Вучыцель.

— Як звалі майго бацьку, дарагая мама? —спытаў хлапец,—бо толькі браману гожа імкнуцца да найвышэйшае праўды... сказаў мне Готама!

Кабета сумна пахіліла галаву і ціха прамовіла:

— Беднай была я ў маей моладасьці; і многа паноў я мела. Карміла цябе грудзьмі сваімі маці твая Габаля, маё золатца, якая нямела ніякага мужа!..

Першыя прамені сонца цалавалі вярхі дрэў наўкол лесавога манастыра.

Вучні з пакалмачанымі і мокрымі ад ранічнага купаньня валасамі, сядзелі пад старым дрэвам каля вучыцеля. Тады падышоў Саціякама.

Ен скланіўся ў ногі Мураму і моўчкі чакаў стоячы.

— Скажы мне, спытаў яго Вялікі Вучыцель, з якога роду паходзіш ты?

— Вучыцелю,—адпавядаў хлапец, я ня ведаю. Маці мая мне сказала, калі я яе пытаўся: „ў маей моладасьці я служыла многа якім паном, а цябе ўскарміла сваімі грудзьмі маці твая Габаля, каторая ня мела ніякага мужа“.

Тады паднялося глухое нездаволеньне паміж вучняў, быццам сярод пчолаў у вульлі, калі стрывожаць іхны спакой, нездаволеньне безсаромлівасьцю гэтага выкідыша людзкой грамады.

І ўстаў Вялікі Вучыцель са свайго месца, выцяг свае рукі, прыгарнуў хлапца да грудзёў сваіх і сказаў:

— Найдабрароднейшы з усіх браманаў гэта ты, маё дзіцятка! Табе прыпала найвартнейшая спадчына—спадчына праўды.

ПЕРАКЛАЎ Л. А.

---

ГЭРГАРТ ГАЎПТМАН.

# Афорызмы.

Мастак, катораму апошняя тайна яго мастацтва ня ёсьць музыкай—гэта пакульшто дзіця.

* * *

Па чым я найбольш сумую? Па веручых людзях, кождае адмены.

* * *

Пэражыць цэлы доўгі дзень бяз моманту адзіноты—мне гэта тое самае, што для рыбы жыць у ставе без вады.

* * *

У кождым чалавеку сьпіць якісь закляты танец.

* * *

Ня трэба прыслухацца, як трава расьце, бо ад гэтага можна аглохнуць.

* * *

Мастак, каторы ў адным якім кірунку стаў майстрам, павінен стацца вучням у іншым.

* * *

Мы павінны быць такімі, як многацэнныя кілімы: чым больш людзі будуць таптаць па нас, тым лепшымі трэба нам быць.

* * *

Забава з кабетамі: З імі ня можна ніякай партыі давясьці да канца: раней ці пазьней прыходзіцца нам з імі памешаць фігуры.

* * *

Яна была запраўдная жанчына: дзень—ў дзень цешылася сваімі сандальчыкамі.

* * *

Сужэнства—гэта такая дзяржаўная установа, як і катарга, толькі іншай катэгорыі.

* * *

Дылетантызм у мастацтве можна дараваць і нават пахваліць; але няможна рабіць з яго прафэсыі.

* * *

А, што, каб так пашырыць новае паняцьце: шубраўцы гуманнасьці? *)

С. Т.

ВЛАСТ.

# Лабірынты.

I.

Ад некалькіх гадоў, стала ў мяне звычаем выяжджаць, на тыдзень-два, ў які-колечы закутак Беларусі для апазнаньня роднай старасьвеччыны. Мяне даўно маніў к сабе наш сівагорбы Полацак сваім рамантычным мінулым, сягаючым у легендарныя часы і, гэтага году, я пастанавіў сабе пару вольных летніх тыдняў, правясьці ў Полацку. На маю пастанову астаточна заважыў ліст атрыманы з Полацка, ад тамтэйшага аматара—архэолёга Івана Іванавіча, які даносіў, што каля яго ўтварыўся кружок любіцеляў старасьвеччыны з мясцовых жыхароў. „У нашых вячорніх вольных бясёдах запраўды ажываюць мінулыя векі ў казках, легендах і фантазыях“... пісаў ён мне ў сваім лісьце.

Вечарам, таго-ж дня, я сеў ў вагон у Вільні, а на другі дзень раніцай ужо ішоў старымі вуліцамі Полацка, шукаючы сабе памяшчэньня ў гасьцінніцах.

Днём пабываў у Івана Іванавіча, дзе аглядаў цікавыя кахлі і мэталёвыя бляшкі, паходзячыя з раскопак у даўнай княжай сялібе—Бельчыцах. Пазнаё-

---

*) У гэтым годзе ўся Нямеччына сьвяткавала 60 гадавіну нараджэньня найвыдатнейшага свайго сучаснага паэты. Аб творчасьці Гаўптмана, падамо пазьней, пакуль што памешчаем вязанку яго афорызмаў.

міўся ў яго з двумя учасьнікамі, як яны называлі, „Архэолёгічнай Вольнай Контэрфратэрніі“. Адзін з іх быў мясцовы чыноўнік, абруселы немец, якога я знаў з брашуры напісанай ім, калісь, калі было яшчэ моднае і паплатнае для чыноўніцкай карьеры русыфікатарства. У гэнай брашуры ён задаваўся мэтай давясьці, што па расійску трэба пісаць званьне гораду ня „Полоцк“ а „Полотск“ і што бытцам ў гэтым перамянаваньні прастарой назовы крыўся сам цэнтр „абрусеньня краю“. Вынікам яго брашуры сталася тое, што ў расійскай мясцовай пісоўні завёўся хаос, бо некаторыя пачалі, запраўды, пісаць „Полотск“, „полотскій“, і т. д., а іншыя, пайшлі яшчэ далей і пісалі— „Полотеск“, консэрватары-ж і мясцовыя жыхары асталіся пры старой назове.

Пры цяперашняй, асабістай, з ім знаёмасьці я даведаўся, што ён, ужо 40 гадоў, зьбірае матэрьялы і дакуманты да гісторыі краёвай, што ў яго два пакоі біткам набіты гэтымі матэрьяламі, сярод якіх маюцца неашацаванай вартасьці рэчы.

Другі быў колішні акалічны памешчык, які, злажыўшы гаспадарку, разпрадаў зямлю, і, цяпер, жыў у Полацку, ў сваім ўласным доміку з садам, з гатовага граша. Бацька яго меў нейкія блізкія адносіны да Васільянаў, а ён сам цікавіўся галоўна дэмоналёгіяй, кабалістыкай і г. п. Меў, як зарэкамандаваў мне яго Іван Іванавіч, у сябе „чорнакніжную бібліатэку“, якой нікому не паказываў і ня даваў чытаць. Знаў ён гэбрайскую мову і любіў час, ад часу, пайсьці ў жыдоўскую сынагогу падыскутаваць.

Мы ўмовіліся сустрэцца, разам з іншымі яшчэ учасьнікамі „Вольнай Контэрфратэрніі“ на кватэры у Івана Іванавіча.

Вечарам прыбыло яшчэ двое. Мясцовы полацкі мешчанін Грыгор N., маўклівы, сівавусы старац, які ўпарта гаварыў толькі пабеларуску, а часам прытвараўся, што неразумее некаторых слоў па расійску і па некалькі разоў перапытаўшы, паўтараў слова ў перакладзе на беларускае, з асаблівым на яго націскам. Мне яго зарэкамандавалі пад найменьнем „Падземны Чалавек“, спэцыяльнасьцю яго было знаньне розных фантастычных легенд аб падзямельных ходах і дзівах скрытых у іх, якія ён умеў апявядаць з паражаючым рэалізмам, але на заканчэньне заўсёды дадаваў: „так пераказуюць, а хто-ж ведае ці ёсьць ў гэтым хоць кропля праўды“.

І, ўрэшце, апошнім учасьнікам „Контэрфратэрніі“ быў сярэдніх гадоў вучыцель гарадзкой школы, які цікавіўся галоўна мясцовай гісторыяй да прыняцьця хрысьціянства Крывічамі.

Пеазнаёміўшыся разселіся мы за сталом на выгодных т. зв. „клубных крэслах“, глыбокіх і мяккіх, з шырокімі поручамі. На стале вясёла шумеў самавар і красавалася бутэлька, запарушаная пылам і плесьню, з водкайстаркай. На талерках панадна была параскладана ўсякага гатунку дымляніна: кумпячына, сальцэсона, каўбасы, якія ня маюць роўных сабе ў сьвеце, калі бываюць прыгатаваны паводле старасьвецкіх рэцэптаў, рукамі беларускіх гаспадарных кабет.

Пасля другой-трэцяй чаркі „Падземны Чалавек“ пахінуўся да мяне і пачаў даводзіць, што гара, на якой стаіць Верхні Замак—насыпная. Што першапачаткова гэта была толькі магіла знамянітага валадара ўсей пабалтыцкай „ратайскай“ Скіфіі, а пазьней яе дасыпалі і на ёй стаяла бажніца пасьвячоная Дзеве Сонцу, якую чцілі тут ў постаці агністага птаха з дзявочай галавой. Пры гэтым ён сягнуў у кішэнь і падаў мне бронзавы мэдаль са стылізаваным рысункам, характэрнага вельмі, але не бачанага мной дагэтуль стылю. На аднэй старане мэдалю быў зьмяявік, а на другой—Дзева—Сонца, ў постаці птаха з людзкой галавой, акружанай аўрэоляй.

— Гэткія мэдалі даўней знаходзілі часта каля гары, а гэты—я сам выкапаў ў пясочку.

У нашу размову ўмяшаўся вучыцель, які сказаў:

— Я бачу, што вас застанаўляе закончаны стыль рысунка. I я пэвен, што вы думаеце--вот сабе грубы прымітыў! Людзі імкнуліся нешта адтварыць, але нямаглі перабароць тэхнікі, а дзеля гэтага зрабілі бытцам цень падобнасьці да рэальных зьмеяў. Вось, акурат, у гэтым крыецца наша самае грубае незразуменьне старасьвеччыны. Пасьлядзіце за разьвіцьцём мастацтва ў Грэцыі: там пасьля груба рэалістычных скульптураў Фідзія і яго сучасьнікаў, пасьля вульгарнага клясыцызму, наступае пэрыод, пазьнейшы—Візантыйскі. Стыль Візантыйскі, гэта ня ёсць упадак мастацтва, а яго вышэйшая ступень. Першы пэрыод належыць, як і ў разьвіцьці рэлігіі, да богатвораньня прыроды; другі—да тварэньня прыроды па свайму замыслу і хаценьню. У першым пэрыодзе, чалавек ня пэўны сваіх духовых сіл і яму здаецца, што зьвер ня толькі фізычна, але і духова сільнейшы за яго, яму імпануе зьверачы сьвет і ён п чынае яго багоміць. А таму ахвотна прыбірае сваю галаву бычачымі рагамі, цела акрывае мядзьведжымі скурамі, або размалеўвуе на ім падабізны імпануючых яму зьвярат і гадаў. Калі-ж, ходам разьвіцьця культуры, чалавек даходзіць да пазнаньня самога сябе, да ацэны сваіх духовых сіл, ён, разам з бычачымі рагамі, ськідае з сябе і багомленьне рэальных форм ў мастацтве. Пачынае сам тварыць неістнуючыя формы, ўстанаўляе канон мастацтва. Візантыйскае мастацтва гэта ёсьць мастацтва вышэйшай фармацыі чым грэцкі клясыцызм, бо гэта ёсьць мастацтва не натуралістычнае, а канонічнае. Тое, што мы бачым у Грэцыі паўтараецца ўсюды, дзе толькі цывілізацыя людзкая даходзіла вышэйшыхъ ступеняў: і ў Асырыі і Вавілоніі, і ў Егіпце, і ў Індыі, ў Кітаі і Японіі...

„Гэты мэдаль сьведчыць нам, што і мы, на гэтай зямлі, ў гэтым краю праходзілі ўжо раз росквіт высокай самаістай, культуры, якая загінула, якой астанкі, вельмі рэдкія, зьяўляюцца, пакуль што, для нас таёмнымі крыптонімамі даступнымі толькі рэдкім, як я сказаў бы, пасьвячоным людзям. Нашае нешчасьце, ў тым, што край наш не абладае ні годным да будовы камянем, ні капальнямі мінэралаў, а з гэтай прычыны, адзіным годным да будовы матэрьялам было дрэва, нашы мастацкія будоўлі былі драўляныя, малатрывалыя. Нашы пісаныя памятнікі не на камянях высякаліся, але на бяроставых пластках, былі крэсьляны, якія лёгка запаляліся і гнілі. Скажыце, каб у Егіпце, Індыі, Вавілоне была драўляная культура, то ці ведалі-б мы сягоньня штоколечы аб ей? Не.

— Маеце слушнасьць,—сказаў памешчык. Нашы продкі перажылі стадзію высокай культуры. Як довад магу прывясьці, што дагэтуль, сярод нашага простага народу, які поўтысячы лет ходзіць у чужым ярме, дагэтуль маюцца ўласныя назовы важнейшых нябесных знакаў. Напрыклад, гвязду Вэнэру, дасягоньня сяляне называюць „Чагір“. Пад найменьнем „Чагір“ фігуруе Вэнэра ў Супрасльскім календары XVIII ст., дзе аб ёй гаворыцца: „Гвезда Чагір між ўсімі гвездамі 10 месц у кождым месяцы мае, а па трыкрот прыходзіць на кождае месца, кождага месяца“. Вялікую Мядзьведзіцу называюць „Стажарамі“; Плеяды—„Сітцом“, або „Вуціным Гняздом; Орыонаў пояс—Кігачамі; тры гвязды, каля Млечнай Дарогі, называюць „Прахамі“, або „Жалезны Абруч“; ў галаве Млечнай Дарогі знаюць „Касьбітаў“, а саму Млечную Дарогу называюць „Вайсковым Станам“. Назоў гэтых захавалася многа. А што гэта знача? Гэта знача, што быў калісь час, калі ў нас працьвітала астралёгія, глыбокае знаньне якой зьяўлялася прывілеям клясы вучоных, але была адначасна, мабыць, ведай даступнай для ўсіх станаў.

Тут яго перапыніў стары чыноўнік, кажучы:

— Сярод маіх сабраньняў, меў я карціны кніг пісаных на бяросьце, незразумелымі знакамі, падобнымі да рунічнага пісьма. Я маю данныя цьвердзіць, што т. зв. Ятвягі ня былі асобным племем, як памылкова ўтрымліваюць, а гэта ёсьць названьне клясы сьвятароў, паганскіх часаў. Тых зорнікаў і зораведаў, а па цяперашняму астраномаў, якія адначасна былі і клясай сьвятароў, духоўнікаў. Прашу зьвярнуць увагу на падобнасьць паняцьця ўложанага ў словы „ятвяг“ і „жрэц“. Там і тут да ўтварэньньня слова ўзята паняцьце яды —жорці, есьці. Выйдзіце з гэтага пакою на рынак і спытайце, дзе прадаюць ядомыя рэчы? Усякі вам адкажа:—ў ятках. У старапольскай мове жэртва называецца „objata“, ізноў такі тое самае паняцьце яды ўложана ў слова. Наш селянін дагэтуль кажа на страву „ятво“, славянскае—яство, яства. Па польску пішацца „Jadźwingowie“ дык і тут ёсьць карэнь „яд“, яда...

У даўныя часы паміж словамі: „ятвяг“ і „жрэц“ была акурат такая рожніца, як у цяперашнім нашым разуменьні, паміж словамі „сьвятар“ і „жрэц“. Для ваюючага і нішчачага, ўсё паганскае, хрысціянізму, ўсе старой веры і сьвятары, і грубыя шаманы, і варажбіты—былі агульна пагарджанымі жрэцамі. Гэта староверная, з высокай культурай, інтэлігенцыя, брыдзілася змагацца забойствамі з новай верай і эміґравала ў глухія пушчы на пагранічча староверная і аднавернай з імі Літвы. Як іх там тропілі і нішчылі, немаль штогод, палячы будоўлі і выразаючы людзей, сьведчаць ужо расійскія і польскія летапісцы. Разам з тым, калі загінулі ятвягі, загінула і старая дахрысьціянская наша культура.

Тут ізноў узяў слова „Падземны Чалавек“.

— Я там няведаю, якое названьне насілі сьвятары дахрысьціянскіх часаў. А што яны займаліся астраноміяй—гэта пэўнае. Ваша, хіба ведаеш,— зьвярнуўся да мяне,—Богінскае возера? Цікавы закутак! Уся ваколіца поўна старога жыцьця. На возеры ёсьць паўвостраў „Богіна“, а таму „Богіна“, што там былі знамянітыя бажніцы. У канцы возера ідуць валатоўкі бронзавага веку, на пяшчыстым урочышчы; гэта мейсца—жалю, смутку, па нашаму— могілкі—носіць найменьне Жаль-Бор. На востраве, яшчэ да скасаваньня паншчыны, трымаўся высокі капец, ў сярэдзіне каторага была старой веры бажніца з адзіным аконцам, праз якое прамень сонца ў сярэдзіну падаў толькі роўна ў поўдзень. Капец гэты ўзарвалі маскалі ў часе польскага паўстаньня, думаючы, што гэта нейкая крэпасьць. Там, ў Богіне, ёсьць такжа падземныя ходы, як і ў нас, пад Верхнім Замкам, ў сярэдзіне гары. Старая веда і старая культура не загінула. Кажуць людзі, а хто-ж ведае, ці ёсьць у гэтым хоць кропля праўды, пад Верхнім Замкам, за магілай невядомага валадара, ёсьць склады з багацьцямі вялікімі. Кажуць у абход абшырнай грабніцы, на права, ёсьць мураваны праход, крокаў 60 даўжыні, і праз яго ўходзіцца ў сховы са старымі кнігамі. Часьцю пісаны яны на дасочках, часьцю на берёставых пластках. Зложаны кнігі ў каваных серабром скрынях, ў сярэдзіне абітых скурай. З гэтай кніжні пракавечнай ёсьць ход ў скарбец... Толькі дужа страшна ісьці там.

Голас яго абарваўся спазмай ў горле, ён сам неяк зґарнуўся ў крэсьле, а вочы застыглі, бытцам угледжаны ў няведамую даль.

На момант спынілася размова, а, пазней, памалу, перашла на знамянітую полацкую бібліатэку, якой здабываючы Полацак, у 1572 гаду, шукаў Іван Грозны і не знайшоў. Якую даручаў папа Грыгор XII Поссэвіну знайсьці і пераслаць у Рым. Усе аднагалосна утрымлівалі, што бібліатэка гэта была тады добра схавана і, сягоньня, ёсьць недзе ў падземныхъ полацкіх лёхах. Іван Іванавіч расказаў, што ўласнымі вачамі чытаў, у старых

мэтрычных кнігах, ў архіве вітабскай лютаранскай кірхі, запісь на белягу аб тым, што ігумен Бельчыцкага манастыра, перад аблогай гораду Масковіяй, зляжыўшы ўсе манастырскія скарбы і кнігі, паплыў ўніз Дзьвіны каб захаваць усё гэта ў падзямельлях Верхняга Замку. Старык чыноўнік, вылічаў якія кнігі маюцца ў захаванай бібліатэцы.—А найперш ёсьць там, казаў ён, летапісь полацкага княства, пісаная рукой св. Ефрасініі, праўдзівы экзэмпляр „Повесьці временных лет", бо дахаваўшыяся да нашых дзён копіі, пераблутаны і далёкі ад арыгіналу, далей—ўласнаручныя пісаньні братоў Кірыла і Міфодзія, Візантыйскія хронографы і г. п.—Памешчык сказаў:—васільяне ведалі, дзе захавана бібліатэка, але баючыся, каб яе не забралі езуіты і ня зьнішчылі, хавалі мейсца яе знаходжаньня ў сэкраце.

Гутарка зацягнулася да познай ночы.

Разьвітаўшыся мы разыйшліся кожды ў свой бок.

Мой пакой ў гасьцініцы быў на другім паверсе і акно выходзіла ў сад за якім, на мураваным доме, красаваўся агаловак коміну ў кшталце кароны. Полацкія старажылы кажуць, што даўней больш было гэткіх аздобных комінаў ў горадзе, з часам яны вывеліся, і я пашкадаваў ў душы заміраньню роднай старасьвеччыны. Ў стылю агалоўка было нешта неўхватнае, што напамінала мне стыль нядаўна бачанага мэдалю, які паказываў „Падзымны Чалавек". Ціж-бы рэшткі стылю яшчэ жылі? Я пахінуў галаву на абраменьне акна і задумаўся. Перадамной, ў фантазыі, стаў расьці стылёвы горад з аграмаднымі, дзіўнымі будоўлямі...

## II.

Першы мой сон стрывожыў ціхі стук у акно. Я ўскочыў з ложка і падышоўшы пабачыў ў акне вусатае аблічча „Падземнага Чалавека". Ен даваў мне знакі рукамі каб адчыніць яму акно, пры чым клаў палец на вусны, даючы гэтым знак каб я не нарабіў гоману.

Калі акно было адчынена, ён сеў на падаконнік, зажыў з сярэбранай табакеркі і пачаў гаварыць шэптам:

— Я даўно ўжо ведаю ход ў схаваную бібліатэку, але сам ня рухаў яе і нікому не паказываў, маўчаў, баючыся каб не заграбілі у нас і гэта наша апошняе багацьце. Адзявайцеся, пойдзем! Я ўзяў з сабой сьвечку, ліхтарню і усё патрэбнае...

Німа што казаць аб тым, як хутка я быў апрануты і гатовы ў дарогу

Мы сышлі па драбіне ўніз, аднясьлі яе ў старану і паклалі на зямлі, а самі цішком вымкнуліся з брамы і ськіраваліся ў старану Верхняга Замка. Мінут за 20 мы былі на месцы. На гарэ, ў старану Дзьвіны, тады стаялі яшчэ руіны замковых будынкаў, ў якіх да 1839 г. месьціўся васільянскі, уніяцкі манастыр.

Замак быў, як апавядаюць, зруйнаваны ўсяго толькі ў 40-х гадах. Сьпярша па загаду цара Мікалая I, з яго зьнялі медзяны дах і адправілі ў Пецярбург на будову Ісаакіеўскага сабору, а пазьней нехта, ці запарушыў няўмысна, ці мо ўмысна падпаліў будынак. Пасьля пажару—ён больш паўсталецьця пакінут быў на руйнаваньнесе сіламі прыроды. Урэшце руіны, каля 1913 г., прадаў расійскі Урад нейкаму маскалю падрадчыку на цэглу, які, разабраўшы шацоўныя муры, сплавіў лайбамі цэглу ў Рыгу.

Але тады, калі мы ўходзілі ў будынак, часьць яго, а найменна, левы вугал ў ніжнім паверсе, меў яшчэ цэлыя скляпеньні. Мы пацёмку дабраліся да вялікай вуглавой, ў скляпох, салі, сьцены якой і столь былі пакрыты ста-

рымі фрэскамі, месцамі асыпаўшыміся, месцамі сьцертымі і павыдзіранымі. Зправа, між двох атворын ад дзвярэй, была круглая ніша да самага памосту.

— Во, тут, ход у падзямельле,—сказаў мой павадыр і пачаў рукамі адгартаць насыпаны, на добрага поўаршына груз. Супольным высілкам мы ачысьцілі дно нішы, якое было зроблена з аднэй, ў квадратовы мэтр, каменнай пліты.

— Гэта дзьверы,—сказаў „Падземны Чалавек“ і засунуўшы ў шчалугу, між камяняў, загнуты жалезны прут, с высілкам павярнуў яго. Нешта глуха храснула і пліта, аднэй стараной, пачала апускацца ўніз. Адкрыліся вітыя мураваныя сходы, якімі мы, пры слабым сьвятле „сьляпой“ ліхтарні, пачалі зыходзіць ўніз. Калі нашы галовы зраўняліся з канцом павісшай пліты, то пліта сама сабой паднялася ўверхі, зашчоўкнулася, пры помачы прыладжанага да яе мэханізму.

— Акром мяне, з жывых, ніхто ня ведае аб гэтым ходзе. Ты другі будзеш ведаць аб ім і перадасі патомным. Але перш чым увайсьці ў тайныя ходы, ў якіх, нашы празорлівыя прадзеды захавалі ня толькі свае культурныя, але і вялікія матэрыяльныя багацьці, ты павінен даць абяцаньне зложыць прысягу на вечную тайну.—Казаў стары ўрочыстым голасам, з націскам на кожным слове.

Я высказаў сваю згоду і ён рушыў далей. Ішлі мы мінут 10 вузкім, з пачарнеўшымі сьценамі ходам, маючым многія павароты але ўсьцяж пахіляючымся ўніз. На адным з паваротаў мой павадыр стрымаў мяне кажучы:

— Памятай, пасьля сёмага вугла ёсьць западня. Перад намі, ўровень цэглянаму памосту, была, на сажань даўжыні і ва ўсю шырыню ходу, ўпраўлена ў памост дубовая дашка.

— Гэта дашка на вяртугу устроена, хто няведае, ступіць на яе, то і зваліцца ў глыбокі калодзезь, а даска, сама сабой, стане на месца. Пры гэтым, хочучы паказаць як гэта адбываецца, ён націснуў палкай на канец дашкі і тая віхнулася ўніз, адкрываючы чорную пропасьць, скрытага пад ёю калодзезя. Праваднік патрымаў гэты рухомы мост, а мне загадаў выцягнуць засунутую за жалезныя скобкі, збоку мураванай студні, дашку, паклаўшы якую на мост, мы перайшлі на другі бок яго і схавалі дашку ізноў, з другой стараны.

Прашоўшы некалькі крокаў мы знайшлі ў сьцяне нізкія чорныя дзьверцы, за якімі была рухомая сьценка, адсунуўшы которую ўвашлі ў даволі абшырны пакой, з мураванымі лавамі каля сьцен і высокім падмуркам пасярэдзіне, на каторым стаяла старасьвецкая труна, знаная яшчэ данідаўна мейсцамі на Беларусі пад назовай „корсту“. Гэта—тоўстая калода з высечаным ў сярэдзіне дуплом, ў якое клалі нябошчыка; верх закрывалі плашкай ад такойжа калоды. У асабліва важных здарэньнях, хаваючы багатых або заслужаных людзей, корст пакрывалі смалой і „берасьцілі“ г. зн. густа спаясывалі доўгімі паяскамі бяросты ўсю труну, як бандажам, а наверх шчытна акручывалі яшчэ добра прасмоленымі вяроўкамі. Гэтак прыгатаваны корст мог соткі гадоў ляжаць ў зямлі не паддаючыся буцьвежы. Гэткія корсты бачыў я раней, калі адней вясны Дзьвіна падмыла старое магілішча і вада то зносіла ўніз, то прыбівала да берагу іх, а селяне вылаўлівалі, каб нанова закапаць ў зямлю.

— Гэта корст ў якім ляжыць той, хто дабудаваў гэты ходы, сказаў мне праваднік. Тут ты і зложыш прысягу, а на знак датрыманьня слова, пацалуеш ў чало гэты шацоўныя астанкі. Пры гэтым ён запаліў тоўстую,

як добрая бэлька, васковую сьвячу, што стаяла ў канцы труны. Кнот, трашчэў і дыміў, але памалу ўгарэўся і я пабачыў на труне зробленую ў акружнасьці надпіс глаголіцкімі літэрамі. Надпіс гаварыла:

„Я, Ярамір, ходы гэты працай многай ўтварыў і дэманаў пяці, моцай слоў тайных на пілнаваньне давечнае ўвязаў тут. Хай ўнасячага сюды прапусьцяць, а на вынасячым споўніцца слова“.

Мы адкрылі корст і маім вачам паказаўся забальзамаваны нябошчык з густой сівой барадой, адзеты ў злотатканую павалоку. Ляжаў ён крыху на правы бок павернуты, адна рука яго была пад галавой, другая ляжала на пазлацістым паясе; левая нага крыху паднята ў сагнутым калене. Выглядала, што гэта не нябошчык, а заснуўшый старац з шэра папелястым абліччам.

„Падземны Чалавек“ сказаў мне стануць ў нагах, а сам стануў каля галавы на ступеньках падмурку. Ад руху, калі ён праходзіў, закалыхалася полымя сьвечкі і, мне здалося, нябошчык зьмігнуў вачыма.

Сярод неапісанай цішы прагучэлі урочыстыя словы формулы прысягі, якую чытаў мне праваднік з узятага з пад галавы нябошчыка зьвітку пэргаміну.

Словы былі так урочысты, закляцьці так страшныя, акружэньне так незвычайнае і нечаканае, што мне закружылася галава. Мой праваднік, таксама, стаўся бледны і ўвесь дрыжэў. Раптам ён, як бытцам аступіўшыся, зваліўся ўніз, адначасна падсьвечнік з грокатам рынуў на памост, гасячы сьвячу. Запанавала непраглядная цемень і ціш. Я пачаў клікаць яго. Глухое маўчаньне ды нягулкое эха былі адзінай адповедзьдзю на мой кліч.

Сьвігавіцай, праз мысьль прабеглі, страшныя абразы з легенд і запрудных здарэньняў а такжа той факт, што пры мне няма серчыкаў. Я чуў, што ў гэтай нямой цішы і чорнай, да болю ў мазгах, цемні, пад ўражаньнем сьвежага страсеньня нэрваў, знаходжуся на самым рубе да ўтраты прытомнасьці. У мазгах інстыктыўна і распачліва пачала біцца адна-адзіная думка: трэба быць спакойным, трэба быць спакойным! Я чуў, разумеў, што цяпер адзіны ратунак ў захаваньні спакою. І як люнатык, з працягнутымі наперад рукамі, пашоў, ў старану, шукаючы бачаных мной, пад сьценамі, мураваных лавак.

Я сеў на лаўку і пачаў глыбока ўдыхаць паветра. У вушах звaніла цішына, пры якой чыканьне гадзіньніка ў кішані, чулася як рытмічны ход паравой машыны, ды глухое тутненьне крыві ў шыі і вісках. Як доўга я сядзеў—зьмяркаваць нельга, магла эта быць адна мінута, як і цэлая вечнасьць.

Ўрэшце надумаў пайсьці шукаць, майго праваднiка і пры ім серчыкаў і ліхтарні. З гэтай мэтай я зсунуўся з лавы і папоўз на руках і каленях к сярэдзіне. Хутка нашчупаў падмуроўку, на якой я нідаўна стаяў і папоўз кругом яе бо нямог зьмяркаваць з якой стараны знаходжуся. За другім паваротам рука натрапіла на нешта мокрае і клейкае. Я падумаў, што гэта кроў; што недзе тут блізка ляжыць мой праваднік і асьцярожна выцягнуў руку наперад, якая наткнулася сьпярша на масыўны мэталічны падсьвечнік, а пасьля на людзкое цела. Я падаўся яшчэ бліжэй, шукаючы рукі. Пульс ня біўся, галава яго была мокрая і сьцюдзёная. У бакавым кішані курткі яго я нашчупаў серчыкі і з радасьцю хапіўся паліць іх, але рукі мае былі мокрыя і дрыжэлі, серчыкі ламаліся або толькі давалі іскры. Перапсаваўшы штук з дзесяць, я спахапіўся, што іх ў скрынцы ня шмат і, сілай волі, стаў пастрымліваць сябе, каб не псаваць болей дарэмна. Высілак над самім сабой

даў найлепшыя вынікі; з увагай выняты серчык і пацерты аб скрыначку загарэўся, асьвятляючы страшэнны абраз: перадамной ляжаў наўзнач мой праваднік з разьбітай і акрываўленай галавой. Ад правага вока і да вуха зіяла страшэнная крывавая рана. Сернік дагарэў і згас. Цяпер я толькі заўважыў, што, акром сернікаў у мяне больш німа нічога. Куды паставіў праваднік ліхтарню, якую згасіў, пасьля таго як запаліў сьвечку, я не заўважыў. Сернікаў было ўсяго толькі некалькі ў скрыначцы і я пастанавіў ужыткаваць іх з мудрай асьцярожнасьцю. А дзеля гэтага ізноў папоўз па памосьце. Па доўгіх шуканьнях была знайдзена і запалена ліхтарня. Пры сьвятле ліхтарні я сцьвердзіў сумны факт, сьмерці майго праваднікa. Ен такі запраўды аступіўся зыходзячы і падаючы ўдарыўся віском аб востры выступ падстаўкі ліхтарні, якую цягаром свайго цела абярнуў.

Паднімаючы цяжкі ліхтар, я заўважыў на ім, ўнізе надпіс: „Обьятопрыімчэ, прыймі другога с чары тайн піўшага“.

(далей будзе).

А. ТОЛСТОЙ.

# Борывой.

I.

К справам веры сэрцам крэўкі
Папеж шле ў Роксыльду слова
I паход на Бодрычанаў
Прапаведуе крыжовы.

II.

„Устаньце, то-ж цесьняць ня ў
меру
„Вас паганьнікі ліхіе,
„Падыміце сьцяг за веру,
„Адпускаю вам грахі я!

III.

„Гэнрык-Леў на бой вялікі
„Ўжо узьняўся мною званы,—
„Ен ідзе ад Брунзавіка
„Рынуць ў плечы Бодрычанам.

IV.

„Ўсе, хто к гэтай справе стане,
„Хто падзе пад знакам хрэсным,
„Перш чым кроў яго астыгне,
„Будзе ў царстві у нябесным“.

V.

Толькі кліч далынуў ў Доні
Першы ўстаў сам біскуп Эрык,
З ім ўсе мніхі ўздзеўшы броні
Пасьпяшаюцца на бераг.

VI.

Глядзь, і Свэн прышоў, сын
Нільса,
Ў шышаку сваім крылатым,
А з ім разам апалчыўся
Вікінг Кнут з пачтом багатым.

VII.

Крывічы сабе абодвы,
За пасад вайной гулялі;
Дзеля слаўнага-ж паходу
Варажню у забудзь далі.

VIII.

I як птах прыморскіх стада,
Многа панцырнага люду
З бразгам, блескам, пахвальбою
К ім прымкнула ад усюду.

IX.

Ўсе стругі парадным шыхам
Пакідаюць разам бераг,—
I абняўшы сілу зрокам
Так прамовіць біскуп Эрык:

X.

—„З намі Бог! Вядзе нас знамя
„Спаравядліўца Сьвят-Ягорья:
„Разабьем цяпер з нахрапу
„Мы славянскае Паморье“.

XI.

Свэн-жа мовіць: — Ў бітве
грознай
„Німа роўнаго мне воя,
„Абы толькі ў сінім моры
„Не сустрэцца з Борывоем“.

XII.

І са сьмехам ад карміла
Мовіць Кнут:—„Німа прапоны:
„Борывой цяпер далёка:
„Бьецца з немцам пры Арконе“.

XIII.

І вясёлые ўсе трое,
З імі грозная дружына:
Ўсе плывуць даладным строем
К сьценам горада Валына.

XIV.

Раптам ўзняўшысь над кармою
Прамаўляе Свэн, сын Нільса:
„Мне здалося над скалою
„Бытцам лес заварушыўся!“

XV.

Кнут ўглядзеўшыся атказа:
—„Не, ня лес то варушыцца,
„Асначын відаць вярхоўкі
„Аб касіцу бье касіца“.

XVI.

Ўстаў сам біскуп парупліва
З недаўменьнем у пазоры:
„—Што то чмуціцца за дзіва?
„Коні ржаць у сінім моры!“

XVII.

А тут біскупу спужаны
Паясьняе бледны інак:
„То ня ржаньне, то гудзеньне
„Борывоевых валынак!“

XVIII.

І, як мовіць, дзе клубяцца
Ўсплескі колыбі марское,
Спа-за скалаў вырынаюць
Чайкі чоўны Борывоя.

XIX.

Расьпіснымі парусамі
Мора сіняе пакрыта,—
І плыве па ветру знамя,
На бел коню, Сьвятавіта.

XX.

Плешчуць вёслы, блішчаць
броні,
Тапары зьвіняць стальныя
І, як коні шалам зьняты,
Ржаць валынкі баявые.

XXI.

І даводца с першым дубам,
Прыадзет ў гартоўны бляхі,
Борывой ківае чубам:
„Добры дзень бацькі-манахі!“

XXII.

„Я вярнуўся с пад Арконы,
„Дзе пяскі ўжо чырванеюць,
„Адлі немчынаў знамёны
„Пад сьцянамі ўжо ня веюць.

XXIII.

„Разшматаўшы іхні полкі,
„Заплацілі доўг мы немцам,
„І прышлі цяпер адляскаць
„Вас па голеным гуменцам!

XXIV.

І пад ўсімі парусамі
Ен пашоў ім на сустрэчу,
З лёту ўдарыліся стругі
І пашла між імі сеча.

XXV.

То ўзнімаючысь на хвалях,
То ныраючы ў глыбіны
Бок-а бок ў сушчэп баграмі
С крыкам рэжуцца дружыны.

XXVI.

Брыжджаць іскры кроў хлынае,
Трэск і енк ў баю самкнутым,
Да заходу бітва трвае—
Ня здаюцца Свэн ды с Кнутам.

XXVII.

Усё-ж дарэмны іх усілкі:
Ад удароў цяжкай сталі,
Пазалочаныя крыльлі
С шлема Свэна ўжо упалі.

XXVIII.

Прастрамлёна ў жорсткім споры
Кнута крэпкая кальчуга,
І кідаецца ён ў мора
С перавернутага струга.

XXIX.

А той біскуп, Эрык, ў схватцы
Каб зьмінуць пагібель тую
Пераскочыў без аглядкі
Са сваей стругі ў чужую.

XXXI.

І галосіць:—„Ўвесь дабытак
„Дам да цэркві да сьвятое,
„Абы толькі у Роксыльду
„Мне ўцячы ад Борывоя!“

XXXI.

І грабцы з упуду ўчулі
Сілу рук сваіх у двоя,
Ды галосяць:—Збаў нас Божа,
„Ўберажы ад Борывоя!“

XXXII.

—„Уцякай клабучча племя!“—
Борывой крычыць ў дагоню:—
„Вам спачыць ня даўшы часу
„Хутка сам я буду ў Доні“.

XXXIII.

„К вам, праз мора, ці праз сушу
„Пралажу сабе дарогу,
„І загодам вашы душы,
„Абяцаю Чорнабогу!“

XXXIV.

Худа Доням вышла худа,
Ў гэнай бітве знамянітай;
У той дзень морскі дзівы
Панажорлісь трупаў сыта!

XXXV.

І стругоў ў сваім прасторы,
Перавернутых ня мала,
Пачырвонеўшае мора
Ўверх палозьзямі кідала

XXXVI.

Гэнрык-Леу ішоўшы сьмела
На Валын к забаве ратнай,
Як пачуў такую справу
У Брунзавік пашоў папятна.

XXXVII.

І ад Бодрычаў да Рэтры,
Ад Асны да Дубравіка
Ўсюды весць разносяць ветры
Аб пабедзе тэй вялікай.

XXXVIII.

Гамам поўн Валын вясёлы;
Ўкруг Пярунавай бажніцы
Карагодным ходзяць колам,
Дзеў паморскіх вераніцы.

XXXIX.

А ў Роксыльдаўскім саборы
Сабіраюцца манахі.
Выклікаюць: „Гора, гора.“
І малебны служаць ў страху.

XXXX.

І пан біскуп с клірнай сілай
На каленях ў фары стоя,
Моліць: „Божа, ты злітуйся,
Барані ад Борывоя“.

Пераклад з расійскага Л. А.

ЮНАС БІЛЮНАС.

# Бура у горах.

Гудзіць і бушуе бура ў швайцарскіх горах. Бытцам усе пякельныя духі вылезьлі з пропасьцяў, зьляцеліся на гэты горы і, цяпер, выюць сьвішчаць і сьмяюцца. Як шалёныя пялёхтаюцца яны ў возеры, выкідаючы ў гару, з самага дна, валы вады; лётаюць верхам і нізам, ўдараюць аб скалы, ламаюць дрэвы. Магутны вецяр нясе і кідае кругом, з цёмных хмар, сьнегам... Неба з зямлёй зьмяшалася... Увесь засьнежаны, змучаны ідзе, тонучы глыбока ў сьнягу, малады падарожны. Нічога кругом ня бачыць... У вачах меніцца, бялее,—ў вушах гучыць страшэннае гудзеньне буры. Ня ведае ані дзе знаходзіцца, ані ў каторы бок трэба ісьці. Таму пасуваючыся, перш асьцярожна шчупае палкай зямлю: баіцца каб не ўваліцца ў пропасьць, бо чуе, што ўжо не падарозе ідзе.

А яшчэ зусім нідаўна, было так хараша ў гэтых горах! І гадзіны не прашло з таго часу, як стоючы высока бачыў ён ў нізе Фірвальдштэцкае і другія вазёры, палыскуючыя стаячымі на іх берагах гарадамі і мястэчкамі! Кругом, саўсім нідалёка, мігацелі ў гарэ серабрыстыя вершадзі гораў... Калі за гэтымі горамі заходзіла дзіўна прыгожае сонца, ён павярнуў у ніз. У нізе відаць было гасьцінніцу. Там думаў пераначаваць, а заўтра раніцай вярнуцца ў Цурых. Але раптам паветра зьмянілася, пачаў падаць сьнег і сільны вецер ўсё склубіў, зьмяшаў. Астаўся ён у горах адзін, усімі пакінуты, сумны...

Падарожны прыстануў. Пачаў аглядацца, прыслухоўвацца, ці ня відаць дзе сьвятла, ці не пачуе голасу чалавечага. Нічога. Толькі чуе, як гудзіць бура і як сэрца бьецца ў грудзёх.

— Божа, няўжо-ж трэба будзе тут загінуць! прамігнула ў галаве думка. Чуў як агартае яго страх і прыпыняе кроў у жылах. Але гэта хутка прашло: ўспомніў што недалёка павінен быць готэль... Трэба толькі падысьці яшчэ трохі і пакажацца аганёк. І ён цьвёрдым крокам стаў ісьці наперад, падаючы і ўзноў устаючы хутка ішоў, спяшаючыся бытцам баяўся спозьніцца... Ішоў доўга-доўга... так яму здавалася. Але ані аганька, ані людзкой хаты не пабачыў. А бура ўсё больш гудзела, вецяр шумеў, сьцюжа была штораз большая.

— Ратуйця! З усей сілы крыкнуў нешчасны і сам спужаўся сваго голасу; так ён быў слабы. Ніхто ня адазваўся...

Толькі засьвішчэла, засьмяялася ў вышыне і адлынула далей.—Ратуйця! ратуйця!—крыкнуў зноў не сваім голасам, але ледзьве сам сябе пачуў. Змучаны паў ня зямлю і ўчуў, што з вачэй яго падаюць горкія, цяжкія сьлёзы.

Але пасьпешна ізноў схапіўся і пачаў брысьці па сьнягу. На нішто не зважаў. Аднаго толькі хацеў: хутчэй дабрацца да людзей, да сьвету, да цяпла, як можна далей ад гэтай буры, ветру.

Брыў штораз хутчэй, бытцам чуючы за плячыма сьцюдзёнае тхненьне сьмерці. Урэшце ўсім сваім целам грымнуў на нешта цьвёрдае. Ашчупаўшы кругом зразумеў, што гэта было дрэва. Падпоўз да яго і прытуліўся хаваючыся ад ветру. Але вецер і тут знашоў яго. З усіх старон прабіраўся праз адзежу да самага цела нясучы з сабой дрыготку і зябкасьць. Чуў, што ногі яго мярцьвеюць, што ўжо нягможа крануць пальцаў.

— Ўсё роўна тут прыдзецца начаваць. Сказаў сабе голасна...

Седзячы пад дрэвам прыгледзіўся, што гэта была аграмадная хвоя, з апушчанымі ўніз лапамі. Успомніў, што мае нож і ў яго галаве паўстала цьвёрдая мысль. Устаў і пачаў, адну за другой, зрэзаць лапкі ды кідаць іх на зямлю. Нарэзаўшы сабраў і пазатыкаў іх у сьнег, ад стараны ветру, рэшту паслаў ўдоўж і лёг на іх. Пасьля пачаў церці рукі, хочучы крыху сагрэцца. У канцы лёг спакойна, прытуліўшыся да дрэва. Пачуваў сябе ўжо лепш,—усьміхаўся, лежучы на сваей сьнегавой пасьцелі.

— Можа неяк перакавэнчу тут ноч, дачакаюся раніцы,—думаў сабе.— Далей ня пайду каб яшчэ больш ня зьбіцца з дарогі...

— А што цяпер таварышы ў Цурыху робяць?—успомніў ён:—Сягоньня ноччу пачынаецца Новы Год... Пэўне ж сабраліся ўсе, цешацца і чакаюць яго, спамінаючы сваякоў і таварышаў, што асталіся далёка ў Бацькаўшчыне. І чаго я пашоў адзін у гэты горы? Як добра было б цяпер быць там разам з імі, сустрачаць Новы Год: горы і пасьля бы пабачыў. Уявілася яму як там сьветла, цёпла, як утульна... А тут—бррр!... І па яго целе прабегла дрыжаньне. І зноў ў яго галаве паўстае другі абраз. У сьветлым, абшырным пакоі сядзіць яго бацька, доктар, і маці. У старане дзьве яго сястры, абедзьве маладыя, прыгожыя як дзьве распукшыя пукалкі белых лілей. Далёка ён ад іх, дзеляць яго соткі міль...—Добра ім, цёпла—ўсьміхаецца як праз сон хлапец.—Мяне ўспамінаючы чакаюць майго прыезду.

Абраз гэты навеяў на яго добрыя, сьветлыя мысьлі; на сэрцы робіцца лёгка, спакойна: зразу стала цёпла, добра, бытцам маці рукамі пагладзіла, ўтуліла яго.

І ён пачынае драмаць.

Але што гэта? У вачах яго стае постаць маладой дзяўчыны.

Юльця, мая дарагая Юльця!—шэпчуць зьбялеўшыя вусны і сэрца крэпка—крэпка бьецца. Хоць сплюснуты вочы але бачыць выразна яе вясёлае аблічча і сінія вочы глядзяць на яго так сьветла, радасна. Успамінае як апошні раз з ею разьвітаўся, обяцаў за год вярнуцца.—Я ўжо хутка вярнуся,—шэпча бытцам спакоіваючы яе.—Будзем разам жыць на Бацькаўшчыне, паміж сваіх людзей, будзем працаваць для іх дабра; будзем шчасьлівы, шчасьлівы... Я хутка, Юльця, вярнуся... З гэтай відзежай ў душы хлопец заснуў... на заўсёды...

З літоўскай мовы пераклалі: Г і Ж.

---

Н. КАРЖАНСКІ.

# З запісной кніжкі невядомага.

## На прадмесьцці.

Пачалося з таго, што мне няпраўдна паказалі дарогу. Таму і пасьміхаўся пад вусамі чырванашчокі вазец, які паслаў мяне ў адваротную старану.

Каля шостой вуліцы на rue des Ecoles паказалася ня тое, што я шукаў, я зайшоў у рэстаран. Вугальшчык, які піў каву, разтлумачыў мне, што трэба вярнуцца назад па rue des Ecoles або зрабіць абход міма станцыі. Я выбраў апошняе: ісьці папярэдняй дарогай паказалася мне нечым кшталтам безслаўнага адступленьня.

Калі зусім сьцямнела, я зьбіўся з дарогі. Трапіў у лабірынт крывых, заблутаных вуліц, і ўсе гэты вуліцы, вулкі і тупікі называліся „Леньяк“. Я зьненавідзіў глупага Леньяка, пакінуўшага ў гэтай дзірэ аб сабе памяць.

Пашоў дождж—сьпярша дробны, пасьля ўсё большы. Праходжых станавілася ўсё меней.

Парасон акрываў плечы і грудзі, але ногі прамоклі. Сьцюдзёная ручвіна спаўзала ад каленаў ўніз. Аб нічым ня думалася. Ўсё было безразрожліва.

* *
*

Пад загібам жалезна-дарожнага маста ляжала куча сухога лісьця. Я згарнуў парасон і лёг туды. Было сьцюдзёна і вохкі вецяр дуў мне прост ў аблічча. Жоўтай плямай падымаўся зьлева рэстаран. За ўсе тры тыдні, што я быў у Парыжы, першы раз яшчэ агарнула нейкая бязмежная апатыя і сэрца сьціснулася ад невядомага прачуцьця. І не хацелася нават рукой крануць, здаецца, я не парушыўбыся з мецсца, каб ведаў, што за мінуту зваліцца мост на мяне. І толькі з аднаго я рад быў: што ніхто не падойдзе да мяне са славамі спогаду ці шкадаваньня.

Час ад часу прабегалі паязды, я здрыгаўся ад прадоўжнага грокату і лязгу. А пасьля ізноў акружала чорнае маўчаньне.

* *
*

Урэшце я знашоў гэты дом № 132.

Званю.

Валянтын праз дзьверы пытае на француску.

— Хто там?

— Валентын! Гэта я, Ладзімір.

Ен спазнаў мяне і адчыніў дзьверы. Але на абліччы яго ні радасьці, ні подзіву.

— А, гэта ты. Заходзь. Я чуў, што ты тут.

Я старопіўся гэткім прывітаньнем, але усё-ж такі распранаюся і стаўлю парасон у куток.

— Во, тут кілімчык! Вытры чысьцей ногі;—сухавата кажа ён.

Садзімся абапал пісарскага стала. Мне здаецца што я трапіў на афіцыяльны прыём. Робіцца нязручна, і я пасьпяшаю пераказаць яму даручэньне Анны і Марка.

* *
*

— ... Німа стасоўнага знаёмства. Ды і часу німа. А да таго ўсё гэта вельмі супярэчліваe.

Ў голасе гразка стыгнуць ноткі змораньня і безразрожлівасьці. Бытцам ён хоча хутчэй адкараскацца і ад даручэньня і ад мяне.

— Трэба ісьці; пастанаўляю я.

Пастукалі ў дзьверы і жаночы голас сказаў:

— Ідзі сьнедаць.

Праходзіць некалькі хвілін нядружнай закалубістай, размовы. Ен відавочна чакае майго выхаду.

Тады я устаю і кланяюся. І зноў у ім німа зьдзіўленьня.

— Даць табе мой адрэс? Зайдзеш, калі будзеш у Парыжы?

Ен падстаўляе мне запісную кніжку, але відаць, што адрэс саўсім непатрэбен яму.

— Бывай, Валентын!

— Бывай, Ладзімір!

Ізноў я на вуліцы, і дождж агартае мяне дробнай сеткай.

Няўжо гэта Валентын? І ён—мой прыяцель? І гэта я яму нёс так многа гарачай душы?

Я стараюся ўвесь скорчыцца пад парасонам. Дождж імжыць, не пераставаючы.

## Мытная камора.

Гэта было ў мытнай каморы Паўночнага вагзалу. Я бязконца чакаў, пакуль мне выдадуць пасылку: карзіну с кнігамі. Мяне пасылалі ад аднаго да другого стала, і пры кождым трэба было доўга чакаць.

А чацьвертай гадзіне мне сказалі, што пераблутаны нумары і трэба рабіць нейкія спраўкі.

Прышлося пагадзіцца з гэтым і я сеў на аграмадную скрыню, бясьпечна баўтаў нагамі і ўзіраўся на маіх таварышоў па нешчасьцю. На ўсіх абліччах была нуда і тупая пакорнасьць.

Малады фін ламанай французскай мовой апавядаў, як хутка выдаюць пасылкі у Гэльсінгфорсе.

— Але-ж гэта Парыж!—неакрэсьленна сказаў стары француз і усьміхнуўся ўсімі зморшчкамі свайго хітраватага аблічча, і няможна было зразумець ці насміхаецца, ці заздросьціць Гэльсінгфорсу.

Каб вывесьці старога прайдоху на чыстую ваду, я закінуў вудачку.

— Я лепш у Парыжы перачакаю цэлы дзень, чым у Гельсінгфорсе атрымаць наконадні раніцой.

Усе засьмеяліся і стары сказаў:

— Гэта праўда monsier, тысячу раз праўда.

## У кавярні.

Мы гаварылі.

Аб чым могуць гаварыць людзі у якіх наперадзе адны трывогі і смуткі?

Мы гаварылі аб людзях, а жыцьці аб свабодным чалавеку, аб каханьні —сьветлым каханьні без якога стала-бы пустым жыцьцё.

Яна сказала:

— Новай кабеты не стварыў яшчэ ніхто. І вы такжа. Дзіўныя вы людзі, паны пісьменнікі! Калі жанчына меняе каханцаў, як рукавічкі, вы заразжа апавяшчаеце, што гэта —новая кабета, свабодная і якая там яшчэ у вас? Вось і ваша апошняе апаведаняне. Дык-жа гэта ваша Алена—нявольніца. Свайго каханьня, сваіх каханцаў. А пасьля будзе нявольніцай дзяцей. Паводле сэзонаў. Новая кабета! Я нават няведаю, ці ёсьць яна. Але, Бог мой, хіба-ж вы ня чуеце няўхватных намёкаў гэтай будучай кабеты? І трэба гаварыць толькі аб гэтых намёках. Вы раскажыце, што быў храм пабудаваны на гарэ, але ашуканыя людзі раскапалі яго, не пакінулі каменя на камені. І на крушнях павырасталі кветкі, простыя польныя кветкі,—і яны крозяць аб новым прадзіўным храме, з мармуровымі белымі калоннамі, дзе німа болей ніякіх ланцугоў. Толькі крозяць! Ах, ня тое, саўсім ня тое!

Пасьля яна ўспомніла аб сваім дзіцяці. Засьпяшалася. І адразу сталася гэткай маленькай, нязручнай.

Мінутная стрэлка набліжалася да лічбы 12.

Трэба было выходзіць.

## Вочы мадам Дюбуа.

Мне падабаліся вочы мадам Дюбуа. Яны былі шэрыя, вялікія, з паволокай, і заўсёды мне здавалася, што ў іх таіцца водблеск глыбокай нязгойнай раны.

Калі бывалі грошы, я заходзіў у яе краму і доўга выбіраў у альбоме аткрыткі. Яна заўсёды сядзела за канторкай і з аткрытак я пераводзіў погляд на яе вочы—яна аставалася нязьменна спакойнай.

Часам мы абменіваліся кароткімі рэплікамі: аб пагодзе, аб авіяцыі, аб якім колечы сэнсацыйным забойстве.

* *
*

Таго дня у мяне было 6 франкаў. Я праходзіў міма крамкі мадам Дюбуа і не астоіўся супроць спакусы—паўзірацца на яе вочы.

Узяў, як зазвычай, альбом і пачаў выбіраць аткрыткі.

Аблічча у мадам Дюбуа было сумнае і зморанае. Шкада было, што я не магу зрабіць ей штоколечы ласкавае.

— Прышлі новыя аткрыткі! — кажа яна і голас яе глухі і маркотны: можа жадаеце паглядзець?

— О, абавязкова! Мне трэба паслаць прыяцелю некалькі пекных аткрытак.

Яна становіцца побач і нахіляецца да мяне над аткрыткамі. Я чую яе аддыханьне. Мяне агартае хваляваньне і кволасьць.

Ці не вазьму я гэту аткрытку? Напэўна. І гэту? Абавязкова!

У руках у мяне было дзесяткі 2 аткрытак, а мадам Дюбуа усё дадавала і дадавала.

— Во, гэту аткрытку на тэму з „Валькірыі“—можна паставіць на стол: яна будзе аздобай кабінэту. Гэта зьнімак з апошняй рэзьбы Бурдэльля.

Я ужо пачынаў казаць, што, бадай, годзі, але бытцам чорт апанаваў гэтай жанчынай: яна не хацела і слухаць. Прышлося уступіць і ўзяць яшчэ некалькі аткрытак.

— Мабыць, вы захочаце ўзяць во гэту гравюру?—кажа яна, і падае мне агідны зьнімак з Вэнэры Мілоскай.

Гэткая нахраплівасьць вывела мяне з роўнавагі, і я, даволі суха, сказаў ей, што болей мне нічога ня трэба.

Даў ей пяць франкаў; яна вярнула здачы тры дробных медзяных манэткі.

Згортак з аткрыткамі я хацеў было шпурнуць у гразь, але ўбачыў замурзанага мальца і аддаў яму. Ен няверліва касавурыўся на згортак і на мяне, падазрэваючы нейкі здрадлівы подступ з маей стараны.

Завяртаючы за вугал, я абярнуўся, пагразіў кулаком у старану крамкі мадам Дюбуа і сказаў голасна:

— Ах, ты стары лом!

### На розстані двох бульвараў.

У яго сіня-зямлявітае аблічча і сінія плямы пад вачамі. Я не адказаў на яго паклон і хацеў прайцсьці міма. Але ён заступіў мне дарогу.

— Не пазнаеце?

— Як не пазнаць, Кавалёў?

Некалькі хвілін мы размаўляем. Пасьля я кажу, што мне некалі.

— Ды пачакайце. Хоць адрэс дайце!

— „Адрэс". Нашто? Грошы вам не пазычу—німа. Вы мне—такжа, а гаварыць аб тым, хто з нас радзей абедае, запраўды, ня цікава. Бывайце.

Я дакранаюся да брыля і адходжу.

Каля вялікай кавярні абяртаюся,—ён яшчэ глядзіць мне ў троп.

### Знаходка.

Бульвар Монпарнас. Каля аднэй крамкі ляжыць каліта — чорная, ужо крэпка выцертая, туга напханая.

Я неяк мэханічна апускаюся на лавачку і абдумываю, што рабіць. Баюся, што хто колечы заўважыць каліту.

Гэта-ж так проста: выцягнуць руку і заціснуць каліту ў жмені. Я ўселяк дакараю сябе за трухлівасьць і сяджу нярухома.

Праходзіць лішне многа часу. Трэба адважыцца.

Я ўзяў каліту,—і ў той момант пачуў рогат пару дзясяткаў дзіцячых галасоў:

— Вун! вун!

— Глядзіця.

— Ен знайшоў.

— Ен украў.

— Папалам! Праўда?

— Купіце нам цукеркаў.

Хлопчыкі 10-12 гадоў. У акне першага паверху. Вылазяць адзін з-за аднаго. Сьмяюцца. Паказуюць на мяне пальцамі.

---

## Пагляд расійскіх вучоных на беларускую мову.

Прафэсар Карскі у закончаньні сваей, цяпер ужо в. рэдкай кнігі. „Обзоръ звуковъ и формъ бѣлорусской рѣчи". (М. 1885 г.), прыводзіць рад высказаў расійскіх вучоных аб беларускай мове. Ен кажа што рожнае месца, давалі рожныя вучоныя беларускай мове. Адны лічылі ае дыялектам мовы вялікарускай, другія—дыялектам украінскім, і ўрэшце трэція прызнавалі яе такой самай самаістай мовай, як мовы вялікаруская і украінская.

Потебня у нарысе „Два досьледы" і Срезневскі ў „Мысьлях" даводзілі, што ў беларускай мове німа ніводнай згукавой рысы, якая бы не паўтаралася, хоць дзе-небудзь у Вялікаросыі.

На гэта адпавядае праф. Карскі, ў вышэй памянёнай кнізе, што:—Ведама запазычаньні пры зносінах аднаго народу з другім бываюць, іх нельга пярэчыць і для Беларускага племя. (Гэтак напр. саусім пэўна, што утры-

маньне *ді* і *ті* на поўначы Беларусі трэба тлумачыць вялікарускімі ўплывамі, якія ідуць ад стараны Пскова, Ноўгарада, Твэры і што гэтымі ж ўплывамі тлумачыцца паяўленьне нязвычайнай для Беларусаў замены *ч* цераз *ц* і г. п. зьявішчы, але яны ня могуць быць такімі, каб налажыць сваё таўро на ўсю мову народу, на ўсе яго асобнасьці. Прышчэпленьне тых ці другіх рысаў магчыма толькі пры велмі доўгім ўплыве, чаго нельга сказаць датычна ўплыву Палуднёва Вялікарусаў на Беларусаў.

Беларусы выдзеліліся з агульнарускага жыцьця яшчэ ў канцы XIII ст., дык магчыма яшчэ да падзелу рускай мовы на дыалекты. Далейшая гісторыя беларускага племя выключала магчымасьць крэпкага ўплыву вялікарускай мовы.

Умысловая Беларусь сьпярша была пакінута сама сабе, пасьля падлягала кіеўскім ўплывам, ўрэшце-рэшт утвараецца больш цесная сувязь з Вялікарасіяй, але і цяпер рух быў не адцэнтральны, так што палуднёва-вялікарускі дыалект тады яшчэ толькі складаўся, калі немаль усе асобнасьці беларускай мовы былі ўжо замацаваўшыміся (г. зн. у XIII—XIV ст.); так што тут мы бачым нават хронолёгічную нетасоўнасьць. Калі прыняць пад увагу калёнізацыйны рух беларусаў на абшары Вялікаросыі, то гэту сходнасьць беларускага з вялікарускім, запраўды прыдзецца тлумачыць запазычаньнем, толькі—запазычалі не беларусы ў вялікарусаў, а наадварот. Так што лепей-бы сказаць—не беларусы галіна вялікарусаў, а акурат наадварот. Зрэшта гэта сходнасьць, заўважым тут, далёка ня поўная, можа быць тлумачана саўсім іначай. У ёй можна бачыць толькі прыпадковасьць, зьявіўшуюся вынікам аднастайных прычын. Падобныя прыпадковасьці часта бываюць і ў такіх мовах, у якіх аб запазычаньні ня можа быць гутаркі. Возьмем для прыкладу беларускае *ў* з *в* і *л* і падобнае-ж *ў* словацкай або палабскай мове! Або беларускае цьвёрдае *р* і падобнае ж у сэрбскім; або украінскае *г* і падобнае-ж *г* ў чэскім! Няўжо ж гэты мовы запазычалі памянёныя асобнасьці адны у другіх? Можна бы назваць і многа другіх рысаў сходнасьці з самых рознаякіх моваў, дзе гаварыць аб запазычаньні німа ніякай падставы. Ды калі ўжо ўсё тлумачыць запазычаньнямі; то і для вызначных прымет вялікарускай мовы можна адшукаць паралелі ў другіх славянскіх мовах. Гэта самае можна зрабіць і з прыметамі якой-хоць славянскай мовы, калі разгладаць кождую з іх ў асобнасьці. Наагул пры параўнаньні моваў трэба разглядаць іх ўсестаронна, каб, загнаўшыся падобнаснымі рысамі, не прамінуць рысаў разрожніваючых і ня даваць здогадаў блізкай кроўнасьці там, дзе ёсьць толькі прыпадковасьць, або запазычаньня. А калі так глядзець на мову, то і беларуская мова павінна лічыцца самаістай: сабраньне ўсіх яе характэрных рысаў не паўтараецца ў ніводнай славянскай мове; не кажучы ўжо аб палуднёвым дыалекце (найбліжэйшым да беларускага) вялікарускай мовы, ў якой сустрачаюцца толькі дзе-недзе алдзельныя асобнасьці беларускай мовы. Гэта іх спарадычнасьць найвымоўней сьведчыць аб іх паходжаньні —запазычаньні з беларускага, якому гэты рысы прыналежаць ва ўсей поўнасьці. Так што формула: „У беларускай мове німа ніводнай згукавой рысы, якая-бы не паўтаралася дзе небудзь ў Вялікаросыі“—можа быць аднесена і да вялікарускага дыалекту, бо у і м н і м а н і в о д н а й р ы с ы, я к а я-б ы н е п а ў т а р а л а с я у б е л а р у с к а й м о в е. Наадварот у беларускай мове, скажам за Жытецкім (Очеркъ звуковъ малор. нарѣчія, стр. 256): „шмат больш арыгінальнасьці, бо ў ей ёсьць і такія рысы, якія не сустрачаюцца ў вялікарускіх дыалектах, а толькі ў мове украінскай і прыгэтым рысы, трудна падлягаючыя тэорыі запазычаньняў“. Формы беларускай мовы часта больш

архаічны чым формы вялікарускія, ды і сучасныя асобнасьці часта адыходзяць да часаў паяўленьня славянскай пісьменнасьці, калі вялікарускі дыалект яшчэ не істнаваў і калі не заўсёды гэты асобнасьці маюць адбіцьцё у літэратурных помніках, то гэта тлумачыцца толькі выключным палажэньнем беларускай мовы. І гэтак, падобнасьць беларускай мовы з некатарымі рысамі палуднёва вялікарускага дыалекту трэба тлумачыць ўплывам беларускай мовы на вялікарускую,—ўплывам які пачаўся, праўдападобна, яшчэ ад часу фармаваньняся апошняга, а не наадварот. Можна, ведама, дапусьціць, што нейкія рысы сходнасьці з беларускім разьвіліся ў вялікарускім і самаіста. Гэткім чынам тэорыя Потебні падае пры бліжэйшым разглядзе, і погляд яго на беларускую мову, як на паддыалект палуднёва-вялікарускага дыалекту, павінен быць закінут.

Ня больш грунтоўны і другі погляд, прадстаўнікам якога зьяўляецца Ф. Міклошыч (У „Vergleichende Grammatik“). Запраўды сходнасьць беларускай і украінскай моваў у некатарых рысах паражаючая (праточны *г*, двомленьне сугалосных+j, частковая сходнасьць у замене *л* і *в* пасьля галосных і перад сугалоснымі, захаваньне пераходнага зьмякчэньня). Ведама аб запазычаньнях тут можна гаварыць з большым правам, нячым з вялікарускага, бо Беларусь мела безупынную сувязь з Украінай (Потебня: Два досьледы, стр. 54-56.) Але калі мы будзем разглядаць беларускую мову ўсестаронна, то ўбачым, што і з украінскай сходзтва ня так вялікае, каб можна было лічыць беларускую мову дыалектам украінскім: шмат болей рысаў нясходнасьці. Як, напрыклад, вытлумачыць з украінскіх асобнасьцяў цьвёрды *р* у беларусчыне, або дзеканьне, аканьне? Або чаму ў беларускай мове ня сталася звужэньня *о* і *е* ў закрытых складах, ўласьцівага украінскім дыалектам? З прычыны гэткіх істотных разыходжаньняў і сходзтва з украінскім трэба тлумачыць ня гэтулькі запазычаньнямі, сколькі аднастайным разьвіцьцем у тэй і другой мове пры аднастайных варунках. Дзеля гэтага, не запярэчуючы, зрэшта, магчымасьці некаторага ўплыву украінскай мовы на беларускую, заўважым, што гэты ўплывы ня былі так вялікі, каб з іх можна было вытлумачыць ўсе беларускія асобнасьці і каб можна было лічыць беларускую мову дыалектам украінскай.

Урэшце, прадстаўнікам трэцьцяга абозу зьяўляецца М. Максімовіч. Ен бачыць у беларускай мове саўсім самаістую мову, якая займае сярэдзіну між вялікарускай і украінскай. Да гэтага абозу далучаецца Надеждін і ў сваей крытычнай запісцы, напісанай ў нямецкай мове (Mundarten der russischen Sprache), Надеждін лічыць першапачатковае істнаваньне двох дыалектаў: понтыйска-рускага (украінскага) і балтыцка-рускага (беларускага), разьдзеленых ракой Прыпяцьцю і Сожам. Спачатку гэты плямёны вельмі былі варожамі сабе, а пазьней сталі высылаць на ўсход сваіх каляністаў, ад крыжаваньняся якіх і ўтварыўся вялікарускі народ (стр. 223-226 названай кнігі).

Гэтулькі довадаў з Карскага. Аднак не саўсім можна з гэтым пагодзіцца. Найперш, Карскі, як і ўсе расійцы, выходзіць з саўсім фальшывай асновы—бытцам да XIII ст. істнавала нейкая адналітная расійская мова, якая пазьней распалася на тры дыалекты: вялікарускі, беларускі і украінскі. Пры гэтым прытрымліваючыся палітычных ці патрыотычных мяркаваньняў, часьць расійскіх вучоных, наперакор гісторыі і навуковай праўдзе, даводзіла, што аснаўным дыалектам, самым чыстым, зьяўляецца вялікарускі, а беларускі і украінскі ёсьць паддыалекты гэтага апошняга, папсаваныя чужымі ўплывамі, а пераважна польскім ўплывам.

Памылковасьць такой тэорыі стане ачавістай, калі мы заглянем у гісторыю, ў якой німа ніводнага довадў говорачага ў карысьць істнаваньня калі

небудзь адналітнай рускай мовы, а этнографія усходна славянскіх плямён і палеографія гавораць акурат аб тым, што адналітнасьці гэтай ніколі нябыло. Не з XIII, а ўласьціва з X ст. пачынаецца працэс нівэляцыі племянных асобнасьцяў, пад ўплывам хрысьціянства, якое прыходзіла з царкоўна-славянскай, анзінай для ўсіх плямен, граматнасьцю, малітвай абавязковай для ўсіх і школай. Кніжная мова да XIII ст., дый пазьнейшая, абсалютна нічога ня можа сьведчыць аб тым як вялікі былі разыходжаньня, паміж асобнымі племяннымі дыалектамі, бо не захавалася ніводнай кнігі пісанай, якім колечы мясцовым славянскім дыалектам, ўсе яны пісаны царкоўна-славянскай мовай, мовай літургіі і сьвятога пісьма, кніжнікамі, якія кождае адступленьне ад канонічнай мовы лічылі за грэх, за зьнявагу мовы хрысьціянства паганскімі барбарызмамі. Зрэшта, па аналёгіі, можна с пэўнасьцю сказаць, што ўсе вярхі, ўся тагочасная арыстократыя і інтэлігенцыя, старалася гаварыць мовай кніжнай, мовай навукі і рэлігіі.

Праўда, найсільнейшы ўплыў царкоўна-славяншчыны мы бачым на вялікарускай мове і гэта гаворыць акурат не ў карысьць яе самабытнасьці, а даводзіць, што каланісты, якія ішлі на ўсход з Беларусі і Украіны, і мяшаючыся з фінскімі і другімі мясцовымі плямёнамі, вытваралі вялікарускі народ, былі адарваны ад роднай стыхіі. Прыклад мы можам бачыць у нашы дні: латышскія немцы гавораць самай блізкай да кніжнай, нямецкай мовай; памешчыкі палякі ў Беларусі і Украіне гавораць так сама бліжэй да кніжнай польскай мовы чым запраўдныя палякі ў Польшчы.

Дзеля гэтага мы склонны думаць, што да прыняцьця хрысціянства было большае разыходжаньне паміж мовамі паасобных усходна-славянскіх груп, чым цяпер, пасьля тысячалетняга нівэлюючага ўплаву цэркве і царкоўна-славянскай граматнасці. З XIII сталецьця, з часу закончаньня працэсу ахрысціянленьня славянскіх плямен, мясцовыя асобнасьці пачынаюць п р а к р а д а ц ц а ў кніжную мову, але не па праву іх юрыдычнай роўнасьці з літургічнай мовай, а таму толькі што ў рамкі царкоўна-славяншчыны нельга было ўталочыць цывільнага жыцьця. Гэта новая кніжная мова (прыкладам наша мова ў актах і ў „Статутуце Літоўскім") не зыходзячы з царкоўна-славянскай асновы, ўбірае ў сябе адміністрацыйны і інтэлігенцкі жаргон, саўсім не датыкаючы ні слоўнікавых ні граматычных асобнасьцяў народнай мовы. Школа-ж, царква ў далейшым служаць фактарамі зьбліжаючымі. Дык ўласьціва трэба на гэты пэрыод, ад XIII ст., глядзець як на пэрыод нівэляваньня мясцовых аобнасьцяў, які працэс трываў да нашых дзён.

Запазычаньня, асабліва славарныя, зрабілі Вялікарусы з беларускай мовы найбольшыя ў апошнія часы. Прыкладам слоўнік Насовіча (каля 30.000 слоў), цалком быў ўключан у Расійскі акадэмічны слоўнік (выданьня Акадэміі навук), ня кажучы ўжо аб ранейшых запазычаньнях. І калі мы возьмем расійскую кніжку пачатку XIX ст. мы ўбачым, што за сто гадоў, вялікаруская мова прыблізілася да беларускай на аграмадны дыстанс і формамі і слоўнікам, а не наадварот.

У гэтым працэсе аграмадную ролю сыграла тое „выключнае палажэньне" беларускай мовы, аб якім мімаходам заўважае Карскі. А гэта „выключнасьць" зводзіцца да таго, што беларускі народ рана ўтраціў сваю палітычную незалежнасьць і праз гэта мова беларуская апынулася ў палажэньні безгаспадарскай ўласнасьці, якой гаспадарамі, поўнымі і безкантрольнымі, па праву „братэрства", абазваліся Маскалі, і якія цягнулі ўсё што трапіла пад руку, з беларускага дабра ў свой культурны скарбец.

Л—кі.

# Аб Беларусах лацiньнiках*).

За апошнія 3 гады можна зацёміць у беларускай працы дзіўное й шкоднае зьявішча. Справа ў тым, што ў нашым грамадзянстве вытвараецца пагляд на Беларусоў каталікоў, як на часьць Беларускага Народу меней важную пры нашым нацыянальным і гаспадарственым адраджэньні і шмат меней робіцца дзеля адраджэньня Беларусоў каталікоў, чымся дзеля адраджэньня Беларусоў праваслаўных. Гэта выклікана дзьвюма прычынамі. Адна прычына тая, што ў апошні час да беларускага руху прыбыло шмат новых сіл з боку абруселае беларускае інтэлігенцыі. Гэтая інтэлігенцыя, жывучы раней маскоўскім жыцьцём, прывыкла была памаскоўску ўважаць усіх каталікоў, у тэй лічбе й каталікоў Беларусоў, Палякамі. Дзеля гэтага часьць іх і цяпер, стаўшыся сьвядомымі Беларусамі, недаверчыва адносяцца да сваіх братоў, Беларусоў каталікоў, меней або й сусім ніякае ўвагі не зварочуе дзеля працы сярод іх і ў гэтым-жа кірунку робіць уплыў (навет паміма свае волі) на тыя беларускія арганізацыі, сябрамі якіх зьяўляюцца, а гэтым і на усё грамадзянства. Другая, ня меней важная, прычына тая, што працаваць цяпер паміж беларускага каталіцкага насяленьня, вялізарная большасьць якога жыве на захадзе Беларусі і апынулася ў даную часіну пад польскай акупацыяй, цяжэй чымся паміж праваслаўнымі Беларусамі пад тэй-жа акупацыяй. Навет несьвядомы праваслаўны Беларус, няхочучы мець польскае, прыкладам школы, спачатку згаджаецца, а потым, усьвядамляючыся, і дамагаецца беларускае школы. Каталік-жа Беларус будзе гэта рабіць толькі тады, калі ён запраўды сьвядомы, бо ў той час, калі дзеля адчыненьня польскае школы ён непатрабуе нічагусенькі рабіць, то каб адчыніць у сябе беларускую школу, мусіць мець грамадзкую й асабістую адвагу, мусіць перамагчы страх паліцыі, жандармэрыі, быць прыгатаваным сесьці ў турму, як „агітатар“, „бальшавік“ і гэта ўсё з малой надзеяй, што польская ўлада беларускую школу дазволіць адчыніць. Пры другіх-жа, болей спагадных варунках дзеля ўсьвядомленьня Беларусоў каталікоў, праца паміж іх бывае лягчэйшаю. Пад маскоўскаю уладаю праца паміж каталікоў была і ё балей удачная, як паміж праваслаўных. Адносіны да Беларусоў каталікоў, як да нейкае меней важнае часьці нашага Народу, не апраўдуюцца ні гісторыяй, ні тым запраўдным значэньнем, якое прыпадае Беларусом каталіком у нацыянальным і дзяржаўным адраджэньні Беларускага Народу.

Гісторыя нам кажа, што заўсёды сярод Беларусоў быў і некаторы % Беларусоў лацiньнiкаў.

Яшчэ да агульнага прынятку хрысьцянства ў Беларусі, дзякуючы заходнім і бізантскім культурным уплывам, сярод Беларусоў былі паасобныя хрысьціяне лацінскага і грэцкага абраду. Трэба думаць, што тады-ж, дзякуючы арабскаму культурнаму ўплыву, некаторыя Беларусы прыймалі і іслам. Пасьлей, калі з аднаго боку Печанегі й Полаўцы, прыйшоўшы з Азыі і зваяваўшы Хазар, загарадзілі дарогу арабска-скандынаўскаму гандлю, па Волзе, які быў найважнейшаю галіною ўсьсеветнага арабскага гандлю, і тым спынілі арабскі ўплыў, а з другога боку з Скандынавіі прышлі Русы, Варагі, якія пабіўшы супольна з тагочаснымі Украінцамі Хазар, навязалі тарговыя і іншыя зносіны праз вялікую дарогу „з Вараг у Грэкі“ з адроджанай тады Візантыяй,—пачынаюцца ў Украіне і Беларусі вялікшыя візантскія ўплывы. З прыняткам візантскага хрысьціянства, ў Кіеве 988 г., яно пашыраецца і ў

*) Гэты нарыс—старога беларускага дзеяча, палажыўшага значныя заслугі перад беларускім адраджэньнем,—Рэдакцыя памяшчае ў парадку дыскусыйным.

Беларусі. Цікаўна ў нашай старой царкоўнай літэратуры полеміка проці лацінства; з яе відаць, што візантскае хрысьціянства шырылася адначасна вядучы барацьбу з лацінскім абрадам. Праваслаўная гіерархія натужувала ўсе сілы, каб зьніштожыць лацінства і наадварот, лацінства старалася выціснуць ўплывы праваслаўныя. Няпрыязныя адносіны паміж Беларусамі і Немцамі, якія пачаліся з пачатку XIII в., ад закладзін Немцамі ў цяперашняй Лацьвіі Лівонскага ордэну, ад якога часу паміж гэтым ордэнам і Полацкім князьствам вядзецца барацьба за ўладу над Лівоніяй, вытварылі няпрыязьнь да лацінства, якое тады ўважалася ў нас нямецкаю вераю. Зваяваўшы аканчальна лацінства, праваслаўе ў Беларусі стала нацыянальнаю беларускаю вераю. Але й пасьля гэтага, дзякуючы рэлігійнай толеранцыі, якой заўсёды адзначалася Незалежная Беларусь, беларусы лаціньнікі, хоць і ў малой лічбе, аставаліся.

Былі Беларусы лаціньнікі і ў часе т. зв. 1-га літоўскага пэрыоду (другі літоўскі пэрыод трэба лічыць ад Крэўскае уніі 1386 г. да Люблінскае уніі 1569 г.), беларускае гісторыі У часы князя Гедыміна быў нейкі лік Беларусоў каталікоў і гэты Вялікі Князь ўлетку 1323 г. зьвярнуўся да нямецкіх францішканаў саксонскае правінцыі з просьбай прыслаць у Вільню і Новагродак для абслугі манастырскіх касьцёлаў чатырох духоўнікаў, якія ўмелі-б гутарыць і пабеларуску, такіх, „якія цяпер ёсьць і даўней былі“[1]. Пасьлей В. Кн. Ягайла-Якаў перайшоўшы з праваслаўнае веры ў каталіцкую, быў ахрышчаны пакаталіцку адначасна з літоўскімі й многімі беларускімі баярамі і князьмі. Пры гэтым баяры, князі й сам В. князь былі навучаны новае веры ў беларускай мове, якая ўжывалася ўжо й дагэнуль у сьвятынях; пропаведзі казалі ня толькі ў Беларусоў праваслаўных, але і ў Беларусоў каталікоў, на Вялікакняжскім двары і стала цяпер ужывацца ў касьцеле В. Князя Ягайлы[2]. В. Князь Ягайла, парайшоўшы ў лацінства сам, рабіў навет значную прынуку дзеля навярненьня праваслаўных Беларусоў на лацінства. У Вільні 1387 г: ён выдаў Унівэрсал аб хрышчэньні Русіноў[3]) і надзяленьні свабод каталіцкаму касьцёлу. У тым-жа дакумэнце Ягайла кажа, што жадаючы адзінай ў веры ў Літве й Русі, загадавае „omnes natione Lituanos utriusque sexus cuiuscumque status, conditionis aut eminentiad exiterint in nostris dominis Lithuaniae et Russiae existentes, ad fidem catholikam et S. Romanae Ecclesiae obedientiam induere, atrahere, convocare; imo compellere in quacunque secta fuerint“: Далей Вял. Князь загадавае: „districte prohibemus, ut nullos Lithuanos utriusque sexus Ruteno similiter utriusque (sexus) matrimonialiter copuletur, nisi prias abedia Romanae Ecclesiae cur effectu“.

Пад страхам кары праваслаўная старана ў сямьі мусіла перайсьці на лацінскі абрад[4]). Ня трэба й казаць, што, каб убіцца ў ласку В. Князю, шмат тагочасных выдатных Беларусоў перайшло ў лацінства.

Ян Остроруг, вылічаючы заслугі В. Князя Ягайлы, кажа, што plerasrque Russiarum regiones a multis superstitionibus retrahit. Гісторык кс. др. Ян Фіялка аб Ягайлу кажа: „...схызматыкаў многа ў прасторных іхніх літоўска-рускіх гаспадарствах прывёў да праўдзівае, якую й сам вызнаваў, веры“, начай кажучы да лацінскага абраду.

Гісторык Энэаш Сільвіус, у якога наагул Эўропа чытала аб Беларусох, будучы папаю, як Піус II, даведаўся, што Ягайла „прывёў да веры нашае рымска-каталіцкае разныя народы, галоўна народ літоўскі й рускі, першы ўвесь, а другі вялікую часьць, а найменна там, дзе той жыў сярод ліцьвіноў, ці то ў суседзтве іх бліжэйшым, водаль ад біскупстваў усходня-грэцкіх“, інакш кажучы на Палесьсі і ў Беларусі[5]).

Унівэрсал Вітаўта ў справе хрышчэньня Ліцьвіноў (мусіць з 1392 г.) робіць палёгку ў навярненьні на лацінства тагочасных Беларусоў, бо кажа: „... які Русін будзе, а будзе хацець па сваёй волі хрысьціцца, той хай сабе хрысьціцца, а які ня хоча, хай астаецца ў сваёй веры“.

Навярненьне Беларусоў на каталіцтва адбываецца ўвесь XV, XVI в.в. і далей. У 1501 г. папа Александар VI ў апрычонай булі да віленскага біскупа дае спосаб прынятку Беларусоў на каталіцызм. „Выказуючы пры гэтым вялікую сваю радасць, папа катэгорычна забараняе аднаўленьня хрышчэньня людзей праваслаўнае веры, якія хочуць злучыцца з рымска-каталіцкаю царквою [6]).

У XVI в. шмат беларускіх паноў перайшло ў лацінства пры пасярэдніцтве рэформацыі (кальвінізму й лютэранства).

Учасе Люблінскае уніі Вялікага княства Літоўскага з Польшчаю 1569 г., калі валынскія паслы ня хочучы гэнае уніі, не прыяжджалі на прысягу, дык у сойме. Палякі прыдумавалі на іх кары. Паміж іншымі, як запісаў адзін Паляк, аўтор соймавага дзеяшніка, хацелі: „рымска-каталіцкаму біскупу Луцкаму Вікторыну Вярбіцкаму двары поконфіскаваць, бо ён ня хоча прыехаці, ані ня відаць з ліста яго, каб ён меў ахвоту прыехаці, бо ён тож Русін“. А відаць гэта з таго, што ён напісаў каралю ліст не папольску, але парускy [7]). Кіеўскі рымска-каталіцкі біскуп Язэп Верашчынскі, патрыот Украйны, хадзіў з казакамі ў паход на татар і лятуцеў аб закладзінах Запароскага рыцарскага ордэну, падобнага да Мальтыйскага. Калі ў той час у Украйне, гдзе быў шмат меншы ўплыў лацінства, былі сьвядомыя свае нацыянальнасьці „русіны“ каталіцкія біскупы, дык ў Беларусі й пагатове. Беларусам, родам з Крайска, цяпер Вялейскага павету, быў у XVI в. віленскі рымска-каталіцкі біскуп Валерыян Протасэвіч-Суткоўскі. Добра характэрызуе той час і тое, што кароль Жыгімонт Аўгуст II вядзе карэспандэнцыю з віленскай капітулай пабеларуску [8]).

Прывяду яшчэ адзін дакумэнт XVII в. аб Беларусох і Украінцах лацінніках. Ім ёсьць „Супплікацыя“ пададзеная Сэнату Рэчыпаспалітае на Сойм 1623 г. усёю праваслаўнаю шляхтаю Вялікага Княства Літоўска-Беларускага і каронных зямель (украінскаю). Вось адрыўкі з гэнае „Суплікацыі“: „Шляхту Народу Рускага сьвятое памяці кароль Яго Міласьць Жыгімонт Аўгуст у прывілеі Народу Рускаму, ўчасе інкорпорацыі (да польскае кароны) дадзеным, на два яе законы дзелячы, адну закону рымскага, другую закону грэцкага ймянуе. А абодвух гэтых законаў Русь усіх свабод, вольнасьцяў правоў і станоў Кароны Польскае чыніць ён у роўнай меры учасьнікамі восьжа і шляхту закону грэцкага, тую, што за яго панаваньня, так як і ў мінуўшых сталецьцях, пад паслушнасьцяй Константынопальскага Патрыярха была. Гэтае цяперашняе Русі уніяцкае і правы нашыя ня знаюць, і Кароль Я. М. Польскі ня знаў, бо аб ёй ніякага ўспаміну ў прывілеях. Народу Рускаму дадзеных, не знаходзім, а гутарка там толькі аб Русі закону рымскага і Русі закону грэцкага“.

„Калі Русь уніяцкая ёсьць Русяй закону рымскага, то яны мусяць прыстаці на правы і вольнасьці Русі закону рымскаму дадзеныя, а нам, Русі закону грэцкага, і правом нашым маюць даці сьвяты спакой, бо яны да іх не належаць таму, што яны ня ёсьць Русяй таго закону грэцкага, якога былі тыя, каму гэныя правы дадзены. Калі-ж яны горнуцца пад нашыя правы і нашымі вольнасьцямі цешыцца хочуць, то няхай астаюцца таго грэцкага закону Русяй, якога былі тыя, каму гэныя правы й вольнасьці дадзены, значыца хай астануцца Русяй закону грэцкага пад паслушнасьцяй Патрыярха Канстантынопальскага, а ня Русяй закону рымскага пад пашлушнасьцяй

Папы Рымскага. Калі-ж яны ані рымскага закону, ані грэцкага, то ім гэтулькі правы й вольнасьці нашыя рускія служыці маюць, на колькі служаць яны прабываючым у нашых краёх чужаземцам. А калі яны хочуць быці і таго і другога закону Русяй, то такой Русі ніякіх правоў і ніякіх прывілеяў у нас няма“.

„Бо вольнасьці Народу Рускаму належацца дваякія: таму Народу Рускаму, які ёсьць веры рымскае, паслушнасьці заходняе і таму Народу Рускаму, які ёсьць веры грэцкае, паслушнасьці ўсходняе.

„Русь рымскае веры пры сваёй вольнасьці астаецца, а нам, Русі веры грэцкае, вольнасьць выдзерта[9])....

З гэтага дакумэнту бачым, што ня толькі было шмат Беларусоў лацíньнікаў, але і як беларуская шляхта, якая прадстаўляла тады Беларускі Народ, адносілася да іх. Вось-жа бачым, што тагочасныя праваслаўныя Беларусы зусім прызнавалі Беларусоў каталікоў Беларусамі, прызнавалі такімі самымі беларусамі, якімі былі яны—праваслаўныя Беларусы, прызнавалі няменш, як прызнаюць цяперашніх Беларусоў каталікоў цяперашнія праваслаўныя Беларусы!

Тут прыходзіць ў дум адно пытаньне. Чаму Беларусы каталікі, якія карысталіся ў рэлігійным жыцьці сваёю беларускаю моваю і ў вечавы пэрыод беларускае гісторыі, і ўвесь літоўскі пэрыод, і ў XVI в., чаму яны пасьля дапушчаюць польскую мову ў касьцёл і полёнізуюцца ў сваіх вярхох? Адказ можа быць гэткі. Полёнізацыя пачалася ў нас у езуіцкіх колегіях. У іх, тагачаснаю эўропэйскаю мудрасьцяю і ўзгадаваньнем, зацягалі нашых шляхоцкіх дзяцей (наўперад праваслаўных) і вучылі вучоныя эўропэйцы, але дзеля таго, што езуіцкія колегіі закладаліся й забасьпячаліся польскімі каралямі, то нацыянальнае ўзгадаваньне ў іх было ў руках Палякоў і вялося ў польскім нацыянальным духу. Праваслаўны Беларус выходзіў з езуіцкае школы каталіком і чуў сябе Паляком. І толькі моцная тягочасная нацыянальная традыцыя ўдзержавала пасьля гэтага многіх яшчэ пры сваёй нацыянальнасьці. Як езуіцкія вучанінікі, скончыўшы школу, ўваходзілі ў грамадзянства то, займаючы найчасьцей высокае палажэньне ў гаспадарстве і будучы патронамі паасобных каталіцкіх касьцёлаў, якія яны самі ставілі, яны рабілі полёнізацыйны ўплыў на ўсю беларускую каталіцкую царкву. З другога боку налёгія таго, што дзеялася з моваю ў праваслаўнай царкве, спрычынілася да завядзеньня польскае мовы ў беларускай каталіцкай царкве. З XIII в. у нас былі дзьве літэратурныя мовы. Адна была ўтворана адміністрацыяй, купецтвам і ўсім сьвецкім грамадзянствам; гэта была мова актаў, „Літоўскага Статуту“ Ураду і ўсяго, што не належыла да царквы. Мова гэтая была абаперта на народнай беларускай мове і была шчыра беларускаю літэратурнаю моваю. Мела яна ў сабе некаторы ўплыў стара-баўгарскае (царкоўна славянскае) мовы. Але ўжо з самага пачатку Беларусы стараліся спабыцца стара-баўгарскага ўплыву, творачы новыя беларускія словы, адпавядаючыя тым стара-баўгарскім і іншым, якіх ня было тады ў беларускай мове. Гэтак прыкладам, у гандлёвых умовах з Ганзаю XIII ст. знаходзім замест стара-баўгарскага слова „благородный“, адпавядаючае яму беларускае „дабрародны“. З часам, на што былі свае прычыны, гэтая мова прыняла некаторы ўплыў украінскае мовы. Сталі пісаць такою моваю, што яна была супольнаю ўсім Беларусом, адчасьці паўночным Украінцам. Пасьлей-жа стаў ўплыў і польскае мовы. Але ў праваслаўнай царкве ў служжбе, дадатковым набажэнстве, кнігах як шчыра рэлігійнага зьместу, так і зьместу рэлігійна-палемічнага—ужывалася стара-баўгарская мова (толькі ў пропаведзях ужывалі беларускую мову), крыху зьмененая на беларускім грунце, можна сказаць старабаўгаршчына

беларускае рэдакцыі. Толькі др. Францiск-Юры Скарына (сын купца, а ня духоўнага) спрабаваў увесьці да царквы беларускую літэратурную мову, перакладаючы 1517 г. „дзеля лепшага зразуменьня люду паспалітага“ біблію на нашу літэратурную мову. За ім пайшоў Васіль Цяпінскі. Але ад часу выданьня ў 1619 г. ў Вільні стара-баўгарскае граматыкі, Мелеція Смотрыцкага сфанатызаванае (рэзультат заўзятае тагочаснае рэлігійнае барацьбы) праваслаўнае духавенства стромка варочаецца да старыны і прыдзержваецца выключна стара-баўгаршчыны ў царкоўным жыцьці. Дык трудна было невялічкай адносна часьці Беларусоў лацiньнікаў, маючых у сабе пры гэтым найбалей дэнацыяналізаваных вярхоў, удзяржаць і разьвіць у царкоўным жыцьці сваю родную беларускую мову, калі гэтая мова не шанавалася царквою вялізарнае большасьці гэтага народу. Не маглі Беларусы лацiньнікі завесьці ў сябе ў царкоўным жыцьці стара-баўгарскае мовы, бо яна была адзнакаю ўсходняга абраду, дык памалу ў дадатковае каталіцкае набажэнства пачынае ўціскацца балей зразумелая за лацінскую польская мова. Польская мова, як даступнейшая і спалячанай часьці інтэлігенцыі, была выгаднейшая за стара-баўгарскую ў палемічных выданьнях, аб чым сьведчыць і тое што пасьлей праваслаўныя, напару, выдаюць свае палемічныя творы папольску.

Бачым у „Суплікацыі“ і адносіны да уніі. Адносіны да гэтае „новае веры шмат горшыя, чымся да іншае, старое рымскае веры, адносіны праваслаўнае шляхты да уніі сусім благія. Благія яны таму, што, як чытаем далей у „Суплікацыі“: „Ня дзеяцца бяспраўя і ня церпіць вольнасьць паняволеньня, калі Русін рэлігіі грэцкае пакідае яе і стае Русінам рэлігіі рымскае. Бо зьменаю свае рэлігіі не адмяняе ён правоў нашых і вольнасьцяў веры, але пакінуўшы самахоць тую сваю духовую вольнасьць, якую ён меў у рэлігіі грэцкай, прыймае на сябе вольнасьць духовую рэлігіі рымскае і ёю здаваляецца. Ад такога затое праву нашаму гвалт дзеяцца, ад такога і вольнасьці нашыя церпяць паняволеньня, хто рэлігію нашую грэцкую пакінуўшы, разам з сабою і правы нашыя забірае так, каб ужо правамі тымі ня можна было карыстацца тым, хто пры рэлігіі грэцкай астаўся...

„Вось дзе ёсьць бяспраўе, якое нам ад уніятаў дзееца. Вось у гэтым ёсьць вольнасьцяў нашых паняволеньня, што яны ня будучы духоўнымі рэлігіі грэцкае паслушнасьці ўсходняе, а толькі плашчом пад назовай рэлігіі грэцкае апрануўшыся, уладыцтвы, належныя духоўным паслушнасьці ўсходнае, пазабіралі, іхныя бэнэфіцыі паабсаджавалі, а нас, у паслушнасьці ўсходняй астаўшыхся і ніўчым ня вінных, чапаюць, прыціскаюць і як мага ў набажэнстве нашым перасьледуюць“ [1]).

Праваслаўным магнатам, паном, наагул праваслаўнай шляхце балюча і крыўдна цярпець, калі пастаўленыя імі, праваслаўнаю шляхтаю, цэрквы, надораныя ёю праваслаўнай царкве бэнэфіцыі новая вера адбірае сабе.

Нялюба новая вера й сваім нячуваным нейкім дагэнуль дэмакратызмам, непашаною да стану шляхоцкага, „што мы шляхта,—кажацца далей у „Суплікацыі“,—ад тых усякіх Пакасьцяў, Шышкаў, Стэцькаў, Душахватаў, Палісьветаў, Пачапоўскіх і Руцкіх (імёньні тагочасных уніяцкіх духоўных у вялікай большасьці не шляхоцкага паходжаньня), якія цяпер выдаюцца за ўладык рускіх, церпім на зьдзек нашаму стану шляхоцкаму і павінасьці нашай хрысьціянскай—бачыць Бог, ведае Кароль Я. М. Пан наш Міласьлівы, ведаюць і Вяльможнасьці Вашы“.

У задачу аўтара гэтае стацьці не ўваходзіць разгляд шкоднасьці ці карысьці уніі, а так сама прычыны яе пашырэньня. Зацемім толькі, што унія шырылася ў Беларусі 200 год і што ня толькі ўканцы большасьць

Беларускага Народу да яе належыла, але, як прызнаюць усе гісторыкі, яна сталася ў Беларусі народнаю вераю з дадаткавым беларускім набажэнствам у царкве, з беларускімі песьнямі, пропаведзямі і г. п. Вось гэтую народную веру маскоўскі цар Мікола I скасаваў у 1839 г. адным росыркам пяра. Уніяты мусілі перайсьці або ў праваслаўе або ў лацінства. Яны так і зрабілі: часьць перайшла туды, а часьць туды. Пераходзіць у праваслаўе змушаў маскоўскі ўрад, але аказалася, што уніяцкія духоўныя добра працавалі над рэлігійным усьвядамленьнем сваіх верных, і мноства уніяцкаў, ня гледзядзячы на аднолькавасьць абрадаў, ні завошта не хацелі перайсьці ў праваслаўе, а ня могучы аставацца уніятамі, перайшлі ў лацінства.

У часы перад скасаваньнем уніі да лацінства ў Беларусі належыла большасьць шляхты, ладная частка мяшчанства і невялікая частка сялянства. У сваёй „Суплікацыі“ XVII в. праваслаўная шляхта, лічылы Народам толькі шляхту, раўнавала беларускую лацінскую шляхту да беларускае праваслаўнае шляхты, і, гэтак прыраўнаваўшы, Беларусоў лацiньнікаў выглядала шмат у XVII в., а яшчэ балей у XIX. Запраўды-ж у адносінах да ўсяго Беларускага Народу Беларусы лаціньнікі яшчэ ў XIX в., да скасаваньня уніі, складалі нязначную меншасьць. Калі-ж зьвярнуць увагу, што як праваслаўе, так і унія з боку нацыянальнага самазахаваньня і нацыянальна-рэлігійнае адзнакі былі аднолькава добрымі для Беларускае Нацыі і прадстаўлялі з гэтага боку адзін усходні абрад, то да скасаваньня уніі можна было гутарыць аб аднаабрадавай, а значыцца з боку нацыянальнага й аднавернай Беларусі. Лаціньнікі Беларусы складалі якіх-небудзь 10% усяго Беларускага Народу. Як лаціньскі, так і ўсходні абрад прадстаўллі тады кожны паасобку заднаважаную часьць, ня было перацяганьня ці „перакуляваньня“ з аднаго абраду на другі а значыцца ня было рэлігійнае звады й ненавіднасьці паміж часьцямі аднаго Народу. Скасаваньнем уніі Беларускі Народ быў падзелены на дзьве няроўныя часці — Беларусоў праваслаўных усходняга, Беларусоў каталікоў лацінскага абраду, абрады, якія, пачынаючы з XI в., а навет і раней, вялі паміж сабою на ўсім сьвеце, дзе толькі з сабою стыкаліся, заўзятую барацьбу. Лацінская часьць Беларусоў была меншая, але затое урадовымі ўціскамі надзвычайна сфанатызавана і праяўляла вялікую актыўнасьць. Касуючы унію, расійскі ўрад адначасна забараніў ужываць беларускую мову ў каталіцкіх касьцёлах і праваслаўных цэрквах і гэтым маскалячы адных у праваслаўнай царкве, другіх аддаваў пад полёнізацыю польскай каталіцкай царкве, бо беларуская мова была забронена. Гэта была нягодная палітыка якая, дзелячы штучна на дзьве часьці суцэльны Беларускі Народ, адначасна гатавала звадў паміж гэтымі дзьвюма часьцямі, зваду наўперад на грунце рэлігійным за хісьлявыя (найчасьцей у праваслаўных) „уніяцкія душы“, а пасьля нат на грунце нацыянальным за маскоўскія й польскія інтарэсы. Беларусы на думку маскоўскага ўраду павінны былі стацца разьдзеленымі на два непрыяцельскія табары, янычарамі, якія, бьючыся паміж сабою, мусілі самі сябе зьніштожыць. Скасаваньнем уніі і забаронаю ў касьцёлах і цэрквах беларускае мовы маскоўскі ўрад Міколы I зрабіў над Беларускім Народам праступленьне, роўнага якому няма ў гісторыі Беларусі. Праступленьне гэнае навет шмат вялікшае за тое, якое было зроблена Маскалямі над Беларусамі ў 1915 г. перад наступленьнем Немцаў, калі звыш мільёну беларускага насяленьня Горадзеншчыны, Віленшчыны і Меншчыны былі імі выгнаны ў далёкую маскоўскую чужыню, дзе ўміралі масамі ад голаду, сьцюжы й пошасьцяў; тыя-ж што неяк пераЖылі, ўміралі сёлета ў 40% ад голаду ці сьцюжы па бальшавіцкіх і польскіх зялезных дарогах і бараках: шчасьлівыя, якія вярнуліся ў Бацькаўшчыну цяпер без насеньня і еміны ўміраюць на сваіх спаленых і задзірванелых дзядоўшчынах. Дапаўненьне Міколаўска-

га праступленьня рабілася ў працягу ўсяго XIX в., асабліва ж у часе Аляксандра II, калі лацінькікаў Беларусоў розныя князі Хаванскія казацкімі нагайкамі „хрысьцілі з тутэйшых ды ў Палякі“, як кажа Мацей Бурачок. А барацьба за „уніяцкія душы“ з новай сілаю ўзьнялася ў 1905-6 г., калі ў затручаным і затручаваным ненавідnасьцяй паветры паміж „польскімі“ й „рускімі“ Беларусамі апошнія масамі пераходзілі ў лацінства.

Гэтак сталася і паправіць гэта аказаўся здольным і ўсё будзе здальнейшым Беларускі Рух. Ня новым шкоджаньнем, новымі абмылкамі і ненавіднасьцяй а любоўю і працаю дзеля адраджэньня ўсяго Беларускага Народу, бяз розьніцы абраду, можна паправіць вялізарную шкоду, зробленую гэтаму Народу ў мінуўшчыне.

Беларусоў каталікоў цяпер больш 3 мільёнаў, значыцца яны складаюць адну чверць усяго Беларускага Народу. Ці-ж можа хоць адзін сьвядомы Беларус згадзіцца на загубу чверці свайго народу? Але мала гэтага. Беларусы каталікі не займаюць асабнае тэрыторыі, але жывуць вялікаю лічбаю перамешаны з Беларусамі праваслаўнымі ў Горадзеншчыне, Віленшчыне і заходняй Віцебшчыне ды малою лічбаю ў усходняй Меншчыне, Магілеўшчыне і навет сустракаюцца ў усходняй Віцебшчыне, Смаленшчыне, Чарнігаўшчыне. Не перамешаны з праваслаўнымі Беларусы каталікі жывуць толькі ў Аўгустоўскім пав. Сувальшчыны. Гэткае перамяшаньне Беларусоў двох розных абрадаў ня дасьць магчымасьці ім пры пашырэньні беларускага руху пачуваць сябе двума рознымі народамі, як гэта сталася ў каталіцкіх харватаў і праваслаўных сэрбаў. Але з другога боку, калі-б пры нашай нядбайнасьці не настала адраджэньне Беларусоў каталікоў, дык немагчыма было-б запраўднае адраджэньне й арганізаваньне праваслаўных Беларусоў заходняе часьці Беларусі, ды яшчэ асталіся тонкія польскія пальцы ў усходняй палавіне Беларусі. Без адраджэньня-ж заходняе палавіны Беларусі, найбалей актыўнае, немагчыма беларускае нацыянальнае і дзяржаўнае адраджэньне наагул. Ня будзем казаць ужо аб тым, што Беларусы каталікі ад самага пачатку беларускага руху прыймалі й прыймаюць у ім вельмі дзейнае ўчасьце і выказалі сябе на ўсіх галінах беларускага грамадзкага й культурнага жыцьця кожны, хто знае хоць крыху беларускае жыцьцё, ведае гэта. Дык кожны Беларус мусіць сабе ясна ўцеміць, што ніякае Беларусі аднаабрадавае ці праваслаўнае, ці каталіцкае няма. Хто думае, што прадстаўляе сабе такую Беларусь, той вельмі мыліцца і выказуе гэтым сваю няпоўную сьвядомасьць.

Трудна вымагаць, каб дзеля адраджэньня Беларусоў каталікоў рабілася балей, як дзеля адраджэньня Беларусоў праваслаўных, але мусім вымагаць, каб дзеля каталікоў рабілася пропорцыянальна прыблізна гэтулькі, колькі й дзеля праваслаўных. Асабліва гэта трэба падчыркнуць таму, што за апошнія гады, калі пад польскай уладай міжы праваслаўных Беларусоў лягчэй працаваць чымся міжы Беларусоў каталікоў, навет сьвядомыя рабачаі, Беларусы з каталікоў, ідуць у кірунку найменшага супраціўленьня і ўмысня выбіраюць сабе працу сярод праваслаўных, абмінаючы каталікоў. Ведама што працуючы наагул дзеля беларускае справы, гэтым самым працуецца й дзеля Беларусоў-каталікоў і трэба старацца, каб паміж Беларусамі розных вер была найвялікшая лучнасьць. Але, працуючы, мы павінны й прытарнавацца да тых варункаў, у якіх жывуць Беларусы каталікі. Паміж Беларусоў лацінькікаў павінна весьціся адумысловая сыстэматычная арганізаваная праца, пачынаючы ад газэт (хоць-бы спачатку адну народную штодзенную газэту, выдаваную лацінькікай), папулярных кніжак, друкаваных лацінікаю, далей школы й г. п. Асаблівую ўвагу трэба зьвярнуць спачатку на газэты й кніжкі.

Адроджаныя Беларусы праваслаўныя й каталікі прадставяць адзін цэлы

й суцэльна сьвядомы Беларускі Народ, які займе пачэснае месца міжы сваіх срєедзяў.

БРАЧЫСЛАЎ СКАРЫНІЧ.

Прага, Чэрвень 1922 г.

## Зацемкі.

1) „Polska i Litwa w dziejowym stosunku“ Выд. 1914 г., стр. 19.

2) Там-жа, стр. 51—52, 55.

3) Тэрмін Русь, Русін, Русіч, рускі (апошняе як прымета) ужываўся дзеля абазначаньня Беларусоў і Украінцоў. Апрача таго, дзеля назовы Беларусоў ужываліся яшчэ тэрміны Крывія, Крывіч, крывіцкі, крыўскі; Літва, ліцьвін, літоўскі; Беларусь, Беларус, беларускі, а Украінцаў—Маларусь, Маларус, маларускі; Украіна, Украінец, украінскі. Залежна ад часу, той ці іншы тэрмін быў балей або меней пашыраны. Маскоўшчыну даўней гэтак і называлі: Масква, Маскоўшчына, Маскаль, Масковія, Масковіт.

4) Кс. І. Курчэўскі, „Kościoł Zamkowy“ II, стр. 911, надрукаваны там-жа Унівэрсал Ягайлы.

5) „Polska i Litwa w dziej. stosunku“ стр. 42, 45 і 49.

6) Кс. І. Курчэўскі „Kośc. Zamk.“ II, стр, 23,—33—35.

7) Dyaryusz Sejmu Lubelskiego 1569 г., выданы Пецярбурскаю Археогр. ком., стр. 257. Гэты адрывак надрукаваны ў „Украіна на переломі“ В. Липинського, ч. І, стр. 126.

8) „Polska i Litwa w dziej stosunku“ стр. 229 і 243.

9) Цэлая „Суплікацыя“ надрукавана ў „Документахъ объясняющихъ исторію зап.-рус. края“ (Пецярбург 1865). Прыводжаныя тут адрыўкі надрукаваны ў „Украіна на переломі“ В. Липинського, ч. І, стр. 240-244.

10) Апрача іншых кажа аб гэтым Михайло Возняк у „Історія української літератури“ том І до кінця XV віку. У Львові. Накладом „Просвіти“ на стр. 22: ...„з часам вытварылася, з прычыны блізіні украінскае й беларускае мовы ў тых часах, шмат вялікшае як цяпер „рэч руская“, „мова руская“ з гукамі супольнымі беларускім і паўночна украінскім гутаркам, з абмінаньнем яркіх абсалівасьцяй украінскае й беларускае мовы“.

---

К. ДУШЭЎСКІ.

# Даваенны бюджэт Беларусі.

Часта можна пачуць гутаркі аб тым, што Беларусь, як незалежная дзяржава, ня можа істнаваць, бо яе эканамічны стан ня вытрымае дзяржаўнага апарату. Некаторыя з праціўнікаў незалежнасьці Беларусі даводзяць, што бюджэту беларускага ня хопіць нават на пакрыцьцё расходаў на адну прасьвету і г. д. Яны забываюцца аб тым, што не за прыгожыя вочы беларуса, суседзі, з такой прагавітасьцю і ўпорствам, імкнуцца захапіць калі ня ўсю Беларусь, то хоць сумежныя часткі яе. Можа ня ведаюць яны, а мо ня хочуць ведаць, што, прыкладам, Польшча ў цяперашні час латае свой бюджэт і ўмацовуе сваe фінансы, якраз дабром „слабой эканамічна“ Беларусі; што Р. С. Ф. С. Р. адзіны, блізка таго, экспорт мае якраз, экспорт дабра беларускага. Яны забываюцца, а можа ня ведаюць, што, пропорціанальна, галоўны цяжар контрыбуцыі за расійска-японскую вайну вынесла тая-ж самая Беларусь.

Есьць ведама што б. Расія не прыплачвавала да „окраин“, а наадварот, мела з іх вялікі зыск. Толькі бюджэт Каўказу, ня гледзячы на яго вялікія прыродныя багацьці, даваў дэфіцыт, але і то не з прычыны яго самога, а з прычыны спэцыяльнай расійскай палітыкі. У Ліку „окраин“, даваўшых Расіі значны зыск, была і Беларусь. Гэтымі радкамі я не бяруся разглядаць эканамічнага стану Беларусі у цэлым, але хачу зьвярнуць увагу толькі на даваенны бюджэт Беларусі і Літвы. Даваенны, бяру таму, што той час быў больш-менш сталы і зьнешне нармальны, цяперашні-ж момант зьяўляецца як ненармальным палітычна, так эканамічна і фінансава, а дзеля гэтага, каб нават былі якія-небудзь лічбавыя матэрьялы ці каштарысы, то па іх нельга было-бы судзіць аб палажэньні ні эканамічным, ні фінансавым краю і народу.

Бюджэт зьяўляўся, дый цяпер зьяўляецца адным з галоўных паказчыкаў эканамічнай моцы і трываласьці народу, як бы градусьнікам яго здароўя, працавітасьці і энэргіі. Есьць ведама, што, прыкладам, дэфіцыт у дзяржаве, зараз жа мае адгалосак на ўсім сьвеце і дзяржава такая часта траціць да сябе і даверье і крэдыт.

Пераходзячы цяпер да самога бюджэту я павінен адзначыць, што аблічыць саўсім пунктуальна бюджэт Беларусі па тых казённых абрахунках і справаздачах, якія друкаваліся быўшым урадам расійскім—даволі трудна. Многія „даходы“ аднасіліся да тэй тэрыторыі, на якой прыпадкова ляжала тое чы другое упраўленьне або дэпартамэнт, хаця бы даходы гэты былі і ня з гэтых зямель, але дасаваліся да ўсяго абшару быўшай Расіі. Прыкладам, мыта, адносілася да тае губэрні, дзе знаходзілася мытная камара, а фактычна мытную надвыжку у цане на тавар плацілі ўсе, хто таварам гэтым карыстаўся і яго купляў, а ня тая губэрня, на якой знаходзілася камара. У афіцыяльных справаздачах ёсьць цэлая катэгорыя даходаў так званых „непадзеленых“. Гэта знача, не аднатаваных тэрыторыяльна. Да такіх належаць даходы з мыта, ад эксплоатацыі чыгунак, ад опэрацый дзаржаўнага банку і ад капіталаў, ад акцызу і некатор. другіх. Гэты „непадзеленыя“ даходы складалі да 35% усіх звычайных даходаў быўшай Расійскай Імпэрыі.

Выдаткі-ж, з большага, былі ўсе падзелены і непадзеленых было толькі да 2%, гэта выдаткі міністэрства двара, загранічных спраў і ўтрыманьне вышэйшых дзяржаўных установаў.

Даходы і расходы падзеленыя. На табліцы 1-яй прыведзены падзеленыя па губэрнях даходы і расходы за 1912 год паводле: „Статистическій ежегодник на 1914 год“. Табл. CXI. (лічбы акруглены).

Табл. 1.

| Губэрні | Звычайны даход рублёў | Звычайны расход рублёў |
|---|---|---|
| Віленская | 16 048 000 | 36 222 000 |
| Вітабская | 12 509 000 | 12 931 000 |
| Горадзенская | 18 617 000 | 23 663 000 |
| Магілёўская | 12 583 000 | 12 826 000 |
| Менская | 21 356 000 | 29 423 000 |
| Смаленская | 17 001 000 | 12 408 000 |
| Чарнігаўская | 21 096 000 | 16 847 000 |
| Ковенская | 10 918 000 | 11 422 000 |
| РАЗАМ | 130 128 000 | 156 742 000 |

Даходы гэты распадзеляліся гэтім чынам:

Табл. 2.

| Даходы з | Віленская | Вітабская | Горадзенская | Магілёўская | Менская | Смаленская | Чарнігаўская | Ковенская | Разам |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Губэрні | | | | | | | | |
| | тысячы рублёў | | | | | | | | |
| 1. Налогаў пазямельных, з нярухомай маямасьці і падаткоў . . . . | 538 | 332 | 534 | 273 | 438 | 252 | 613 | 462 | 3442 |
| 2. Дзяржаўнага прамысловага налогу | 946 | 705 | 886 | 600 | 730 | 519 | 780 | 537 | 5703 |
| 3. Збор даходаў ад грашовых капіталаў . . . . . . | 417 | 14 | 24 | 17 | 45 | 18 | 25 | 19 | 579 |
| 4. Зборы гербавыя, судз., канц., і з запісу дакумэнтаў | 828 | 527 | 578 | 430 | 821 | 431 | 664 | 380 | 4659 |
| 5. З пераходзячых маемасьцяў . . | 380 | 278 | 211 | 179 | 424 | 345 | 314 | 196 | 2327 |
| 6. З застрахаваных ад агня маемасьцяў . . . . . . | 6 | 9 | 5 | 7 | 29 | 18 | 22 | 7 | 103 |
| 7. Пачтовы даход | 970 | 692 | 800 | 545 | 828 | 457 | 651 | 562 | 5505 |
| 8. Тэлеграфу і тэлефону . . . . | 396 | 221 | 240 | 231 | 385 | 175 | 224 | 172 | 2044 |
| 9. Ад манаполькі . | 5836 | 6577 | 7562 | 8030 | 10118 | 12912 | 12101 | 5133 | 68269 |
| 10. Ад эксплоатацыі лясоў, і нярухом., канцэсыі, чынш і іншыя . . . . . | 5731 | 3154 | 7777 | 2271 | 7538 | 1874 | 5702 | 2450 | 37497 |
| Разам . . | 16048 | 12509 | 18617 | 12583 | 21356 | 17001 | 21096 | 10918 | 130128 |

З табл. 1-ай выглядае бытцам Беларусь і Літва давалі дэфіцыт, бо расходу у 1912 годзе было 156.742.000 рублі, а даходу 130.128.000; але так выглядае дзеля таго, што, як ужо сказана вышэй сюды не ўвайшлі даходы непадзеляныя г. зн. даходы з мыта, чыгунак, опэрацый дзяржаўнага банку, акцызу і некатор. другія менш значныя.

Даходы непадзеленыя. Усе казённыя чыгункі на Беларусі і Літве давалі чыстага даходу 38.524.000 рублёў. Распадзел гэтага даходу па губэрнях паказаны ў табл. 3-яй. Ен вылічаны з сярэдняй павёрстнай даходнасьці чыгунак Эўропэйскай Расіі за 1912 год.

Мытны даход на Эўропэйскай граніцы б. Расіі у 1912 годзе агулам выносіў 295 міл. рублёў. Калі прыняць, што карысталіся таварамі абложанымі мытам, больш-менш, аднолькова ўсе часьці імпэрыі, то без вялікай пагрэшнасьці можна прыняць, што на долю Беларусі і Літвы (лічучы ўсю Смаленскую і Чарнігаўскую губ.) мытнага цяжару прыходзілася 36 міл. рублёў. Падобным чынам можна аблічыць і даход з опэрацый Дзяржаўнага Банку, даход гэты выносіў у 1912 годзе на Беларусі і Літве да 2.400.000 рублёў, і акцызны збор на той жа абшар выносіў да 27.360.000 рублёў.

Гэткім чынам, галоўных непадзеленых даходаў Беларусь і Літва давала:

Табл. 3.

| Губэрні. | Даходы у тысячах руб. з | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| | Мыта | Чыгунак | Дз. Банку | Акцызн. збору | Разам |
| Па ўсей Літве і Беларусі . . | 36000 | 38525 | 2400 | 27360 | 104285 |
| Віленская губ. . . . . . . . | 4000 | 4095 | — | 3010 | 11105 |
| Вітабская „ . . . . . . . | 3800 | 5808 | — | 2850 | 12458 |
| Горадзенская . . . . . . | 4000 | 5656 | — | 3040 | 12696 |
| Магілёўская . . . . . . . . | 4600 | 3718 | — | 3500 | 11818 |
| Менская . . . . . . . . . . | 6000 | 5883 | — | 4450 | 16333 |
| Смаленская . . . . . . . . . | 4000 | 5511 | — | 3100 | 12611 |
| Чарнігаўская . . . . . . . . | 6000 | 5100 | — | 4650 | 15750 |
| Ковенская . . . . . . . . . | 3600 | 2754 | — | 2760 | 9114 |

Калі мы дадамо гэты непадзеленыя даходы да падзеленых, то абраз саўсім зьменіцца

Табл. 4. Падзеленыя і непадзеленыя даходы па губэрнях разам.

| Губэрні | Падзеленыя | Непадзеленыя | Разам |
|---|---|---|---|
| | тысячы рублёў | | |
| Па ўсей Беларусі і Літве . . . . . . | 130128 | 104285 | 234413 |
| Віленская . . . . . . . . . . . . . | 16048 | 11105 | 27153 |
| Вітабская . . . . . . . . . . . . | 12509 | 12458 | 24967 |
| Горадзенская . . . . . . . . . . . . | 18617 | 12696 | 31313 |
| Магілёўская . . . . . . . . . . . . | 12583 | 11818 | 24401 |
| Менская . . . . . . . . . . . . . . | 21356 | 16333 | 37689 |
| Смаленская . . . . . . . . . . . . | 17001 | 12611 | 29612 |
| Чарнігаўская . . . . . . . . . . . | 21096 | 15750 | 36846 |
| Ковенская . . . . . . . . . . . . . | 10918 | 9114 | 20032 |

Мы бачым, што, Расія мела з Беларусі і Літвы звычайнага даходу 234.313.000 рублёў, а расходу, як відаць з табліцы 1-ай, 156.742.000 рублі. Калі-ж мы далучым сюды расходы ненадзеленыя гэта знача, на вышэйшае упраўленьне 1%; зьнешнія зносіны і прадстаўніцтва 0.2% і некаторыя другія 0,8% усяго да 2%, то расходы па Беларусі і Літве выразяцца ў суме 156.742.000+3.134.840—159.875.840 руб.

Расход 159.876.840 рублёў у даных афіцыяльнай статыстыкі тэрыторыяльна па стацьцях не разьнесены, толькі некаторыя стацьці расходу паказаны. Дзеля гэтага, ў ніжэй пададзенай табліцы 5-й, паказаны распадзел расходаў у процэнтах на ўсю Расійскую Імпэрыю. Без вялікай пагрэшнасьці гэты распадзел можна прыняць і для Беларусі з Літвой.

Табл. 5. Распадзел расходаў ў процэнтах, па стацьцях расходу.

| | |
|---|---|
| Вышэйшае упраўленьне . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . | 1,0 |
| Зьнешнія зносіны дзяржавы (пасольствы, консуль., і др.) . . . . | 0,2 |
| Абарона Дзяржавы . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . | 25,8 |
| Цывільная адміністрацыя . . . . . . . . . . . . . . . . . . . | 4,2 |
| Суд . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . | 1,6 |
| Падтрыманьне ўнутранага парадку . . . . . . . . . . . . . . | 3,7 |
| Асьвета і духоўныя справы . . . . . . . . . . . . . . . . . | 6,2 |
| Мэдыцына, санітарн. часьць, вэтэрынарыя . . . . . . . . . . | 0,3 |
| Гаспадарскія справы . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . | 5,5 |
| Почта, тэлеграф і тэлефон . . . . . . . . . . . . . . . . . . | 2,6 |
| Казенныя гаспадарскія апэрацыі . . . . . . . . . . . . . . . | 27,1 |
| Аплата дзяржаўных даўгоў . . . . . . . . . . . . . . . . . . | 14,5 |
| Пэнсыі і арэнды . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . | 4,1 |
| Дзяржаўны кантроль . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . | 0,4 |

Параўнаўшы цяпер па губэрнях усе звычайныя даходы і расходы мы атрымаем:

Табл. 6.

| Губэрні | Даход | Расход | (+) астача (—) дэфіцыт |
|---|---|---|---|
| | тысячы рублёў | | |
| Па ўсей Беларусі і Літве . . . . . . . | 234413 | 159877 | + 74536 |
| Віленская губ. . . . . . . . . . . . | 27153 | 36222 | — 9069 |
| Вітабская . . . . . . . . . . . . . | 24967 | 12931 | + 12036 |
| Горадзенская . . . . . . . . . . . . | 31313 | 23663 | + 7650 |
| Магілёўская . . . . . . . . . . . . | 24401 | 12826 | + 11575 |
| Менская . . . . . . . . . . . . . . | 37689 | 29423 | + 8266 |
| Смаленская . . . . . . . . . . . . . | 29612 | 13408 | + 16204 |
| Чарнігаўская . . . . . . . . . . . . | 36846 | 16847 | + 19999 |
| Ковенская . . . . . . . . . . . . . | 20032 | 11422 | + 8610 |

Як бачым Расія ня толькі не дакладала да Беларусі і Літвы, а наадварот мела з іх даволі вялікі, бо аж 74 с паловай мільёны рублёў, зыск што складала звыж 31%, усіх даходаў Беларусі і Літвы. Трэба прыняць пад увагу яшчэ і тое, што ў даходы не ўвайшлі зыскі ад эксплоатацыі казённых заводаў і другіх прамысловых прэдпрыемстваў.

Грошы гэты не аставаліся ў краі і ня йшлі на культурныя і эканамічныя патрэбы Беларусі і Літвы. Яны выдаткаваліся, галоўным чынам, на даволі авантурную і захватніцкую палітыку Царскай Расіі. На абагачваньне мільёнаў чыноўнікаў якія, для апраўданьня свайго існаваньня, уцягвалі Расію ўсё ў новыя авантуры, часам прыкрываючыся вялікімі ідэямі і мэсыянізмам, а найчасьцей нават і бяз гэтага прыкрыцьця. За гэты ўсе авантуры і рызыку прыходзілася плаціць галоўным чынам „акраінам", г. знача, Беларусам, Літвівам, Украінцам, Латышам і другім.

Саўсім зразумела, што калі-бы, гэты грашовыя засабы ўжыць на падняцьце краю, то, пры тэй коласальнай працавітасьці і энэргіі, пры тым жаданьні навукі і веды, а так сама пры тым прадпрыемніцкім духу, які маюць народы Беларускі і Літоўскі, наш край быў бы цяпер адным з найбольш культурных, багатых і эканамічна моцных краёў ня толькі ў межах быўшай Расіі, але і агульна на эўропэйскім грунце.

Нам скажуць праціўнікі незалежнасьці Беларусі, што на асьвету, калі-б яе паставіць як належыцца, патрэбны вялікія грошы. На падняцьце інтэнсыўнасьці гаспадаркі, на давядзеньне балотаў беларускіх да культурнага стану, на выкарыстаньне торфу, і завядзеньне пляновай лясной гаспадаркі, ўрэшце, на сваё ўласнае войска патрэбны зноў-такі аграмадныя капіталы. Так, грошы патрэбны вялікія. Але, ёсьць ведама, што культурнасьць народу падымае інтэнсыўнасьць жыцьця, хуткасьць грашовых аваротаў, а разам з тым і павялічвае даходнасьць дзяржавы. Есьць ведама, што затрачаныя капіталы на падняцьце інтэнсыўнасьці гаспадаркі акупляюцца вельмі хутка і далей, так сяма, даюць вялікія зыскі жыхарству, а знача і даходы дзяржаве. Мы ведаем, што работы экспэдыцыі гэн. Жылінскага па асушцы Палескіх балотаў, акупілі сябе ў 4—5 гадоў, ня гледзячы на тое, што асушка ня была даведзена да канца. Тое-ж самае можна сказаць аб торфе і лесе. Утрыманьне войска каштуе шмат, але раз, што мы плацілі і за войска расійскае, можа нават яно нам каштавала больш, чым каму другому, з прычыны блізкасьці Беларусі і Літвы да граніцы нямецкай. Другое, калі, у незалежнай Беларусі ўвесьці працоўную павіннасьць, то войска можна дужа добра выкарыстаць для грамадзкіх работ. Магчымасьць правядзеньня ў жыцьце такой повіннасьці, ўжо некаторымі дзяржавамі даведзена, прыкладам, у Балгарыі пры Стамбулійскім. Адным словам, ёсьць ведама, што рацыянальнае павялічаньне расходаў—павялічвае яшчэ ў большай меры даходы, і дзяржава ня толькі ня церпіць дэфіцыту, а наадварат, усё больш і больш крэпне і павялічвае свае грашовыя засабы.

Вывады. 1. Бюджэт Беларусі і Літвы ня толькі не даваў дэфіцыту, але, наадварот, даваў даволі значную астачу.

2. Астача гэта ня йшла на патрэбы Краю, а ўліваючыся ў агульна дзяржаўны скарб б. Расіі, йшла на Расійскую палітыку, нічога супольнага ні з Беларусяй, ні з Літвой, ня маючую.

3. Беларусь так сама як і Літва, з боку эканамічнага фінансавага можа існаваць незалежна.

4. Пры незалежным існаваньні, Беларусь магла-бы куды лепш выкарыстаць свае фінансавыя засабы і падняць сваю дзяржаву і народ на вышэйшую ступень культуры і эканамічнай моцы.

С. К.

# Беларускія вайсковыя фармаваньні на б. румынскім фронце.

(Матэрьялы да гісторыі беларускай вайсковасьці часоў вялікай Расійскай рэволюцыі).

## Загад Рускім войскам Румынскага фронту.

9 студзеня 1918 г. № 1332.

Апавешчаю гэтым аб арганізаваньні Беларускай Вайсковай Камісыі па арганізацыі Беларускіх вайсковых часьцей на Румынскім фронце.

У склад азначанай Камісыі увайшлі:

1. Старшыня—генерал-маёр Пажарскі.
2. Сэкрэтар—паручнік 117 пяхотнага Яраслаўскага палка Ленчыоні.
3. Сябры: падпалкоўнік 4-га марскога палка Чуніхін.
4. Штабс-капітан 481 пяхотнага Мяшчэрскага палка Манцэвіч.
5. Штабс-ротмістр 11 Ізюмскага гусарскага палка Пажарскі.
6. Паручнік 117 пяхотнага Яраслаўскага палка Гаранскі.
7. Старшыня фронтавой Беларускай Рады па назначэньню апошняй.

Вышэймянаваная Камісыя памяшчаецца пры Штабе Фронту, куды усім вайсковым чыном і установам ў патрэбе належыць зьвяртацца. Тэлеграфны адрэс Камісыі: Штарум, Беларуская Камісыя.

Памочнік Аўгусьцейшага Галоўнакамандуючага арміямі Румынскага фронту, Генерал ад інфантэрыі Шчарбачоў.

## Загад Рускім войскам Румынскага фронту.

14 студзеня 1918 году. № 1362.

Згодна пастанове, Камітэту Нацыянальна-Абласных Камісароў пры штабе Румынскага фронту, загадываю 6-ты Таўрогенскі пагранічны конны полк беларусазаваць дзеля чаго, загадам Штабу 6-й арміі сабраць усе знаходзячыяся аддзелы эскадроны разам і разквартэраваць у вёсках Боўгарцы і Табакі.

Памянёнаму палку з гэтай даты мянавацца: „Першым Гусарскім Беларускім Нацыянальным палком“.

Абаснаваньне: Зносіны Старшыні Камітэту Нацыянальна-Абласных Камісараў пры Штабе Галоўнакамандуючага Румынскага фронту за № 228 і зносіны Старшыні Беларускай Вайсковай Камісыі па арганізаваньню беларускіх вайсковых часьцей на Румфронце за № 1.

Памочнік Аўгусьцейшага Галоўнакамандуючага Румынскага фронту, Генерал ад інфантэрыі Шчарбачоў.

## Загад Рускім войскам Румынскага фронту.

21 студзеня 1918 г. № 1399.

Згодна пастанаўленьню Камітэту Нацыянальна-Абласных Камісароў пры Штабе Румынскага Фронту, загадываю:

1. 4-ты Армейскі корпус у складзе 30 і 40-й пяхотных дывізый з артылерыяй, штаб корпусу і ўсе ўспаможныя часьці і ўстановы, 43-ю дывізыю з яе артылерыяй і прыдадзёнымі ей установамі і 26 аўто-броневое аддзяленьне—беларусінізаваць.

2. Усіх афіцэраў і салдатаў беларусаў, загадамі Штабоў Армій перадаць дастасоўна: з 4-ай і 6-ай Армій у 4-ты Армейскі Корпус, а з 8-ай і 9 ай Армій у 43 п. дывізыю.

Усіх-жа чыноў не беларусоў, знаходзячыхся ў паказаных часьцях, ў прыпадку іх жаданьня, выдзеліць і перадаць загадам штабоў 6 і 9 Армій у другія, не нацыяналізаваныя часьці.

Абаснаваньне: Зносіны Старшыні Камітэту Нацыянальна-Абласных Камісароў за №№ 281 і 280.

Памочнік Аўгусьцейшага Галоўнакамандуючага арміямі Румынскага фронту, Генерал ад інфантэрыі Шчарбачоў.

## Загад Рускім войскам Румынскага фронту.

23 студзеня 1918 году. № 1407.

Загадаваю 357-ю Вітабскую і 401 Мінскую дружыны беларусінізаваць.

Абаснаваньне. Зносіны Камісара па Беларускіх справах Румынскага фронту г.г. за № 113.

Памочнік Аўгусьцейшага Галоўнакамандуючага арміямі Румынскага фронту, Генерал ад інфантэрыі Шчарбачоў.

## Загад Рускім войскам Румынскага фронту.

2 лютага 1918 году. № 1436.

У дапаўненьне да загаду Рускім войскам Румынскага фронту № 1399.

Загадываю: Цяпер-жа приступіць да фармаваньня Беларускай Дывізыі з войск 4-га Армейскага Корпусу. На ўкомплектаваньне вышэйпамянёнай Дывізыі з Румфронта назначыць усіх Беларусаў—афіцэраў і салдатаў прычым апошніх пачынаючы с прызыва 1913 году і пазьней. Афіцэры і салдаты другіх нацыянальнасьцяў, выказаўшыя ахвоту служыць у Беларускай Дывізыі, падлягаюць залічэньню ў рады названай Дывізыі.

Парадак фармаваньня Дывізыі будзе дапаўніцельна паказан асобным распараджэньнямі.

Памочнік Аўгусьцейшага Галоўнакамандуючага арміямі Румынскага фронту, Генерал ад інфантэрыі Шчарбачоў.

## Загад Рускім войскам Румынскага фронту.

3-га лютага 1918 году, № 1442.

Наўсызмен загаду па фронту г. г. за № 1332 апавяшчаю войскам фронту да ведама.

Старшыня Беларускай Вайсковай Камісыі Генерал-маёр Пажарскі і сэкрэтар Камінскі, паручнік Ленчыолі выбылі ад 17 г. студзеня са складу памянёнай Камісыі з прычыны пераводу іх на службу у 7 Армейскі Корпус. У склад Беларускай Вайсковай Камісыі с 24 лютага г. г. увайшлі: Старшынёю яе—генеральнага штабу падпалкоўнік Біттэнбіндэр і сябрамі Камісыі падпалкоўнік Загароўскі і штабс-капітан Гартц.

Спраўка: Зносіны Беларускага Камісара Румфронта за № 20 ад 30 студзеня 1918 году.

Памочнік Аўгусьцейшага Галоўнакамандуючага арміямі Румынскага фронту, Генерал ад інфантэрыі Шчарбачоў.

## Загад Рускім войскам Румынскага фронту.

11 лютага 1917 году. № 1476.

Копія.

Выпіска. Журнальнае пастанаўленьне Рады Міністраў Малдаўскай Рэспублікі. Адбытае 5-га лютага 1918 году.

| Слухалі: | Пастанавілі: |
|---|---|
| Даклад: 8) Захады прадстаўніка генерала Шчарбачова аб пазваленьні фармаваньня без аружжа Беларускіх вайсковых часьцей ў межах Малдаўскай Рэспублікі. | Урад Малдаўскай Рэспублікі не сустрачае прынцыповых перашкод да пазваленьня фармаваньня на тэрыторыі Малдаўскай Рэспублікі Беларускіх вайсковых часьцей без аружжа і прапануе фармуючымся у пытаньнях пракорму знасіцца з аддзелам харчаваньня пры Міністэрстве Унутранных Спраў і Міжсаюзьніцкай Харчавой Камісыяй. Месца і падробнасьці фармаваньня павінны быць выпрацаваны у згодзе з Вайсковым Міністрам і Румынскім камандаваньнем. |

Праўдна. За кіраўніка Справамі Рады Міністроў (подпісь).

## Загад Рускім войскам Румынскага фронту.

11 лютага 1918 году № 1475.

Дзеля фармаваньня з часьцей войск 4-га Армейскага Корпусу Беларускай Пяхотнай Дывізыі, загадываю цяпер-жа прыступіць да разфармаваньня Штаба гэтага Корпусу, яго упраўленьняў, установ і майстэрань і ўсіх часьцей знаходзячыхся пры названым корпусе, а такжа 30 і 40 пяхотныя дывізыі з іх штабамі, установамі, артылерыяй і прыдаткамі гэных часьцей.

Пры разфармаваньні кіравацца дадзенымі ўжо ў гэтай справе паказаньнямі. Разфармаваньне закончыць да 25 лютага г. г., з якой даты спыніць выдаваньне ўсякай адмены надабьбя.

Аб разфармаваньні паведаміць мяне.

Спраўка. Загады Рускім войскам Румынскага фронту ад 21 студзеня № 1399 і ад 2 лютага г. г. за № 1436.

Памочнік Аўгусьцейшага Галоўнакамандуючага арміямі Румынскага фронту, Генерал ад інфантэрыі Шчарбачоў.

* * *

З беларускіх і беларусінізаваных вайсковых часьцей была ўтворана вайсковая сіла, маючая звыш 100.000 людзей. Больш палавіны ўсей маетнасьці Румынскага фронту перайшла у распараджэньне Беларускага Камісарьяту. Была мысьль ўсю гэту вайсковую сілу перапровіць на Бацькаўшчыну

аднак праектам гэтым ня суджана было зысьціцца. Ходам падзей Беларуская Армія павінна была адступіць на Румынскую тэрыторыю, дзе яна павінна была раззброіцца. Многамільённай вартасьці маетнасьць Беларускай Арміі, зложная з жывога і мёртвага вайскова інвэнтара, коней (да 2.000), грузавых і пасажырскіх аўтамабіляў (каля 800), баявых прыпасаў, адзежных складаў, гармат, карабінаў і інш., як кажуць, была здадзена у дэпазыт Румынскаму Ураду. У гэтай справе Народны Сэкрэтарьят Б. Н. Р. рабіў захады каб захаваць для сябе ўсю гэту маетнасьць. У распараджэньні Рэдакцыі „Крывіча“ маецца ліст пісаны ў гэтай справе Народным Секрэтарьятам Б. Н. Р., да тагочаснага Беларускага Камісара Румынскага фронту П. Манцэвіча, ніжэйпісанага зьместу:

Беларуская Народная Рэспубліка.

Народны Сэкрэтарьят.

7 красавіка 1918 г. № 175.

Беларускаму Камісару Румынскага фронту.

П. Д. Манцэвічу.

Знаходзячаяся, на быўшым Румынскім фронце, маетнасьць і аружжа раззброеных беларускіх і беларусізаваных вайсковых часьцей Народны Сэкрэтарьят Б. Н. Р. мае на мэце выкарыстаць для арганізаваньня на тэрыторыі Беларусі нацыянальных войск, калі варункі пазволяць гэта зрабіць (пасьля зьняцьця акупацыі).

На аснове вышэйпададзенага і згодна пастанове Народнага Сэкрэтарьяту Беларускай Народнай Рэспублікі ад 3 красавіка г. г. даручаецца Вам паведаміць аб гэтым адпаведным органам Румынскага Ураду, на быўшым Румынскім фронце, на той прыпадак, каб вышэйазначаная маетнасьць і аружжа, быўшых беларускіх часьцей, ня было перададзена іншым Урадам ці арганізацыям.

Старшыня Народнага Сэкрэтарьяту і Народны Сэкрэтар Зьнешніх Спраў Варонка.

Кіраунік Справамі Народнага Сэкрэтарьяту Л. Заяц.

* *
*

Што ў пазьнейшыя часы сталася з гэнай маетнасьцю невядома. Разфармаваныя-ж войскі ў разброд вярталіся на Бацькаўшчыну, дзе ў тыя часы была нямецкая окупацыя. У самым Менску было зарэгістравана некалькі тысяч вайскоўцаў беларусаў, якія дабіваліся ад немцаў пазваленьня прыступіць да фармаваньня рэгулярных вайсковых часьцей. Пазваленьне не было дадзена. Часть гэтых вайскоўцаў загарнула з сабой хваля, адступаўшых перад бальшавікамі, немцаў, часьць распарушылася па краю, а часьць ўступіла ў рады чырвонай арміі.

І. В.

# Побыт Іероніма Пражскага ў Беларусі.

Зносіны між Беларусьсю і Чэхіей сягаюць часаў калі чэская эміграцыя кіравалася ў Беларускія землі ад прасьледаваньняў славянскага абраду ў сваім краю. У свой час, ў расійскай літэратуры, была высказана дагадка, што слаўны Мэркуры Смаленскі быў родам чэх. *) У XIV сталецьці ў ліку вайсковых частак быўшых на службе ў войску В. К. Літ. знаходзім чэхаў. Знаходзім чэхаў і ў ліку духавенства, аб чым сьведчыць апостал перапісаны ў 1398 гаду, для полацкага біскупа Феадосія, „многагрэшным Янам, родам Чэх“ (пераховываўся ў полацкай адзінаверчаскай цэркві). Імёны чэскіх эмігрантаў сустрачаюцца такжа ў царкоўных і манастырскіх памянніках (памяннік Дзісенскага Васкрэсенскага манастыра ўпамінае двох чэхаў—Марціна і Мікалая іконапісца).

Пропаведзь Гуса і Іероніма пражскага мела адгалосак і ў Беларусі, так што ўрэшце, ў 1413 гаду Іеронім адведвае Полацак і Вітабск, дзе праўдападобна жыў яшчэ яго „многагрэшны“ пабратым Ян Чэх, і, магчыма, аднадумец ў справах веры. Іеронім і яго вучыцель Гус лічылі патрэбным завязаць безпасярэдныя стасункі з беларускімі землямі. Аб падарожы Іероніма ў Беларусь знаходзім зьменку ў вінуючых пунктах, пададзеных інквізытарам Канстанцкаму сабору пры працэссе Іероніма. Іероніма вінілі ў тым, што ён, прыбыўшы, ў 1413 гаду, ў сьвіце Вітаўта у Вітабск, дзе жыхары „ў большай часьці русіны або сызматыкі“, пагардзіўшы каталіцкую працэсыю, якая вышла на сустрач князю, пайшоў да сызматыцкай працэсыі і, ўхіліўшы калені, стаў пакланяцца іх абманным рэліквіям і абразам“. Пасьля бытцам Іеронім публічна вызнаваў, што вера русіноў „будзе і ёсьць дасканальная“. Бытцам ён стараўся нават самога Вітаўта адхіліць ад каталіцтва і накланіць „аставацца ў названай сэкце русінскай“. Ў часе нябытнасьці віленскага (каталіцкага) біскупа, Іеронім сказаў што: „русіны добрыя хрысьціяне“... У Полацку (памылкова Pleskow) Іеронім „увайшоў у царкву або сынагогу тых Русіноў і няверных (paganus) у часе адправы, дзеля пакланеньня абманным іх сакрамантам... і ўхіліўшы калені паў ніц перад мнімымі іх сакрамантамі“. Каб больш і больш падабацца вышэйназваным няверным народам і паказаць ім, што ён спагадае іх сэкце і абманнай веры і быць падобным ім у абычаях, такжа як у веры, Іеронім, па абычаю тых няверных, адпусьціў сабе і насіў доўгую бараду і валасы (Витеб. Стар. Т. І. № 10 і Т. V ч. І стр. XLIV—XLIV).

Гэтымі старымі зносінамі з чэхамі трэба тлумачыць і тое, што другой славянскай, пасьля чэскай, зьяўляецца біблія беларуская, якая, як вядома, пачынае навет друкавацце ў Празе (1517 год). Скарынаўскі-ж пераклад бібліі на беларускую мову папярэдзілі рукапісныя пераклады. А знача мысль аб перакладзе кніг, на народную мову, была паднята ў Беларусі пад ўплывам, змагаўшыхся за сваю народную мову, чэхаў, для каторых гэтае пытаньне было пякучым ў тыя часы.

---

*) Голубовскій (Исторія Смоленской земли до начала XV ст. Кіеў 1895 г.) называе Мэркурія, разьбіўшага войскі Батыя пад Смаленскам у 1242 гаду, немцам. Але калі прыняць пад увагу, што, як сьведчыць яго жыцьцеапісаньне, ён быў усходнага абраду і залічан у лік сьвятых усходнай цэркві, то становіцца праўдападобным, што Мэркуры быў выходцам са славянскіх зямель быўшых, ў той час, ўзалежнасьці ад нямецкага імпэратара. У дадатку, тых славянскіх зямель, дзе існавала славянская літургія, а знача, найпраўдападобней, Чэхіі.

Т. ЖУДРА.

# Царкоуна-парахіяльныя шпіталі у Магілеве ў XVI—XVIII ст.

Беларускае жыцьцё, дзеля апекі над беднымі і хворымі, выпрацавала ў даўныя часы асобныя установы, званыя „шпіталямі“ (ад лац. hospitale). Шпіталі большай часьцю паўставалі з прыватнай ініцыятывы дабрачынцаў і атрымлівалі некатарыя правы ад дзяржавы, якая давала ім больш або менш крэпкае палажэньне. Урад даваў прывілеі шпіталям на запісываныя на іх маетнасьці, асланяючы цэласьць гэтых апошніх. Гэты дабрачынныя установы былі ўключаны ў жыцьцё беларускіх праваслаўных парохій ад самага пачатку істнаваньня іх. Каля гэтых установ групавалі сваю дабрачынную дзейнасьць і стара-беларускія брацтвы.

У Магілеве*) шпіталі істнавалі таксама здаўна. Першыя дакумантальныя вядомасьці аб іх адносяцца да канца XVI ст. Праз усё XVII і большую палавіну XVIII ст. яны ня спынялі свайго істнаваньня і ўпамінаюцца ў дакумантах ў даволі значным ліку. Пералічаны магілеўскія шпіталі у тэстаманце, магілеўскага мешчаніна і сябры мясцовага Богаяўленскага брацтва, Гутаровіча, з 1702 г. У гэтым тэстаманце упамінаюцца шпіталі: брацкі, спаскі, два пакроўскіх пад Алейнай брамай, мікольскі, два вашкоўскіх, троіцкі, ільлінскі, прачысьценскі, глеба-барысаўскі, бліжна-васкрэсенскі, дальшы-васкрэсенскі (брацкі) і дальшы-васкрэсенскі (мураваны). З гэтага пералічэньня **) відаць, што шпіталі былі блізка пры ўсіх магаліеўскіх царквох***) У тэстаманце ня ўпамінаецца толькі аб шпіталю Петра-Паўлаўскай царквы, ды два шпіталі вашкоўскіх, мабыць, былі пабудаваны прыватнымі дабрачынцамі і ня лічыліся царкоўнымі.

Калі царыца Кацярына II, у 1780 г., была ў Магілеве, то знашла тут болей сарака дабрачынных установаў; ў іх ліку былі шпіталі. Істнаваўшыя да апошніх часаў у Магілеве, каля Усьпенскай, Васкрэсенскай, Мікольскай, Крыжаўзьвіжанскай, шпіталі, трэба лічыць астаткамі старых шпіталёў.

Утрыманьне шпіталяў наагул ляжала на іх установуцах г. зн. большасьцю на парахіянах. Шчодрыя даткі на іх ішлі і ад прыватных дабрачынцаў. Істнаваўшыя у Магілеве брацтвы у круг сваей чыннасьці ўключалі апеку над шпіталямі. Гэтак, істнаваўшае у канцы XVI ст. „кушнерскае“ брацтва у сваім доме павінна было мець сходкі дзеля абмяркаваньня „спраў шпітальных“. Даход ад прадажы мёду, ў часе брацькіх сьвятаў, павінен быў пастунаць, між іншым, на „міласэрныя учынкі да шпіталя і на ялмужну (даткі) убогім

*) Магілеў ў пачатку XIV ст. уходзіў у межы вітабскага княства; пасьля, разам з вітабскім княствам перайшоў ў дом Альгерда. Па сьмерці В. Кн. Літ. Александра (1506) Магілеўскае староства (ваяводзтва Мсціслаўскага) уходзіла ў склад „дажывоцьця“ яго жаны В. Кн. Алены, дачкі Івана III. **У 1526 гаду Магілеу пачау называцца горадам**. У 1578 г. ўлада старасты Магілеўскага абмежана толькі горадам і валасьцямі; горад атрымаў магдэбурскае права. У 1597 г. установлена праваслаўнае брацтва са школай пры Спаскім манастыры, а ў 1602 г. пры Богаяўленскім. Гэтае апошняе называнае „крыжаносным брацтвам“ у 1633 г., граматай Константынопальскага патрыярха Кірыла, паднесена ў ступеню патрыяршага або стаўропігіяльнага і зраўняна ў правах са старэйшымі брацтвамі Львоўскім і Віленскім. (Витеб. Старина Т. V ч. I стр. 62-63).

**) Созоновъ: Историко-юридич. мат. т. XI стр. 202.

***) Акром гэтага былі яшчэ шпіталі пры каталіцкіх касьцёлах.

людзем"*). Другое магілеўскае брацтва—Спаскае, паводле свайго статуту 1597 г., пастанавіла даваць даткі па шпіталях два разы ў год—на Каляды і на Вялікдзень. **)

У шпіталях, прынамні лепей матэрьяльна абасьпечаных, патрэбнае да жыцьця (ежа, адзежа і інш.) давалася убогім натурай. Гэтак у 1702 г. бурмістр і магілеўскі братчык Гутаровіч адказаў брацкаму шпіталю 1500 залатых і ўсім іншым шпіталям ў Магілеве каля 5000 зал. з тым, каб „квота" г. зн. працэнты з гэтага капіталу, ішла на куплю кажухоў і палатна на кашулі ўбогім; апрыч таго назначыў 2000 залатых на труны для ўбогіх. Акром утрыманьня натурай шпітальнікі атрымлівалі і грошы. Гэтак, Спаскае брацтва устанавіла даваць „ялмужну" па шпіталях два разы ў год. Прыватныя дабрачынцы также адлічалі нямалую суму на раздачу з рук, асобам, якія жывуць у шпіталях і тым што просяць датку на вуліцах. Гэтак, Гутаровіч пакінуў 4000 залатых на раздаваньне убогім пасьля познай мшы ў нядзельныя і сьвяточныя дні і ў часе вялікіх працэсый. Ігумен брацкі, канца XVII ст. Сыльвэстр Валчанскі даручаў у тэстаманце, каб яго спадкаемец „па шпіталях магілеўскіх, на убожства і на людзей убогіх мізэрных, па вуліцах ходзячых, раздаў 100 залатых" ***).

Што датыча парадку жыцьця ўбогіх у магілеўскіх шпіталях ведаем мы мала. У 1621 гаду магілеўскі магістрат зьвярнуў увагу на некаторыя ненармальныя зьявы ў шпітальным жыцьці і выдаў пастанову аб „наглядзе за ўбогімі, якія жывуць у шпіталях, і аб парадку паступленьня ў гэты шпіталі." Ненармальнасьці гэты выяўляліся вось у чым. У шпіталі паступалі асобы, ў якіх жабрацтва служыла спосабам лёгка, бяз працы дабываць хлеб. Шпітальныя убогія, напрыклад, высылалі сваіх дзяцей на вуліцу, як нібы-то сірот, на жэбры і сабраны хлеб перапякалі і прадавалі на рынках. Часам прыйманыя ў шпіталі, без усякага кантролю, убогія прынасілі ў горад заразьлівыя хваробы. Дзеля гэтага магістрат устанавіў урад асобных дазорцаў над убогімі, паступаючымі ў шпіталі. З паміж саміх убогіх павінны былі быць выбіраны асобныя „калецкіе старасты", лікам чатыры, а над імі назначаўся яшчэ дазорца з прысяжных магістрацкіх слуг. Стараста павінен быў мець нагляд за паступаючымі ў шпіталь. Аб кождым убогім, прышоўшым першы раз у горад, ён дае ведама магістрату. Магістрат аглядае новапрыбыўшага і ад яго залежыць прыняць агледжанага ў шпіталь ці адмовіць яму. Гэтак, калі магістрат знойдзе, што ўбогі заражан якой небудзь „прыліпчывай" хваробай, то гэткі ня можа быць дапушчан у шпіталь. Калі-ж німа перашкод да прыёму, то ўбогі запісываецца „калецкім старастам, у рэестр іх калецкі" і карыстаецца ўсімі правамі шпітальных жыхароў. „Дазорца" назначаны ад магістрату, абавязан ведаць аб усіх крыніцах і засабах утрыманьня убогіх і дабываных імі датках і аб усім паведамляць магістрат.

---

*) Акты Южн. и Запад. Россіи т. I № 188.
**) Акты Западной Россіи т. IV № 119.
***) Созоновъ: Истор. Юридич. мат. т. X, тэстамант Волчанскага.

# Запіскі.

**Леў Сапега аб перакладзе Статуту В. Кн. Літоўскага на польскую мову.** Калі, пасьля на друкаваньня Статуту В. Кн. Літоўскага (1588 г.), было паднята пытаньне аб перакладзе яго на польскую мову, то канцлер В. Кн. Літоўскага, Леў Сапега, высказываўся проціў таго, аргумэнтуючы, што польская мова ня мае ні належна разьвітых форм, ні тэрміналёгіі. Па доўгіх дыскусыях і няўдатных спробах стварыць юрыдычную польскую тэрміналёгію, пастаноўлена было ўзяць жыўцом ў польскі пераклад усю тэрміналёгію з беларускай мовы. Выдаючы гэты макаронічны польскі пераклад Статуту друкам, Леў Сапега лічыў яго незразумелым для палякаў і ня верыў што ім наагул можна будзе карыстацца і, дзеля гэтага, пісаў у прадмове да польскага выданьня: „Калі пераклад гэты, каму небудзь не падабаецца, то астанецца яму шукаць ратунку у старой русчызне“ (Гл. Вѣстник Европы 1811 г. № 22). Словам рэкамандаваў, для пэўнасьці мець пад рукой арыгінал друкаваны па беларуску.

І. Л.

**Беларусы і першыя маскоускія славянафілы**. У XXI т. „Ludu“ (Львоў 1922 г.) падаў грам. В. Брухальскі цікавыя „Materjały i notatki etnologiczne. Z pamiętnika M. Marksa, Witebszczanina“. У гэтым памятніку, напісаным у чэрвені 1885г,. стрэчаем ўспаміны аўтора аб жыцьці ў Маскве 1835 г.

Партыя славянафілаў, на чале з Пагодзіным, толькі што пачала ўзбраяцца супроць Захаду. Сам Пагодзін пабраўшыся з ангелькай, яшчэ лічыўся „лёрдам“, толькі пазьней стаў ён апранацца ў стылю баяраў XVI ст. і перайшоў да старасьвецкіх страваў з кулебякамі і пітным мёдам.

Славянафілы былі тады яшчэ ня чысьленны. Між імі вызначаліся сваімі талентамі і добраноднасьцю браты Кірэўскіе. Аўтор пазнаёміўся з імі. Вучыцель расійскае пісьменнасьці Чыстяков прыслаў, пад тую пару Кірэеўскім з Вітабска, некалькі беларускіх песьняў, ў іх ліку: „А й ўжо сонца зашло“. Пісаў Чыстяков, зразумела, гражданкай. Абодвы Кірэеўскія былі захоплены зьместам і музыкальнасьцю песьняў, чыталі іх часта, але вельмі зьдзівіліся, калі М. Маркс зрабіў ім увагу, што чытаюць яны не пабеларуску і робяць націскі памаскальску. Слухалі яго уважліва. Маркс паясьніў братом, як трэба вымаўляць „ў“, даваў прыклад з лаціны „аў“ і „эў“, але Кірэеўскія ўсе ніяк не маглі зразумець асобнасьці гэтага беларускага гуку. У іх выходзіла „ав“ і „ев“. Макс раіў ужываць да напісаньня беларускіх слоў польскую абэцаду з далучэньнем да яе „V“ (ў), каторае на рымскіх помніках і ў старых рукапісах заўсёды ужывалася замест „у“. Кірыеўскія баранілі гражданку, яна здавалася ім выгаднейшай. Больш чым тыдзень спрачаліся аб пісоўні для Беларускай мовы. Сябра Маркса, Кастантын Кассовіч, пазьней прафэсар зэнду і санскрыту ў Пецярбурзе, зьвярнуў увагу на тое, што ў глаголіцы ёсьць два „у“ — доўгае і кароткае і запрапанаваў прытасаваць кароткае „ў“ з глаголіцы да гражданкі. Гэтая прапанова выклікала гарачую спрэчку аб тым, якая абэцада старэйшая: глаголіца ці кірыліца і, ўрэшце рэшт, справа закончылася нічым.

А. Р.

**Аб залатой бабе.** Упамінаная ў быліне „Лесаўчыкі“ „залатая баба“ ў XV сталецьці была тэмай размоў па ўсей Эўропе і давала шмат корму тагочаснай фантазыі. З гісторыкаў упамінаюць аб „залатой бабе“ Гэрбэрштэйн, Гвагнін, Боксгорн, Якінсон і інш. „Бабу“ памешчалі ў Пэрміі (Barmia) на берагох Паўночнай Дзьвіны. Гэта мела быць фігура кабеты, ў натуральны чалавечы рост, з двумя дзяцьмі з якіх адно было на руках у „бабы“, другое стаяла пры ёй; ўсе тры фігуры мелі-быць вылітымі з чыстага золата. Мяйсцовай мовай называлі яе „jumala voiscel-baba“, што мела значыць „бог, залатая баба“, адгэтуль пайшло, ў перакладзе, названьне „залотная“, або—„залатая баба“. Зацікаўленьне гэтым залатым стодам было на гэтулькі вялікае, што на картах XVI ст. адмечалі мейсца яе знаходжаньня, але ўжо не на берагох Паўн. Дзьвіны, а пры усьцю р. Обі. Занесеная Твардоўскім у яго поэмат быліна апіралася на ўсеагульнай тагочаснай апініі, што Лесаўчыкі запраўды дайшлі да сутокаў Обі і забралі „залатую бабу“. Прычынай гэтых гутарак было запраўднае вялікае багацьце золатам вярнуўшыхся, з паходу на ўсход, Лесаўчыкоў.

Л. А.

**Прыкрыя памылкі.** У кніжцы „Weissruthenien. Herausgegeben von Walter Jäger. Berlin, Verlag Karl Curtiu , 1919“, аднэй з найлепшых кніжак аб Беларусі ў нямецкой мове, ёсьць дзьве, вельмі прыкрыя, памылкі.

На 24 стр. маем фотаграфію „Селянская сямья з Смаленшчыны“ (на мяжы паміж Беларусьсю і Маскоўшчынай)“, кідаецца ў вочы штосьці маскальскае, пачынаючы ад доўгай барады аж да ботаў „гармонікай“. Разгадку гэтага знойдзем у кніжцы В. П. Семенова „Россія. Том IX. Верхнее Поднѣпровье і Бѣлоруссія“, дзе, на 205 стр., пад тэй самай фатаграфіей чытаем: „Стараверы Дзьвінскага (Дынабурскага) павету“.

На 25 стр. пададзена фатаграфія „Пінскі селянін (Пінчук)“. Гэтага „пінчука“ давялося мне ўбачыць у зборніку „Матеріалы по этнографіи Россіи под редакціей Ф. К. Волкова. Т. І. С. П. Б., этнографическій отдѣл Русскаго Музея Имп. Александра III, 1910“, дзе Н. Могілянскій ў сваім артыкуле „Падарожа ў цэнтральную Маскоўшчыну, дзеля збораў этнографічных калекцыяў“ дае фатаграфію, № 21, селяніна в. „Логаревка, Севского уѣзда, Орловской губ.“, які ў „Weissruthenien“ іграе ролю пінчука. Пэўна, што з апісаньня вопраткі селян гэтага кутка Арлоўшчыны можна заўважыць шмат у чым сходнасьці з беларускай вопраткай, але аблічча „пінчука“ выразна не беларускае, мусі ёсьць у ім нямала фінскай ці татарскай крыві.

Клішэ абедзьвех фотаграфій, здаецца, мае Т-ва „Вызваленьне“ ў Бэрліне і, в. быць можа, прыкрыя памылкі будуць ізноў паўтораны ў беларускіх выданьнях.

Руж—ец.

**Беларусы у Усх. Прусыі.** Д-р філалогіі Вогрыцкі (Vogricki) ў сваіх працах заўважае, што ў паветах Марграбова, Лык, Бяла і Іоганісбэрг ёсьць славянскае жыхарства, якое ў мове мае русінскія элемэнты (ruthenischen elementen) і няможа быць аднесена да мазурскага племя. Паміж гэтага жыхарства ёсьць традыцыя, што часьць іх перасялілася ў Прусыю ў часе прасьледаваньня уніятаў ў Расіі, пры цару Мікалаю І. У Іоганісбэрскім павеце яны маюць сваю асобную царкву ўсходняга абраду (orientalische ritus). Характэрна, што прускія палякі аб гэтым жыхарстве кажуць, бытцам яны гавораць: „zepsutą polszczyzną“. Для абсьледаваньня, этнографічна-філо-

логічнага вышэйпамянёных чатырох паветаў Усх. Прусыі, Рэдакцыя „Крывіч“, гэтага лета, калі пазволіць матэрьяльная старана, вышле спэцыяльную экспэдыцыю, бо ёсьць асначаньне думаць, што гэны жыхары Усх. Прусыі, якія па веры належаць да усходнага абраду, а па мове, паводле сьведчаньня д-ра Вогрыцкага „ня могуць быць залічаны да мазурскага племя“, зьяўляюцца беларусамі, часьцыю старавечнымі мясцовымі жыхарамі, часьцю перасяліўшыміся ў XIX ст.

С. Т.

**Жан-Жак Руссо і Белавежская пушча.** Ж. Ж. Руссо па просьбе польскага магната Веліогорскага, каля 1770 году, напісаў праект дзяржаўнага устройства для рэчыпаспалітай польскай ў склад якой, як фэдэральныя часьці ўходзілі беларускія і літоўскія землі.

З гэтай мэтай Руссо азнаёміўся з гісторыяй рэчыпаспалітай і стараўся дасьледаваць яе абычаі і права; у часе гэтай працы ён вырабіў сабе добрае паняцьце аб паляках і высказаўся, што хутчэй згодзіўбыся жыць ў рэчыпаспалітай нячым у Парыжы. Антон Тызэнгауз, падскарбі В. Кн. Літоўскага, пачуўшы аб гэтым жаданьні, здумаў, у часе бытнасьці сваей у Парыжы, у 1778 гаду, угаварыць Жэнэўскага філёсафа пераехаць у горадзеншчыну. Ведаючы аб яго нянавісьці да публічнага жыцьця і любоў да адзінотнага жыцьця, падскарбі прапанаваў да будучага прабываньня філёсафа—Белавежскую пушчу, як самае бязлюднае месца ў Эўропе. Тызэнгаўз абязвязываўся пабудаваць у пушчы дом, паводле пляну, які ўложыць Руссо. Даваў яму ўсе выгоды штодзеннага жыцьця: службу, павозку, для праездаў,—ўсё без ніякіх забавязаньняў са стараны філёсафа. Спачатку прапанова гэта падабалася парыжскаму пустэльніку; здавалася, што ён ахвотна ўжо гатоў быў прыняць яе, як раптам адно нечаканае здарэньне разбурыла ўсе пляны і старэньні Тызэнгаўза.

У Парыжы зьявіўся нейкі паляк, Вязьневіч, які, пастанавіўшы скарыстацца дзівацтвамі Руссо, пазнаёміўся з ім, і выклікаўшы у яго спагадлівасьць да сябе выдуманым няшчасьцем, пасьля, ашукаў яго ў самы нахрапны спосаб.

Руссо, знэрваваўшыся тым, што ашукаў яго паляк, зазлаваў разам з тым і на ўсіх, хто быў з граніц рэчыпасполітай ды саўсім закінуў мысьль аб перасяленьні ў Белавежскую пушчу. Гэтым і закончыліся адносіны Руссо да Тызэнгаўза і горадзеншчыны (Balinski, Starożytna Polska III, 780. Аксаковскій—„День“ 1864 г. № 44. Историческій Вѣстник 1883 г. VI, 606).

З ўсяго гэтага трэба зрабіць вывад, што ўсё-ж такі Руссо ня знаў гісторыі рэчыпасполітай, калі гродзеншчыну мяшаў з Польшай.

О. У.

**Беларусы і Ірляндцы.** Выходзячая ў Вільні беларуская часопісь „Наш Сьцяг“ у № 5 ад 20. VI. гг. памяшчае цікавы ўспамін аб адносінах паміж беларусамі і Ірляндцамі:

„Першае спатканьне беларусаў з Ірляндцамі адбылося ў самым пачатку беларускага руху да вызваленьня Бацькаўшчыны—восемнаццаць гадоў таму назад. Было гэта вось як.

У 1905 годзе ў Фінляндыі адбываўся зьезд прадстаўнікоў рэвалюцыйных партыяў усіх нацыянальнасьцёў Расійскага гаспадарства. На зьездзе гэтым дэлегатам Беларускае Рэволюцыйнае Грамады (з якое пасьля сфармавалася Беларуская Сацыялістычная Грамада) быў павадыр беларускага адраджэнскага руху, с. п. Іван Луцкевіч. Быў тутака і прадстаўнік ірляндзкіх рэвалюцыянераў. Апошні вельмі зацікавіўся беларус-

кім рухам, прасіў беларускага дэлегата завесьці сваім таварышам шчырае прывітаньне ад арганізацыі сінн-фэйнэраў і аддаць зялёны трылістнік—(ірляндзкі нацыянальны значок). Праз нейкі час ірляндзкія сінн-фэйнэры прыслалі Беларускай Рэвалюцыйнай Грамадзе нявялікую суму грошы на выдавецтва, як доказ шчырага спогаду ірляндзкага народу беларусам.

На гэтым зацікаўленасьць ірляндцаў беларускай справай ня спынілася. Праўда, беспасярэдніх зносін ня было, але ўжо ў пачатку ўсясьветнае вайны—ў 1914 годзе—ірляндзкія газэты закранулі беларускае пытаньне ў сувязі з сьветавымі падзеямі. Стацьці аб беларусах былі пранікнуты шчырай сымпатыяй да нашых нацыянальных імкненьняў.

**Дзеячы вялікай францускай рэволюцыі аб нацыянальным пытаньні**. У 1795 г. на адным з апошніх засяданьняў канвэнту, абат Грэгуар прачытаў зложаную ім дэклярацыю міжнароднага права, ў якой сказана што „народы незалежны і сувэрэнны, які-бы ня быў лік індывідумаў складаючых іх, а також абшар тэрыторыі займаны імі: гэта сувэрэннасьць недатычна. Кожды народ мае права арганізаваць і зьмяняць формы свайго ураду. Народ ня мае права ўмешывацца ў упраўленьне другіх народаў. Прэдпрыемствы сьціраваныя супроць свабоды якога народу, ёсьць праступак супроць ўсіх другіх народаў“. Гл. Andree Cochut: „Des nationalites a propos de la guerre de 1769“, ў „Revue des deux mondes“ з 1-га жніўня 1866 г. стр. 694).

Падобны-ж погляд на істоту міжнародных стасункаў высказаны ў славах Робэспьера, сказаных ім на паседжаньні канвэнту. Слаўны трыбун сказаў, што: „прыгнятаючый адну нацыю, зьяўляецца ворагам ўсіх нацый“.— „Ваюючыя з народам каб спыніць развіцьцё свабоды і зьнішчыць правы чалавека, павінны быць прасьледаваны ўсімі, і, прыгэтым, не як звычайныя ворагі, а як убіўцы і збунтаваныя разбойнікі“. (Даневскій: „Системы политического равновѣсія и легитимизма и начало національности“. СПБ. 1882, стр. 262). С. К.

**Археолегічныя знаходкі на Беларусі у часе усясьветнае вайны.** З апошняга, атрыманага ў Коўне (Унівэрсытэцкая бібліатэка) 65-го сшытку „Извѣстій Археологической Комиссіи“ 1918 г., даведываемося аб археолёгічных знаходках на Беларусі ў часе ўсесьветнай вайны.

Вітабшчына. 1916 г. 1) Знойдзен скарб з 5000 швэдзкіх, польскіх і пpускіх сярэбраных манэт, рознай вартасьці, першай і другой паловы XVII ст. у в. Кастрава. Дрысенск. пав. 2) 104 экз. маскоўскіх сярэбраных рублёў, часаў Кацярыны II знойдзены у в. Данаты, Лепэльскага пав.

Магілеўшчына: 1) Скарб медзяных манэт расійскіх XVIII ст. знайшлі ў зямлі, ў вёсцы Жаліжжа, Чэрыкаўскага павету. 2) 4 гішпанскіх талеры XVIII ст. і адзін ефімак; знайшлі пры карчаваньні пнёў ў урочышчы Лахманаўцы, двара Стараград, Рогачоўскага павету.

Чарнігаўшчына. 1915 г. 1) 425 медзяных маскоўскіх пятакоў знойдзены пры капаньні ямы у в. Андрэйкавічы, старадубскага пав. 2) Скарб зложны з 319 літоўскіх і маскоўскіх срэбных манэт XVI ст. (сярод іх 61 экз. паўгрошаў Аляксандра, Жыгімонта Старога і Жыгімонта-Аўгуста, знайшлі у в. Баўсуны, Суражскага павету.

Смаленшчына. 1914. 1) Скарб, вагой 1 ф. 34 зал., маскоўскіх сярэбраных капеяк часаў Івана VI, Хведера Іванавіча і Барыса Гадунова выкапалі на гародзе у в. Пратасава, Бельскага пав. 1916 г. 2) Скарб

—4827 маскаўскіх сярэбраных капеяк (вагой 6 ф.), часоў Івана III — Пятра I, знойдзен у Смаленску на Іллінскім руччы. 3) Скарб 1906 маскоўскіх сярэбраных капеяк 1533—1645 г.—у лесе, блізка сяла Дрэсны, Смаленскага павету. 4) Два камянных ножыкі і разьбітую камянную сякеру з чорнага крэмяня—ў Вяземскім павеце.

А. Р.

**Манэта з выбражэньнем цэнтаура.** Ніжэйпададзенае выбражэньне цэнтаўра ўзята з сярэбранай манэты,



велічыні даўнейшых 10 капеяк расійскіх (сярэбраных), знойдзенай у 1900 гаду ў р. Віцьбе ў Вітабску, археолёгам Федоровічам. Рысунак на другой старане манэты саўсім зацёрты. Мяркуючы па тэхніцы манэта належыць да в. старых часаў.

І. В.



Грамата смаленскага князя Александра Глебавіча, пісаная каля 1330 г.

(+1277 г. гл. Никон. Лет III, пад 6786 і ў Карамзіна Т. IV, увага 171).

**Зьмест граматы:** Поклон откнязя смоленьского отолександра. глѣбовіча. к ратманом к рижским. и ко всемъ. горожаном. како есте были въ люби съ отцемъ моим глебомь. и с моимь стрыемь. федором. тако будете и со мнои въ любви. а яз таѣже любви хочю с вами. гость ко мнѣ пущайте а путь им чист. а мои мужи к вамь ѣдуть а путь им чиста.

**Камянныя крыжы каля Дзісны.** Каля самага гор. Дзісны, Віл. губ.. за Дзісенкай, маецца даволі абшырнае пясчанішча, дзе быў калісь старасьвецкі магільнік. Ад магільніку цяпер асталіся толькі масыўныя чорныя камянныя чатыроханечныя крыжы, вельмі характэрнага рысунку. Камяні, ўжытыя на крыжы, маюць ў сабе вельмі многа жалеза, так што пясок пад імі афарбовываецца ў чырвона-буры колер. Падобнага камяня ў ваколіцах нідзе няма. На некаторых крыжах маюцца сьляды падпісаў, аддзельныя літары якіх напамінаюць стара-славянскія літары, але ізноў такі саўсім характэрнага рысунку. У 1914 годзе іх было яшчэ 16 штук; даўней было шмат болей, але мясцовыя камянаклёвы забіраюць гэты крыжы і перабляюць на новачасныя намагільныя помнікі, так што іх з кождым годам убывае на магілішчы.

Е. Ч.

**Жаноцкія назоўныя іменьні, што адпавядаюць мужчынскім з канчаткам на—ель (el-jo) і —цель (tel-jo).** Жаноцкія іменьні гэтага тыпу творацца даданьнем да мужчынскіх жаноцкага канчатку—*ка*. Пры гэтым у беларускай мове гэтыя жаноцкія іменьні маюць *л* цьвярдое а ня мяккае.

Прыклады:

прыяцель—прыяцелка
непрыяцель—непрыяцелка 336*)
вучыцель—вучыцелка
пацяшыцель—пацяшыцелка 488
празвадзіцель — празвадзіцелка 522 (той, хто зводзіць або падвучаньнем, няпраўдаю „празводзіць“ да звады)
скусіцель—скусіцелка 589
спакусіцель—спакусіцелка 606
труіцель — труіцелка 641 (правільней труціцель—труціцелка) а значыцца будзе і спасіцелка, збавіцелка.

Тое самае бачым і ў круцель—круцёлка 255.

Гэтая асаблівасьць ужываецца не на ўсім прасторы, займаным беларускай моваю. Я чуў, як гэтак кажуць у Вялейкім павеце (пачынаючы з Лебядзеўскае воласьці), у Дзісьненскім п. і Сяньскім у Магілеўшчыне). Прыймаючы пад увагу гэта а так сама й тое, што толькі з цьвярдым *л* запісаны гэткія словы ў слоўніку Насовіча, я перакананы, што гэтая асаблівасьць беларускае мовы пашырана ў тым беларускім нарэччы, якое праф. Аўгень Карскі на сваёй дыалектолёгічнай карце Беларусі абазначыў чырвонай фарбаю.

Дзеля таго, што гэтае нарэчча найвялікшае, цэнтральнае і найхарактыстычнейшае для беларускае мовы, а значыцца й гэтая яго асаблівасьць павінна ўжывацца ў нашай літэратурнай мове.

Я. Станкевіч,
студэнт філёлёгіі.

*) Лічбы паказуюць старонкі ў слоўніку Насовіча, адкуль усе гэтыя прыклады ўзяты. Словы вучыцелка і прыяцелка ў Лебедзеўскай вол. Вялейскага пав.

# Агляд культурнага жыцьця Беларусі.

## Культурна-асьветная праца у Вітабшчыне.

У самым Вітабску сарганізавалася культурна-асьветнае беларускае таварыства. Есьць беларускае этнаграфічнае т-ва, якое выдае часопіс „Беларускі Этнограф“. Арганізаваўся драматычны беларускі ґурток, які з вялікім посьпехам выступае ў рабочых районах.

Адным словам, праца па пашы-

рэньню і замацаваньню беларускай культуры на Вітабшчыне распачынаецца сама сабою, з нізоў. Чуецца вялікая патрэба ў кіраўнічым цэнтральным органе, які яб'яднаў бы раскінутых па губэрні працаўнікоў і паасобныя гурткі і распачаў бы сур'ёзную культурную працу сярод беларускага жыхарства губэрні на беларускай мове. Тымчасам, не зважаючы на дзьве паездкі інструктара БелЦБ у 1922 г., ня гледзячы на паездку гр. Пічугіна, інструктара Наркамату Асьветы ў студзені 1923 г., ня гледзячы на спэцыяльныя лісты і цыркуляры, Наркамату Асьветы. Беларускай сэкцыі пры Губэрскім Аддзеле Народнай Асьветы няма.

Гэта тлумачыцца тым, што Губано Вітабшчыны і Губіспалком трымаецца погляду, што спэцыяльнай беларускай сэкцыі адчыняць ня трэба, бо ўвесь дзяржаўны расійскі апарат абслугоўвуе культурна-бытавыя патрэбы краю, разумецца ў духу русыфікацыі жыхарства і нівэляцыі мясцовага „сэпаратызму“.

Прымаючы пад увагу тое, што на Вітабшчыне культурных работнікаў беларусаў мала, такі погляд прыводзіць у канцы канцоў да таго што беларуская культурная праца вядзецца стыхійна, неарганізована, без належнага кіраўніцтва і прыймае шавіністычны і хваравіты ухіл.

## У Бел. Дзярж. Ін-це Сел. Гаспадаркі.

Прыехаў выдатны прафэсар, доктар зоолёгіі Сініцын, былўшы рэктар Ніжагародскага Унівэрсітэту. З восені ён пачне чытаць у Інстытуце лекцыі па зоолёгіі.

## Камісыя беларусазнаўства.

На апошнім сваім пасяджэньні Слуцкая камісыя беларусазнаўства назначыла некалькі чарговых докладчыкаў на маючых адбыцца сходах культурнікаў у Слуцку на тэмы: „Аповесьць і раман у беларускай літэратуры“. „Беларусізацыя ш... новая школа“ і інш. Камісыя адчы... ніла курсы беларусазнаўства для да... школьнікаў першага і другога дз... цячых беларускіх дамоў, распраца... вала плян экскурсій школьнікаў.

## Перагляд праграмы па беларуска... мове й літэратуры ў Сав. Белару...

26 і 27 мая г. г. адбыўся схо... мясцовых беларускіх настаўнікаў... мэтаю пераглядзець старую і вы... працаваць новую праграму па бела... рускай мове й літэратуры для шко... сямёхгодак Савецкай Беларусі.

Перш за ўсё сходам былі засл... ханы справаздачы настаўнікаў а... выніках, якія даў 1922—23 навук... вы год у навучаньні беларускай м... вы й літэратуры ў кождай школе.

Агульны характар справаздач т... кі, што ў 1922—23 школьным г... дзе ў сямёхгодках м. Менску выкла... даньне беларускай мовы й літэрат... ры ня было пастаўлена добра, пр... чына чаго ляжыць у недастачы па... ручнікаў, адсутнасьці друкаваны... твораў шмат якіх пісьменьнікаў... пэўнай цьвёрдай праграмы, а гэта... сама і дзякуючы розным аб'екты... ным умовам.

Пераходзячы да разгляду сам... праграмы, сход папершае выказаў... за тое, каб праграму, асабліва п... мове, пашырыць і курс разьлічы... не на чатыры гады, а на пяць.

Што-ж датычыць праграмы п... літэратуры, то такую трэба знач... перамяніць для кождай клясы.

Зрабіўшы свае ўвагі ў стасун... выпрацоўкі новае праграмы як п... мове, так і па літэратуры, сход вы... браў камісыю з пяцёх асоб, якая ў... канчаткова апрацуе яе й перадась... на разгляд.

## Беларускі культурны рух на Г... мельшчыне

Яшчэ год-два таму назад у н... на Гомельшчыне вёска ня думала

нават ня чула нічога аб беларускім нацыянальным пытаньні. Зусім ня тое цяпер. Вёска пачула і падта зацікавілася гэтым „пытаньнем“.

Есьць імкненьне да ўсяго беларускага і асабліва да беларускае школы. За прыкладам хадзіць не далёка. У аднэй толькі Стаўбунскай воласьці, Гомельскага павету, 3 вёскі—Пералеўка, Хлусы і Гутна дабіваліся адчыненьня беларускай школы. Такія-ж чуткі ідуць з Магілеўскага, Рагачоўскага і Рэчыцкага паветаў. Такія настроі прыймаюць стыхійны характар і калі не выліваюцца у рэальныя формы, дык у гэтым віінны адсутнасьць кіраўніцтва з цэнтру, бюрократызм у належачых савецкіх органах, а падчас і варожыя адносіны таго ці іншага дзеяча. Так, напрыклад, з трох вёсах Стаўбунскай воласьці, дабіваўшыхся беларускай школы, удалося адчыніць толькі ў аднэй.

### Сэмінарыі па беларускай літэратуры у Бел. Дзяр. Унівэрсытэце.

1922-23 акадэмічны год для студэнтаў этнолёга-лінгвістычнага аддзяленьня даў шырокую магчымасьць заняцца навукова-крытычнымі досьледамі беларускай літэратуры, што яскрава выявілася ў сэмінарскіх працах пад кіраўніцтвам праф. Замоціна на другім курсе і праф. Пятуховіча на першым.

Перш за ўсё трэба падкрэсьліць, што сэмінарскія працы праз ўвесь год праходзілі вельмі бадзёра і жвава.

Беларуская літэратура мала яшчэ мае навуковых дасьледзінаў і ўяўляе сабою цэлыя стагі сырога матэр'ялу.

З гэтае прычыны, якую-б тэму з іх мы ня ўзялі, кождая з іх пахне сьвежаю цаліною, па якой не прайшоў бліскучы плуг крытычнага аналізу. Кождая з іх цікавая для беларускага студэнцтва.

Тыя рэфэраты, якія разглядаліся на сэмінарыях, вельмі рознакалёрны. Сярод іх мы знаходзім крытыку на вышаўшую нядаўна кнігу ахадэміка Е. Ф. Карскага „Белоруссы“, у якой ён разглядае беларускую навейшую літэратуру і беларускі рух.

Далей чыталіся рэфэраты, у якіх разглядаліся матывы лірыкі беларускіх песьняроў, якія зьяўляюцца прадстаўнікамі беларускай літэратуры другое паловы 19 і 20 сталецьця да нашых дзён, як сацыяльныя матывы лірыкі Багушэвіча, Янкі Купалы.

Прыродаапісальныя матывы лірыкі Алеся Гаруна.

Потым маем рэфэраты, напісаныя на тэму „Генэзіс новай беларускай літэратуры“ і г. д.

Але на сэмінарскіх працах разглядаюцца ня толькі матывы мастацкай літэратуры. На першым курсе шырока разьвярнулася сэм. праца па досьледах беларускага фольклёру.

Некаторымі студэнтамі зроблена клясыфікацыя і разгляд матываў беларускіх казак, легэндаў, аналіз і досьледы абрадовай і бытавой паэзіі і г. д.

### Будаунічы тэхнікум. (Слуцак).

Будаўнічы тэхнікум, які істнуе у м. Слуцку ўжо шосты год, распачаў вясновы будаўнічы практыканцкі сэзон. Студэнты пад кіраўніцтвам дырэктара тэхнікуму Яніслаўскага будуюць масты ў м. Слуцку. Ужо канчаюць другі. Дзеля таго, што тэхнікуму не дапамагаюць нічым ніякія ўстановы і ён матэрь'яльна заняпаў трохі, студэнты не карыстаюцца наёмнай працай, а самі робяць ўсё, нават самую чорную работу.

# Агляд прэсы.

**XII зьезд Р. К. П. і нацыянальнае пытаньне.** На апошнім зьездзе Р. К. П. (красавік 1923 г.), які адбыўся ў Маскве было ўрэшце паднята нацыянальнае пытаньне. Зьезд адкрыта прызнаўся да ўсіх злачынаў савецкай ўлады супроць не-маскоўскіх нацыянальнасьцяў і залічыў гэта да сваіх „памылак“.

Манаполь у справах нацыянальнага пытаньня ўзяў на сябе Сталін. Ен ў канцы даўжэзнай рэзалюцыі прызнаў што, маскальскі шовінізм у ўсіх нацыянальных рэспубліках вялікі і што трэба з ім змагацца.

„Гэта спадчына з пэрыоду нацыянальнага паняволеньня, якую нельга ў кароткім часе зьніштожыць адным махам. Гэта спадчына—пераджытак Вялікадзяржаўнага шовінізму, які адбіваў колішняе упрывільёванае становішча Вялікарусаў. Гэты пераджыткі пакутуюць яшчэ ў галовых нашых савецкіх працаўнікоў, як цэнтральных так і мясцовых, яны клубяцца у нашых дзяржаўных установах, маюць падтрыманьне у „новых“ зьменавехаўскіх маскальскіх одрухах, якія ўсё мацнеюць у зьвязку з нэпам. Практычна яны выяўляюцца ў лёгкаважлівых і бяздушна бюрократычных адносінах маскоўскіх савецкіх урадоўцаў да патрэб нацыянальных рэспублік.

„У нацыянальных рэспубліках (Украіна, Беларусь, Туркестан, Айзэберджан) мае сваё значэньне яшчэ і тое, што значная частка работніцкай клясы, якая зьяўляецца асновай савецкай ўлады, належыць да маскальскай нацыянальнасьці. У тых кругаколіцах адносіны паміж горадам і вёскай, работніцкім клясам і селянствам, сустрачаюць вялікія перапоны дзякуючы пераджыткам маскальскага шовінізму, і ў партыйных, і ў савецкіх органах. Паміж тых варункаў гутаркі аб выжшасьці маскальскай культуры панад культурамі адстаўшых народаў (украінскай, айзэбэрджанскай, кіргіскай і т. д) гэта ня што іншае, як спроба замацаваць панаваньне маскальскай нацыянальнасьці. Дзеля гэтага цьвёрдае змаганьне з пераджыткамі маскальскага шовінізму—першае чароднае заданьне нашай партыі.

„А нэй з выразных азнак старой спадчыны трэба лічыць факт, што на сувязь рэспублік значная частка савецкіх упрадоўцаў, у цэнтры і на мясцох, ўзіраецца не як на сувязь роўных адзінак, якая забасьпечае вольнае разьвіцьцё нацыянальным рэспублікам, а як на крок да ліквідацыі гэных рэспублік, як на пачатках тварэньня так званае „адзінае-непадзельнае“. Гэткім чынам некаторыя установы Р. С. Ф. С. Р. кіруюцца да таго, каб падпарадкаваць сабе самаістыя камісарьяты аўтаномных рэспублік і зліквідаваць іх. Ганючы гэткае разуменьне, як антыпролетарскае і рэакцыйнае, і апавешчаючы абсалютную канечнасьць істанаваньня і далейшага разьвіцьця нацыянальных рэспублік, зьезд заклікае сяброў партыі уважліва сачыць за тым, каб аб'еднаньне рэспублік і зьліцьцё камісарьятаў не выкарыстовывалі шовіністычна настроеньня савецкія ўрадоўцы на ігнараваньне гаспадарскіх і культурных патрэб нацыянальных рэспублік“.

Зьезд пастанавіў:

а) пры утвараньні цэнтральных органаў Сувязі павінна быць забаспечана роўнасьць правоў і абавязкаў паасобных рэспублік;

б) у выконуючых органах Сувязі павінны прыймаць удзел прадстаўнікі рэспублік;

в) нацыянальным рэспублікам

даць шырокія фінансавыя і часьцю бюджэтныя правы;

г) органы нацыянальных рэспублік і краінаў павінны складацца з мясцовых людзей, якія знаюць мову, абычаі і быт адносных народаў;

д) выдаць спэцыяльныя законы якія забаспечалі-б права карыстацца роднай мовай у ўсіх дзяржаўных органах і ўстановах і законы гэны павінны прасьледаваць і караць з усей рэволюцыйнай суровасьцю ўсіх тых, каторыя будуць нарушаць нацыянальныя правы, а галоўна,— правы нацыянальных меншасьцяў;

е) выхоўчая праца ў чырвонай арміі павінна быць замацавана ў духу прапаганды ідэі брацтва і салідарнасьці народаў Сувязі; трэба зрабіць практычныя крокі да ўтварэньня нацыянальных вайсковых частак з захаваньнем усіх магчымасьцяў да абаспечаньня поўнай абароннай здатнасьці рэспублік.

XII зьезд даручыў Ц. К. Р. К. П.

а) утварыць вышэйшыя марксістцкія гурткі з мясцовых партыйных працаўнікоў нацыянальных рэспублік;

б) пашырыць прынцыпіяльную марксістцкую літэратуру ў роднай мове;

в) змацаваць унівэрсытэт Народаў Усходу і яго аддзелы на мясцох;

г) утварыць пры Ц. К. нацыянальных компартый інструктарскія группы з мясцовых працаўнікоў;

д) пашырыць масовую партыйную літэратуру ў роднай мове;

е) змацаваць партыйна-выхоўчую працу ў рэспубліках;

ж) змоцніць працу сярод моладзі ў рэспубліках.

У даканчальным слове Сталін, між іншым зазначыў:

„Трэба памятаць, што, акром права народаў на самаазначаньне, ёсьць яшчэ права працоўнай клясы на замацаваньне сваей ўлады, і, ласьне, гэтаму апошняму праву падлягае права на самаазначаньне.

„Нова Украіна“ (ч. 7—8) дае гэтаму акту такую ацэну:

„Німа што казаць, аблягчэньні на паперы для нацыянальнасьцяў вялікія, але ці будуць яны праведзены ў жыцьцё? Мы пэўны, што найрупней будзе правадзіцца точка аб барацьбе з „мясцовым шовінізмам“ у нерасійскіх рэспубліках. Ў кождым здарэньні пераніцованыя чэка будуць мець апраўданьні сваіх новых ахвяраў: змаганьне з „мясцовым шовінізмам“...

## Што такое СССР?

Маскоўскі Урад разаслаў урадам усяго сьвету акт апавешчаньня Сувязі Соцыялістычных Савецкіх Рэспублік.

Акт складаецца з двох разьдзелаў. Першы разьдзел мае назову: „Дэкларацыя аб асновах СССР“. Гэта самая звычайная, даўно ўсім вядомая тырада камуністычнага красамоўства. У ей велягорна гаворыцца, як 1917 г., аб падзеле сьвету на капіталістычны і соцыялістычны, аб самаазначаньні народаў, аб буржуазыі і г. п.

Другі разьдзел дэкларацыі складаецца са ўступленьня і 11 артыкулаў.

У ўступленьні гаворыцца, што Расійская Савецкая Фэдэратыўная Рэспубліка (Р.С.Ф.С.Р.), Украінская Савецкая Соцыялістычная Рэспубліка (УССР), Беларуская Савецкая Соцыялістычная Рэспубліка (БССР), Закаўказская Савецкая Фэдэратыўная Соцыялістычная Рэспубліка (З. С.Ф.С.Р.), Айзэбарджан, Грузыя і Арменія складаюць „Сувязь Савецкіх Соцыялістычных Рэспублік“ (С. С.С.Р. або проста С.С.Р.).

У першым артыкуле гаворыцца аб правох органаў вярхоўнага кіраўніцтва і вымяновываюцца ўсе правы, азначаючыя сабой сувэрэнную ўладу.

Гэткім чынам, мяркуючы паводле гэтага артыкулу, ўсе сувязныя савецкія рэспублікі пазбаўлены сувэрэнных правоў.

Праўда, ў другім артыкуле істнуе 4-ты пункт., каторы дае права асобным рэспублікам вольнага выхаду са складу сувязі. Але гэта істоты справы не меняе, бо самая СССР па істоце ня ёсьць сувязь вольных дзяржаў.

У трэцьцім артыкуле гаворыцца аб вярхоўным прадстаўнічым органе ўсей сувязі—зьездзе саветаў.

Чацьверты артыкул пасьвячоны апісаньню ўзаемаадносін і правоў двох провізорных прадстаўнічых органаў, мянаваных верхняй і ніжняй палатамі.

Мова аб ВЦК—у (Bundesrat) і аб Савеце Нацыянальных прадстаўнікбў (Nacionalitätenrat). Абодвы гэты органы маюць права надзору і кантролю над выконываючай ўладай. У свой чарод яны складаюць адзін вярхоўны дарадчы орган пры цэнтральным урадзе сувязі (Vollzugsausschusz).

Пяты артыкул выкладае правы гэтага двомнага органу. У шостым перамяновываюцца ўсе (цяпер істнуючыя) органы цэнтральнай выконываючай ўлады.

Сёмы артыкул пасьвячан суду і восьмы правом выконываючых органаў (народных камісарыятаў); дзевятая—аб ГПУ (або быўшым чэка).

Менш за ўсё удзеляецца месца выкладу правоў паасобных сувязных рэспублік. Аб гэтых правох, даволі каротка (у шасьці пунктах) гаворыцца ў десятым артыкуле. У ім пераменаваны функцыі выконываючай ўлады, якія, выключаючы фінансы, няістотны.

Адзінаццаты артыкул зьмяшчае ў сабе апісаньне гэрбу і сьцягу СССР. Аб гэрбе між іншым сказана, што у ім павінна быць памешчана надпіс „пролетарыі ўсіх краёў злучайцеся“ напісаная ў 34 мовах. Сталіца сувязі і месцабытнасьці органаў вярхоўнай ўлады—Масква.

Пераходзячы да крытычных уваг, трэба адзначыць што гэты акт конституцыйны. Іначы кажучы гэта новая констытуцыя савецкай Расіі.

Разглядаючы яго паводле артыкулаў, можна ясна заўважыць жаданьне аўтораў гэтага акту абярнуць Расію у гаспадарства, пазбаўленае свайго нацыянальнага аблічча —і адначасна боязкасьць, што гэткага роду палітычнае арганізацыя Расіі можа яе саму разбурыць. Дзеля гэтага у акце ўвесь час відаць змаганьне мыслі інтэрнацыянальна-космопалітычнай з мысьлю гаспадарственна-нацыянальнай.

Гэтак у ўступленьні II аддзелу перамяновываецца цэлы рад рэспублік, уходзячых у склад СССР, але нідзе не гаворыцца аб дзяржаўнай мове сувязі і асобных яе складовых часьцей.

Гэта недамоўленасьць, праўда, ўскоўзь парушаецца ўпамінаньнем, што на гэрбе СССР павінна быць надпіс на 34 мовах. Калі успомніць што ў быўшай царскай Расіі істнавала 119 моваў і дыялектаў, то лік 34 становіцца нават незразумелым.

Са зьместу першага і другога артыкулу выразна відаць, што СССР ня ёсьць сувязь нават такой формы якой была нямецкая імпэрская сувязь (хоць аўторы акту, відочна, асабліва рабілі націск на гэту падобнасьць). У ей усе сувэрэнныя правы зьведзены да мінімума. Сьмела можна сказаць, што СССР ёсьць ня сувязь гаспадарстваў, рэспублік, а сувязь „савецкіх земстваў“. Менш

таго: гэта проста асобныя адміністратыўныя адзінкі, кіраваныя колектыўнымі органамі падлягаючымі цэнтру. К. ЛАВРОВ („Эхо“ № 200).

**Хто вучыць нашых дзяцей.**

Што беларускіх школ ня даюць і што іх як няма, пад польскай окупацыяй дык аб гэтым шмат пісалася і пішыцца ў беларускіх газэтах, аб гэтым кожды з нас ведае з практыкі жыцьцёвай, Але вось варта прыгледзіцца, хто запаўняе гэтую страшную для нас пустату.

Есьць польскія школы, лік іх па крысе павялічываецца, але будова школьнай сеткі ідзе ня зьнізу, не ад народу, а па загаду начальства.

Было ўжо ня раз адзначана што польскія школы пустуюць бо сяляне зусім рэзонна заяўляюць, што ў польскіх школах іх дзяцей калечаць, ужо не кажучы з боку нацыянальнага выхаваньня, але што горш, з пэдагогічнага і грамадзкага.

К нам на „крэсы“ пападаюць вучыцялі з „rdzennej“ Польшчы, якія ні дзяцей, ні дзеці іх не разумеюць. Гэта адбіваецца на псыхіцы дзяцінцай і стварае варажыя адносіны да настаўнікаў і нялюбоў да навукі.

Вучыцялі гэтыя часта густа без ніякай пэдагагічнай кваліфікацыі, а бываюць нават зусім мала пісьменныя. Зьлятаюцца яны да нас па тэй простай прычыне, што ў Польшчы не хапае як кажуць пораху на вялізарныя абшары „крэсаў“ якія зусім натуральна ня могуць выланіць належнага ліку сяўцоў польскай культуры, а пасьля вучыцелі гэтыя зьяўляюцца другаком, ці лепш „на табе Божа, што нам нягожа“,—лепшыя сілы астаюцца ў Польшчы. Выхаваныя ў клерыкальна-шляхоцкім духу (бо інак яны не маглі-б папасьці на вучыцяльскія пасады), лічаць заданьнем адукацыі знаць, дасканальна малітвы і службу касьцельную, нават праваслаўным, пяяць польскія патрыятычныя песьні, умець праслаўляць магутнасьць каралёў польскіх.

Разумеецца, ўсё гэта дужа трудна прывіваецца да дзяцей, выходзячых з працоўнай гушчы, што вызывае абураньне і ненавісьць вучыцялёў гура-патрыотаў. Каб ня быць галаслоўным, дык вось некалькі фактаў.

Вучыцелька Вяронскай школы А. Базарэўская (Дунілаўскі павет) ладзіла вечарыну, на якую былі запрошаны бадай усе вучыцялі палякі з усей гміны. У часе банкету, за лікёрам, адзін з прысутных вучыцялёў —„koroniarz“ сказаў прамову да прысутных, у якой, паміж іншым, высказаў: „Białorusini nie naród, a swine. Ja ich tak nienawidzę, że podpalał bym wioski z obydwóch końców i puszczał bym z dymem, a tu przychodzi się kształcić te chamstwo“.

А то былі выпадкі, што вучыцелькі кідалі навучаньне сярод школьнага году толькі дзеля таго, „że te chamstwo żyje bez Boga“.

Даручаць лёс нашых дзяцей, такім настаўнікам справа дужа шкодная і небясьпечная. За малым выключэньнем яны працюць толькі за грошы, дзеля грошаў. Аб духовым разьвіцьці аб выхаваньні барацьбістаў у агульна людзкім разуменьню ня можа быць гутаркі. Наадварот, вядзецца пляновае атручываньне душы дзіцячай нацыянальным антаганізмам, прышчапляецца панская ідэалёгія, ачмучываюцца шовінізмам.

Вынікі ад такога навучаньня будуць вельмі сумныя для абедзьвех старон.

Што думаюць сабе польскія школьныя кіраўнікі?! Гэта-ж кожндаму, у каго больш менш працуе розум, выразна зразумела, што такая школа ня можа прывіцца беларускаму народу, што гэта ня ёсьць школа, а фабрыка гура-патрыотаў, калечаньне дзяцей, што прыйдзе час, калі здаровыя інстінкты працоўнага народу змушаны будуць даць адпор, каб захаваць сваю жыцьцёвасьць, сваю праўду. Р. Юргілевіч.

[„Наш Сьцяг“].

# С-пад Польшчы.

**Прапанова склікаць Усебеларускі Зьезд Заходняй Беларусі.** Гэтае пытаньне падняў „Наш Сьцяг“ ў № 17 ад 27 VIII, які гэтак абасновывае патрэбу такога зьезду:

„Раз мы прызнаем, што Заходняя часьць Беларусі, адрэзаная ад Усходняй няведама як доўга будзе мадзець у межах Польшчы і адначасна павінна захаваць нацыянальнае адзінства перш-на-перш ў сябе ўнутры, дык значыць гэтая Заходняя часьць павінна выпрацаваць сваю асаблівую індывідуальнасьць, зрабіцца індывідуальным, самаістым цэлым.

„А раз гэта так, знача гэтае індывідуальнае цэлае г. зн. Заходняя Беларусь павінна мець свой асаблівы цэнтр, сваю цэнтральную арганізацыю. Без такога цэнтральнага органа, як мы ведаем, ні ў біолёгічным, ні тым больш у палітычным сьвеце не магчыма ніякае арганічнае адзінства, немагчыма захаваньне у ім самаістасьці, а нават жыцьця.

Заканчываецца перадавіца на гэту тэму заклікам: „Зьезд павінен быць неадкладна скліканым“. За надрукаваньне гэтай перадавіцы № 17 „Нашага Сьцягу“ канфіскаваны, рэдактар пацягнуты да судовай адказнасьці.

**Агітатары Rozwoj'а**. „Наш Сьцяг“ № 19. падае цікавую корэспандэнцыю з мястэчка Краснага, Вялейскага павету, з якой відаць, што ў гэтым закутку старэньнем мясцовых палякаў адкрыт аддзел антысэміцкага таварыства „Rozwój“. Між прапагатарамі ідэй „Rozwoja“ аказаўся прафэсар Віленскага Унівэрсытэту Стэфана Баторага, Парчэўскі, які тры разы ўжо прыезджаў у Краснае і чытаў там ў „Rozwoju“ свае лекцыі.

**Мандат пасла Аусяніка.** 11 VII, г.г. у Найвышэйшым Судзе ў Варшаве разглядалася справа запратэставаньня мандату пасла Антона Аўсяніка. Мандат пасла Аўсяніка быў запратэставаны ў Сойме 3 XII 22 г. Соймавымі Клюбамі эндэкаў і хадэкаў, якія ў сваім пратэсьце даводзілі бытцам гр. Аўсянік ня мае „obywatelstwa“. Аднак 11 г. ліпня Найвышэйшы Суд мандат Аўсяніка прызнаў важным і гэтым самым яго грамадзянскую прыналежнасьць да Польскае Рэспублікі зацьвердзіў.

**Палута Бадунова** вядомая беларуская дзяячка затрымалася праездам заграніцу ў Вільні на некалькі дзён.

**Польскі шовінізм.** Віленская эндэцкая газэта „Dziennik Wilenski“ з абурэньнем адмовіўся надрукаваць справаздачу аб скарбоначным зборы на карысьць беларускіх бедных дзетак.

**Закрыцьце літоускай газэты.** Згодна з пастановай Акружнога Суда закрыта тыднёвая літоўская газэта „Wilniaus Kiles“.

# С-пад Расіі.

**Амністыя Беларусам**. З прычыны сьвята 3 угодак асвабаджэньня гор. Менска ад „улады буржуазіі і ўмацаваньня ў ім улады працуючага стану“ апавешчана амністыя беларускім дзеячам. Пасьля агітацыйнага ўступленьня, пастанова кажа:

— „Моц улады Саветаў ў Беларусі стала ачавістай ня толькі для яе прыхільнікаў, але і для тых, хто яшчэ ўчора адносіўся да яе з недаверьем. Учарайшыя праціўнікі Са-

вецкай Улады, кіруючыяся ў сваей супроцьрадавай дзейнасьці ве́рай у сілу расплывістых і абманных дэмократычных ідэалаў, мяняюць свой фронт і пачынаюць арьентавацца на радавую ўладу, бачучы ў ёй адзінага цьвёрдага кіраўніка зруйнаванай гаспадаркі і развіцьця асьветы Беларусі дзеля запраўднага забаспечаньня інтэрасаў працоўных.

„Прымаючы гэта пад увагу, а такжа хочучы даць магчымасьць сумленным людзям загладзіць сваё прошлае шчырым раскаяньнем і сваей ахвярнай работай на карысьць інтэрасаў працоўных, Прэзыдыум Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту Сувязі Сав. Сац. Рэспублік і Прэзыдыум Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту Соц. Сав. Рэспублікі Беларусі, апавяшчаючы 11 ліпеня, ў дзень угодкаў асвабаджэньня Менска ад ўлады буржуазіі, агульнанародным. сьвятам для Савецкай Беларусі, апавяшчае амністыю ўсім ніжэй пералічаным катэгорыям асоб, прымаўшых да гэтага удзел у супроцьсавецкіх дзеяньнях.

1) Учасьнікам антысавецкіх нацыянальным беларускіх фармаваньняў пэрыёду 1918, 1919 і 1920 г. г., паходзячым з працоўнай клясы.

2) Усім беларускім палітычным і культурным дзеячам, быўшым учасьнікам беларускіх нацыянальных антысавецкіх арганізацый, і сябрам так-званых беларускіх нацыянальных урадаў (Вялікая Беларуская Рада, Найвышэйшая Рада, Урад Беларускай Народнай Рэспублікі, Беларуская Вайсковая Камісыя і др.), ня прымаючым актыўнага удзелу ў барадзьбе з Савецкай ўладай у радох савінкаўскіх, балахоўскіх і др, белагвардзейскіх арганізацый і ня быўшым на службе ў органах контрразведкі і палітычнай абароны буржуазных дзяржаваў, каторыя публічна аб'явілі аб лойяльных адносінах да радавай улады.

3) Тым з быўшых сяброў Беларускай Партыі Соцыялістаў-Рэволюцыянэраў і другіх беларускіх партый, якія публічна аб'явілі аб сваім выхадзе з партыі і лойяльных адносінах да Радавай улады.

4) Усім беларускім селянам, па нясьвядомасьці ўцягнутым арганізацыямі расійскай контр-рэвалюцыі і беларускімі агентамі, быўшых на услугах замежных дзяржаў, у бандыцкіх шайках або дапамагаўшым апошнім, у тым ліку і уцёкшым за межы Саюза Сав. Сац. Рэспублік.

Увага. Амністыя не датыча арганізатараў банд і іх каманднага складу.

Падпісалі М. Калінін, А. Чэрвякоў і А. Енукідзэ.

Як на гэту амністыю рэагуюць беларускія нацыянальныя арганізацыі, палітычныя партыі і Урады, пакуль што німа вестак.

**Батанічны сад.** Па пастанове прэзыдыуму менскага Губісполкому, быўшыя жыдоўскія могілкі перадаюцца пад батанічны сад Беларускаму Сельскагаспадарчаму Інстытуту і Беларускаму Дзяржаўнаму Унівэрсытэту.

Ціж ня было ўжо іншага кавалка зямлі у Менску пад Батанічны сад?

**Пашырэньне сельска-гаспадарчай каапэрацыі на Беларусі.** У канцы 21 году Беларуская Сувязь сельска-гаспадарчай прамысловасьці зьяднала толькі 13 сельска-гаспадарчых таварыстваў. Да 1 беларускага зьезду сельска-гаспадарчай каапэрацыі іх было ўжо 61.

У цяперашні час у Савецкай Беларусі ёсьць 112 таварыстваў з агульным лікам сяброў у 5.000.

Увага с.-г. каапэрацыі зьвяртаецца ў напрамку разьвіцьця ўласнай прамысловасьці. Цэнтр увагі — выработка масла. Ужо працуе маславырабны завод у Горках, Барысаўскага павету. Некалькі заводаў адчынена пры с.-г. таварыствах.

**Сельска-гаспадарскі банк.** З Масквы атрыманы зацьверджаны ўстаў с.-г. банку Беларусі, Арганізацыйнае бюро ў зьвязку з гэтым ўносіць у Эканамічную Нараду пытаньне аб назначэньні тэрміну устаноўчых паёў.

**Удзел Беларусі у Ніжагародзкай ярмарцы.** У зьвязку з наступнай Ніжагародзкай ярмаркай Дзяржаўны банк Беларусі мае паслаць у ярмарачны камітэт сьпіс усіх гаспадарчых і эканамічных органаў Беларусі, маючых прыняць удзел у ярмарцы, з адзначэньнем іх крэдыта-здольнасьці.

## З Латвіі.

**Беларускія скауты.** Пры беларускай гімназыі ў Люцыне арганізаваўся атрад беларускіх скаўтаў і гайдаў (скаўтаў дзяўчат).

**Экскурсыя гімназыі.** 20, 21 і 22 траўня, пад кіраўніцтвам Дырэктара гімназыі грам. К. Езавітава, адбылася экскурсыя вучняў гімназыі (ў ліку 30 чалавек, з духовым аркестрам) у мястэчка Розанава і двор Залесьсе. У Розанаве вучні адыгралі на сцэне „Паўлінку“ Я. Купалы, са сьпевамі вучнёўскага хору. У Залесьсі устроена было дзіцячае сьвята, на якоя, паведамленыя загадзя, сабраліся акалічныя селянскія дзеці. Тут, таксама, была пастаўлена на сцэне „Паўлінка“ і пеяў вучнёўскі хор беларускія песьні. Першая спроба гэткай экскурсыі дала ўжо добрыя вынікі і пачулася блізасьць між жыхарствам і вучнямі беларускай школы, а за гэтым вялікае зацікаўленьне вёскі і школай і беларускім адраджэньнем.

**Вучнёуская выстаука малюнкау.** У пачатку 1923—24 вучомнага году адбудзецца вучнёўская выстаўка малюнкаў. З Беларускай гімназыі дзейна гатуюць малюнкі на выстаўку лепшыя вучні.

## З Літвы.

**Матэматычны слоунік.** Карыстаючы з матэрьялаў і прац сабраных літоўскімі вучонымі займаючыміся разпрацоўкай тэрміналёгіі для літоўскіх школ і навукі, Інж. К. Душэўскі і В. Ластоўскі улажылі слоўнік матэматычнай тэрміналёгіі, які будзе ў гэтым месяцы здадзены ў друк.

**Анатомія і фізыялёгія**, перакладзеная Д-р І. Цьвікевічам, у гэтым месяцы пойдзе ў друк. Выдавецкі аддзел Міністэрства Беларускіх Спраў у Літве просіць надсылаць яму папраўкі, калі ў каго маюцца, да тэрмыналёгіі В. Л., надрукаванай ў парадку дыскусыйным, у № 1 „Крывіча“, якая ўзята за аснову, згодна жаданьню апрацовываўшага кнігу Др. І. Цьвікевіча.

## З Амэрыкі.

**Лекцыя Антона Змагара.** Выдатны беларускі дзеяч у Амэрыцы Антон Змагар прачытаў лекцыю, ладжаную Беларускім Камітэтам у Чыкаго. Лекцыя была на тэму: „Становішча сялянства на Беларусі“.

**Праца беларусау у Амэрыцы.** У газэце „Свободная Россия“ якая выходзіць у Чыкаго надрукована ў № 136 гэткае паведамленьне: „Беларускі Камітэт у нядзелю 19-га жніўня, ў Нэйшыональ Грв, ладзіць

грандыозны пікнік. Мэта пікніка—помач палітычным вязьням Беларусі ў Польшчы. Просім усе спачуваючыя беларускай справе арганізацыі ў гэты дзень не ладзіц народных сходаў. На першым беларускім пікніку выступяць з прамовамі таксама выдатныя дзеячы ня толькі Беларусі, але Расіі, Літвы, Украіны і інш.

**Саут Амбой, Нью Джорзі.** Беларусы, якія тут ужо даўно жывуць ўперад належалі да расійскіх ці польскіх арганізацый, цяпер перакаваліся ў патрэбнасьці стварэньня сваей нацыянальнай арганізацыі, якая аб'яднала-бы ўсіх беларусаў і дапамагла-бы беларускім установам на Бацькаўшчыне ў барацьбе за лепшую долю нашага Селянскага Народу. Нашыя рабочыя сьвядома, з пункту гледжаньня сваей клясы, падходзяць да нацыянальнага пытаньня. Мы перасталі бадзяцца па задворках чужых нацый і цьверда парашылі будаваць сваю культуру сваімі рукамі. Гурток наш пакуль-што нявялічкі, але ўжо маемо 30 сяброў, якія гатовы жыцьцё аддаць за Вызваленьня Беларусі. Шлем нашае братэрскае прывітаньне усім тым, хто ідзе нашым Шляхам там на Беларусі.

Алесь Кульчыцкі.
(„Наш Сьцяг“ № 18)

# Бібліографія.

**„Беларускі студэнт“.** N 4—5, красавік—май. Месячнік, фармат 30×24 цн. Прага, Зьмест: „Першы абавязак—Брачыслаў Скарыніч. „Абвешчанье незалежнасьці Беларусі ў сьвятле ідэі гаспадарсьцьвенасцьі“ (Рэфэрат чытаны 25.III 1923 ў часе сьвяткаваньня беларускай эміграцыей у Празе 5—х угодак абв. незалежнасьці Беларусі). „Языкаведны куток“ Я. Станкевіч. „Паміж двух агнёў“. 3 цыклю апявяданьняў на тле падзей 1920 г. Грывіч. „Людзкое.“ (Малюнкі жыцьця), Леў-Леускі. Хроніка. Кнігапісь. Маленькі фэльятончык на тэмы нашых дзён, аб усім.

**„Ластаўка“.** Вучнёўская часопісь Люцынскае беларускае гімназыі. Выдаецца з дазволу Міністэрства Прасьветы і за адпаведнасьцю кіраўніка гімназыі К. Езавітава. № 1 травень 1923 г.; і № 2 чэрвень 1923 г. (Выданьне на шапірографе). Фармат 23×18 цм. № 1 мае 26 стр.; № 2 мае 31 стр., з ілюстрацыямі. Рэдактар—Рэдакцыйная Калегія. Выдавец—Выдавецкая сэкцыя вучнеўскага гуртка Люцынскай Беларускай гімназыі. Кошт нумару 25 руб.

Выдана „Ластаўка“ чысьценька, старэнна, ў чым відаць любячую руку кіраўніка гімназыі. Зьмест так сама вельмі сымпатычнае робіць ўражаньне, асабліва вучнёўскія спробы ў беларускім вершы і прозе. У № 2 шмат месца пасьвячана скаўцкім справам. Праглядаючы „Ластаўку“ так і цісьнецца на вусны пажаданьне каб, запраўды, гэтая мілая „Ластавачка“ была прадвесьніцай беларускага нацыянальнага адраджэньня ў далёкім Люцыне, каб з радоў яе супрацоўнікаў выйшлі запраўдныя абаронцы свайго загнанага і занядбанага норду. S

**Літоўскія вайсковыя часопісі аб беларусах.** У першай палове 1923 г. двухмесячнік ваяўніцтва і гісторыі „Mūsų Žynypas“ зьмесьціў крытыкі на кніжкі:

а) „Белорусскій этнограф“ 1922, N N 1—2

б) Езовитов К. „Белоруссы и поляки“ Ковна, 1919 г. (Майёр Ружанцоў).

в) Некрашэвіч С. „Беларускі Лемэнтар“ Бэрлін 1922.

г) Тэрраўскі І. „Беларускі лірнік“. Бэрлін 1922 (Я. Варонка).

д) „Труды Белорусского Государственного Университета в Минске“. 1922 г. (кап. Степонайтіс).

е) Maćkowski Z. „Od Słuczy nad Dźwinę. Warszawa 1922 (майёр Вацлаў Біржышка).

У тыднёвіку „Karys“ пададзена за гэты год шмат розных вестак аб падзеях на Беларусі. Др.

# Свая почта.

АНТОНУ МІХ—ЧІВҮ. Рукапісь Ваш ня будзе надрукаваны ў „Крывічу“, бо ён разьбірае галоўна сваркі і звадкі між нашымі студэнтамі на чужыне.

ЛІТЭРАТАРУ. Бачыце, ёсьць у Спэнсэра аблічэньне, якім слоўнікам карыстаецца англіцкі звозчык, нізшы чыноўнік і літэратар. І, здаецца, рахунак вышоў такі: звозчыку на ўсе яго будныя і сьвяточныя патрэбы выстарчае слоўнік зложаны з 800 слоў, чыноўкіку з 2000—5000 слоў, а літэратару прыходзіцца карыстацца ўжо 10.000 славамі. Сэнс гэтага такі: што слоўніка вясковай кабеты „дзядзькоў і цётак“, як вы кажаця, мала для беларускай літэратуры. Прыходзіцца або запазычаць чужыя, або знаходзіць свае. Мы ідзем другой дарогай, саўсім згаджаючыся з нямецкім філёзафам які сказаў: „чужаземныя мовы трэба знаць не таму каб імі псаваць сваю мову, але каб знаючы, што чужое,—замяняць сваім“. Незразумелае Вам, ахвотна вытлумачым.

„Жокаць“—(рас. испарения,) „Жокаць над магілкаю, ў ціхі вечар ў постаць людзкую фармуецца“. (Дрысенскі павет).

„Крокаць“ (рас. трясина) зыбучае балота. „У недаступных крокацях вядуцца лапавухія чэрці“ Federowski „Lud Białoruski“ T. I стр. 16.

„Марва“—ўсё што памёрла, што мае мярцьвецкі выгляд, адгэтуль „мара“ (рас. кошмар, привидение).

„Цемьяна-перных“ (рас. курильно-пряных). Цімьянам даўней звалі кадзіла куреніе [Фиміам.] Гл. Вит. Стар. Т. IV. ч. I. грамата Улььяніі Ольгердовай і Акты выд. Вил. Археорг. Кам.

„Алёс“, „альса“, нямецк.—„торф“. Слоўнік Насовіча (стр. 5) гэтае слова тлумачыць памылкова: „топь, зыбкое мѣсто“, якое ён чуў у Бабруйскім і Навагрудзкім павеце. Да нідаўна ятчэ торф інačай як „алёс“ нідзе на Беларусі не называўся. Адгэтуль: альха—дрэва, якое парастае на тарфянішчах.

„Марва“ ужыта як ўласнае імя багіні апраметнай. Слова гэта знае Фэдэроўскі.

„Кон“, „канодны“ (рас. рок, роковой). Агульна беларуская мітычнае істота заведваючая доляй, лёсам. Карэнь гэты маецца ў словах—канец, закон, канаць. „Пастаў грошы на кон“, кажуць пры закладзе, або пры газарднай гульні.

„Дзевіна“—было ў № 1 „К“ (гл. запіскі], што Дзьвіна—вымаўляюць месцамі як Дзевіна. Есьць каля Полацка рэчка, ўпадаючая у Дзьвіну—Дзевінка [гл. Витеб. Стар Т. IV ч. I стр. 13].

„Стод“ (рас. истукан) слова ў гэтым значэньні вядомае з беларускай актовай мовы, акром гэтага маецца ў Суздальскай летапісі.

„Кудзебны“ рас. художественный, якое слова паходзіць не ад „худажыць“, а ад „кудесны , „чудесны“, „cudowny“; тут зайшла, частая ў славянзкіх мовах, замена *к* і *х* (кто, хто). У Вяліжскім павеце „кудзебнік“ запісана, ў тым-же значэньні, як у могілеўшчыне „мастак“.

# ПРЫМАЕЦЦА ПАДПІСКА НА 1923 і 1924 г.

F. Sokolovskienės, G. Lano ir M. Jolko Spaustuvė, Kaune, Maironio g-vė 10-12.
Друкарня Ф. Сакалоўскай, Г. Лана і М. Іолко, Коўна, Майроніо 10—12.